

Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.

**Здымкі, якія вы бачыце, зроблены на БелДРЭС—першынцы энергетыкі рэспублікі: так пачыналася БелДРЭС** (здымак злева ўзяты з архіва электрастанцыі); **здымак справа зроблен на цэнтральным пульце кіравання. Пяцьдзесят гадоў працуе на электрастанцыі Піліп Цімафеевіч Папкоў. Толькі служба ў арміі, барацьба з ворагам у час вайны адрывалі яго ад любімай работы. Сёння Папкоў працуе начальнікам змены. Камуніст, ветэран, настаўнік моладзі—ён паважаны чалавек у калектыве. Сфатаграфаваны ён у час дзяжурства са старшым электраманцёрам Уладзімірам Аляксандравічам Сіваком** (злева направа); **на прадпрыемстве ідзе рэканструкцыя. Значны ўклад у гэтую справу ўносіць інжынер-канструктар, намеснік сакратара партарганізацыі электрастанцыі Пётр Іванавіч Камандышка** (фота справа).

*Рэтраспектыўны рэпартаж з электрастанцыі, іншыя матэрыялы да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка глядзіце на 4—7-й старонках.*



Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№1 (577) СТУДЗЕНЬ 1987 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: ударнай працай адзначыў першы год дванаццатай пяцігодкі перадавік вытворчасці з аб'яднання «Бабруйскшына» Фёдар Фёдаравіч Савіч.

Фота Уладзіміра ШУБЫ.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.XI.86.
Падпісана да друку 16.XII.86.
АТ 00714.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 14 643 экз.
Зак. 1292.
Адрас рэдакцыі:
220005, Мінск,
вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.
220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі.

У ГОД 70-ГОДДЗЯ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА

# ХТО ЛЕПШЫ ІНЖЫНЕР?



**Цэнтральны Камітэт КПСС адобрыў вопыт работы партыйнай арганізацыі і працоўнага калектыву наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір»** па забеспячэнню паставак прадукцыі ў адпаведнасці з дагаворнымі абавязацельствамі.

Тут ва ўсіх цэхах і зменах набірае сілу сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Лепшыя рабочыя бяруць абавязацельствы — **завяршыць план двух гадоў пяцігодкі да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.**

Павагай у калектыве цэха аўтаматызацыі тэхналагічных працэсаў карыстаецца майстар — брыгадзір Віктар Краўцоў. Адзінаццаць гадоў назад ён пачынаў у аб'яднанні сваю працоўную біяграфію. Быў слесарам. За гэты час — без адрыву ад вытворчасці — скончыў БПІ.

Брыгада, якой кіруе камуніст В. Краўцоў, неаднаразова займала прызавыя месцы, а самому брыгадзіру ў апошнія два гады прысвойваецца званне лепшага інжынера аб'яднання.

г. Наваполацк.

**На здымку: В. Краўцоў (справа) і яго таварыш па працы, малады слесар камсамолец Аляксандр Шайтрок.**

ФЕЛЬЕТОННЫМ РАДКОМ

# «ПРЫВАРАК»

Адзін следчы — прозвішча яго і званне ўдакладняць тут не абавязкова — расказаў мне пра цікавы выпадак са сваёй практыкі.

Арыштавалі злодзея-рэцыдывіста. Ён «спецыялізаваўся» на кватэрных крадзяжах. Яго спыталі:

— Сумленне маўчала, не мучыла?

І злачынца адказаў:

— Варушылася, вядома, у душы нешта... Але толькі тады, калі бачыў: гаспадары кватэры — сумленныя людзі.

І растлумачыў, што даволі лёгка вызначаў прафесію пацярпеўшых. А таксама іх маральныя якасці. Вызначаў наступным чынам: усе кладоўкі забіты радыёдэталямі — з радыёзавода чалавек жыве тут. У шафах пасцельнай бялізны на дзесяць сем'яў і ўсе з дробненькімі штампамі — камендант інтэрната будзе трывожыць міліцыю.

Эх, «прыварк» з месца работы, і хто вас толькі выдумаў — нарадзіў?! А вось хто: «несуны», «сляпыя» вартаўнікі, дрэнны ўлік і кантроль, безгаспадарчасць...

Усё гэта — прычына агіднай з'явы. А вынік? Мы яго таксама ведаем. Нават адчуваем.

Аднак яшчэ і сёння можна пачуць:

— Працую на кандытарскай фабрыцы і каб дома цукерак з цэха не было? Дзівацтва якое!

Або:

— Цясляр я. Дык няўжо за свае грошы малаток купляць буду?! Смешна.

Вельмі жывучы «прыварак». Асабліва там, дзе шмат гадоў ён проста працвітаў. Дзе быў для некаторых больш важкім за зарплату.

Вось вам прыклад.

Добры мясакамбінат у Маладзечне. Каўбасу там выпрацоўваюць выдатную. А яшчэ на чым спецыялізуюцца? Чым займаюцца?

— Крадуць! Зноў крадуць! — паступіў далёка не першы такі сігнал у ГРАУС.

І адправіліся — таксама зусім не ўпершыню — супрацоўнікі АБРСУ разам з работнікамі пазаведамаснай аховы выкараняць парушэнні сацыялістычнай законнасці. І імгненна ўстанавілі сярэднюю вагу сучаснага «прыварку» некалькіх работнікаў камбіната. Па сем кілаграмаў мясапрадуктаў выносілі ў авоськах — гэта ў сярэднім — прадпрымальныя знаўцы каўбас.

Вынік: выязное пасяджэнне народнага суда. 200 рублёў штрафу. З каго штраф? Вядома, са зладзеяў, якія папаліся. І вы думаеце, ён напалохаў іх?! Рашуча прымусіў усіх членаў працоўнага калектыву па-новаму паглядзець на свае адносіны да «прыварку»?!

— Крадуць! Зноў крадуць! — паступіў сігнал у ГРАУС пасля пасяджэння выязного народнага суда на мясакамбінаце.

г. Маладзечна.

УВАГА: ВОПЫТ!

# ПЯЦЬ «ЗВАЛЬНЕННЯЎ» ЗА ДВА МЕСЯЦЫ

Што здарылася? Чаму спецыялісты некаторых беларускіх саўгасаў-тэхнікумаў патрабуюць камандзіраваць іх у Чэрвеньскі раён?

А ўсё вельмі проста. **Там з'явілася — пакуль адзіная і незвычайная — новая ферма. Яна — вучэбная. І пабудаваў яе гаспадарчым спосабам Смілавіцкі саўгас-тэхнікум** спецыяльна для навучэнцаў заатэхнічнага аддзялення.

Давялося пабудаваць...

Бо раней як было? Прыязджалі студэнты на практыку пад дахі «фабрык мяса і малака» і... вельмі часта аказваліся на падсобных работах.

— Спачатку гной навучыцеся ўбіраць!

Цяпер будучыя заатэхнікі — гаспадары сваёй фермы. Дарэчы, вельмі сучаснай.

**Тут ёсць усё неабходнае для паўнацэннай вытворчай практыкі: кароўнік на 50 галоў, два адкормачнікі на 160 галоў буйной рагатай жывёлы кожны, кармацэх. Вытворчыя памяшканні поўнасцю механізаваны.**

Кожны з навучэнцаў за час практыкі на новай ферме абавязаны засвоіць усе віды работ — быць аператарам машыннага даення, працаваць на адкорме, у кармацэху, выконваць абавязкі лабаранта, брыгадзіра...

Як мінімум пяць «звальненняў» за некалькі тыдняў. І якіх карысных для працэсу навучання!

Вось і едуць сюды з іншых саўгасаў-тэхнікумаў за вопытам.

Чэрвеньскі раён.

ЗУСІМ КОРАТКА

**Кінааматары Магілёўскага аўтазавода імя С. М. Кірава пачалі здымкі новай стужкі «Каштоўнасці». Фільм-роздум аб маральных каштоўнасцях чалавека пабудаваны ў форме дыялога з людзьмі розных прафесій.**

Працуюць над новым фільмам і юныя кінематаграфісты — члены дзіцячай студыі «Крынічка», створанай пры «МаАЗфільме». Юнакі ў захапляючай форме расказваюць аб сваім дзесятым класе, роднай школе, аб выбары прафесіі. Будучы фільм студыйцы назвалі «Дзяцінства маё, пастой!».

ТЭХНІКА XII ПЯЦІГОДКІ




# ДУЖЭЕ «МАНАЛІТ»

Віцебскае вытворчае аб'яднанне «Маналіт». У яго цэхах будзе ўстаноўлена 150 аўтаматычных ліній, 300 адзінак другога высокаэфектыўнага абсталявання, укаранёна каля тысячы прагрэсіўных прыстасаванняў і аснасткі. **Шырокае выкарыстанне новай тэхнікі і тэхналогіі ў паўтара раза павялічыць выпуск прадукцыі, на 18 працэнтаў знізіць сабекошт вырабаў, значна паменшыць іх працаёмкасць, на некаторых участках скароціць колькасць рабочых месц.**

**На здымку: у адным з цэхаў прадпрыемства. Тут устаноўлены высокапрадукцыйныя лініі з закончаным цыклам.**



ЗМЕНА

## ЗАЛІКІ І ЭКЗАМЕНЫ...

Ва універсітэтах і інстытутах, у тэхнікумах і вучылішчах цяпер асаблівая пара — экзамены.

І няважна, якую прафесію ты атрымаеш, а важна іншае: ці правільна выбраў спецыяльнасць, ці добрасумленна авалодваеш ведамі...

**Каля 900 юнакоў вучыцца ў Мінскім авіяцыйным тэхнічным вучылішчы. Тут ім створаны ўсе ўмовы для набыцця трывалых ведаў.** Вопытныя педагогі робяць усё, каб навучэнцы сталі сапраўднымі майстрамі сваёй справы, усебакова развітымі людзьмі. Каля дзвюх тысяч выпускнікоў вучылішча працуюць ва ўсіх кутках нашай краіны. Іх галоўная задача — якаснае тэхнічнае абслугоўванне авіяцыйнага і радыёэлектроннага абсталявання для забеспячэння бяспекі і рэгулярнасці палётаў.

**На здымку: камсорг Іван Дземух з'яўляецца прыкладам для сваіх таварышаў у вучобе і грамадскіх справах.**

РЭПАРТАЖ

## ПЧОЛЫ Ў СТУДЗЕНІ НЕ СПЯЦЬ

На вуліцы завіруха. Змёрз. З задавальненнем адчыняю гэтыя дзверы. І бачу...

Вось пальмы, пеўчыя птушкі. Вось агародніння градкі і квітнеючыя агурочныя плантацыі.

«Пастаянная тэмпература паветра +18— 24 °С» — чытаю пры ўваходзе.

Можна і не чытаць: трапічная вільготнасць цёплага паветра адчуваецца адразу.

Зняў паліто, прыгатаваўся да падарожжа ў лета.

— Я вам пакажу, дзе пчолы зімуюць,— прапанавала работніца Мінскага парніковацяплічнага камбіната Яўгенія Трафімаўна Пянкрат.— Зараз адчынім гэтыя дзверы, і за імі — вулей, а таксама агарод. Тут і жывуць пчолы. Яны не для прыгажосці. Працуюць, апыляюць...

Запісваю ў блакнот лічбу: 36 тысяч квадратных метраў. Гэта плошча прадпрыемства, на галоўным канвееры якога круглы год — свежая агародніна.

Адразу ўзнікае пытанне: 36 тысяч — гэта многа ці мала? З чым можна параўнаць, каб больш наглядна ўявіць размах работы калектыву камбіната?

Работніцы камбіната Ніна Іванаўна Сянкевіч, Галіна Мікалаеўна Дашчынская і Яўгенія Трафімаўна Пянкрат растлумачылі, што пасадзіць агуркі, пятрушку, памідоры напярэдадні Новага года, а сабраць ураджай у сакавіку ніколькі не лягчэй, чым вырасціць, напрыклад, ружы. Нават цяжэй.

З Галінай Мікалаеўнай Дашчынскай мы пазнаёміліся, калі яна ішла ўздоўж доўгай «агурковай сцяны» і прыдзірліва аглядала кожны парастак. Час ад часу прыпынялася і бралася за «вылечванне» раслін. Кошык у яе руках хутка напаўняўся сарванымі «вусікамі».

— Гэта лішняе? — пытаюся.

— Так. На выгляд маленькія, а пажыўных сокаў з карэнняў бяруць шмат. Недагледзіш, палянуешся абысці градкі — адаб'ецца на ўраджаі.

Збіты з панталыку голуб б'ецца аб шкло. Яму хочацца сюды, у царства зеляніны. Нічога не зробіш: такі госць тут зусім не патрэбен. А вось для сініц зроблена выключэнне.

— Зімуюць. Шкодных жучкоў-чарвячкоў знаходзяць. Не шкодзяць.

Расказваючы аб цяпліцах, ніяк нельга забыцца напомніць пра надзіва ўрадлівую глебу.

Грунт для цяпліц не прывязеш гатовым. Яго трэба... вырабляць. Каб у ім было ўсё ў пэўных прапорцыях: і торф, і апілкі, і палявая глеба, і арганіка... Карацей кажучы, шмат чаго. Без такога складанага, урадлівага грунту не ўдавалася б у несезонны і зімовы перыяды адпраўляць мінчанам восем тысяч пяцьсот цэнтнераў самай рознай свежай агародніны.

...Раблю адзін крок і... падымаю каўнер. Халаднаватым здалося надвор'е пасля двухгадзіннага падарожжа ў лета.

г. Мінск.



## ПЕРАД ПЕРШЫМ КАНЦЭРТАМ

У гэтым будынку ўсе паверхі напоўнены музыкай, быццам веснавы лес птушыным гоманам. **Сотні юнакоў і дзяўчат Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага асвойваюць музычную спадчыну вялікіх кампазітараў і спрабуюць пісаць самі.** Міне час, і сённяшнія студэнты панясуць людзям чароўны свет музыкі.

**На здымку: са студэнткай І курса аркестравага факультэта Вольгай Рабцэвіч вядзе занятк і прафесар кансерваторыі, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР М. Д. Браценікаў.**

## ЗАЙГРАЕ НА СОНЦЫ МАЗАІКА

Мастак Уладзімір Крываблоцкі закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Яго дыпломную работу (праект роспісу аднаго з кінатэатраў у Брэсце) дзяржаўная камісія адзначыла ацэнкай «выдатна». З таго часу — вось ужо 10 гадоў — ён працуе на Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце. Яго лепшая работа — манументальны роспіс ва Ушацкім музеі народнай славы. Гэты твор аб гераізме і мужнасці беларускага народа.

У станковым жывапісе Уладзімір паказаў: ён — майстар. Малады майстар высокага класа. Крываблоцкі ўдзельнічаў на многіх усесаюзных і рэспубліканскіх выстаўках. Увагу мастацтвазнаўцаў і наведвальнікаў гэтых вернісажаў прыцягнулі яго палотны «Прарыў», «Удваіх», трыпціх «Маці Зямлі», партрэт В. Дуніна-Марцінкевіча, іншыя творы.

Цяпер Уладзімір (разам з мастаком Ю. Багушэвічам) рыхтуе эскізы мазаічнага афармлення некалькіх буйных будынкаў у Брэсце.

Брэст — Мінск.

МАЛАДЫЯ МАЙСТРЫ



**На здымку: лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі мастак У. Крываблоцкі.**

**Выпуск падрыхтаваў Валерый ЛАПІН.**
**Фота Яўгена ДАРАШЭВІЧА і БЕЛТА.**



# З імем Леніна,

**АЎТОГРАФЫ ПЯЦІГОДАК**

**Аляксей Яфімавіч Лабачоў, старшыня савета ветэранаў партыі Партызанскага раёна Мінска, камуніст з ліпеня 1919 года, удзельнік рэвалюцыі.**

*Кастрычнік семнаццатага года, грамадзянская вайна, першая пяцігодка... Я шчаслівы, што быў удзельнікам гэтых вялікіх падзей.*

### *ЗМАГАННІКАМ ЗА КАСТРЫЧНІК*

Бушавала бура з сілай нечуванай,
А вы йшлі напорна
крокам нестрыманым.

Вар'яцела мора, пеніліся хвалі,
А вы йшлі няспынна — вабілі вас далі.

Бухалі гарматы, грукацелі громы,
А вы йшлі наперад віхрам-бураломам,

Разбівалі ковы, векавыя путы,
А на кожным кроку вораг злы і люты.

І было змаганне, ой, было змаганне!
Не хацеў стары свет
страціць панавання.

Каледзін, Карнілаў, Калчак і Дзянікін —
Йшла навала супраць
у шаленстве дзікім.

І каваў кайданы вораг за граніцай,
Ды ніхто не здолеў той жывой крыніцы.

Ліха, небяспека ўсюды вас чакала,—
Згінула ў дарозе змагароў нямала.

А дарога ваша — горы, перавалы,
Але ўсё здалелі раці занядбалых.

Пройдзеш шлях пачэсны,
трудны і вялікі,
Не залье яго той шквал шалёна-дзікі,

Што падняць гатовы
Чэмберлен заця́ты,—
Кінуты па свеце добрыя зярняты.

Выйшлі зерні тыя ў шоўкавыя руні,—
Праўдай сталі вашы мары аб камуне.

Якуб КОЛАС.



*БелДРЭС — адна з трыццаці станцый, якія пабудаваны па ленінскаму плану ГОЭЛРО.*

# СВЯТЛО АГНЁЎ КАМУНАРАЎ

### ТЭЛЕГРАМА

«У дзень сёмай гадавіны вызвалення працоўных Беларусі ад нацыянальнага прыгнёту белагвардзейшчыны дасылаю гарачае прывітанне рабочым і сялянам Савецкай Беларусі і віншую іх з пачаткам Асінбуда.

**Р. К. АРДЖАНІКІДЗЕ.»**



Праз дзве гадзіны пасля таго, як Арджанікідзе аддыктаваў гэтыя радкі, тэлеграму ўжо чыталі на мітынгу.

Мітынг не быў вельмі вялікім: трыста чалавек. Учарашнія сяляне і чырвонаармейцы.

Ля самага балота стаялі яны з рыдлёўкамі і тачкамі. Глядзелі на трыбуну з шырокіх сасновых дошак, тут жа знаёміліся, крычалі: «Даеш электрычнасць!». І вось — тэлеграма з Масквы. Ад паплечніка Ільіча. Авацыі не змаўкалі некалькі мінут...

Адразу ж пасля мітынгу — закладка ДРЭС.

Яны працавалі з вялікім напружаннем сіл. І марылі аб дні пуску.

У першыя месяцы вяліся гарачыя дыскусіі на тэму: «Электрычны ток. Які ён?» Ніхто з іх, сельскіх хлопцаў, ні разу не бачыў нават лямпачкі... Многія дапытваліся ў інжынераў:

— У чым гэта самая электрычнасць будзе вывозіцца? У мяхах, цыстэрнах?

Словы «вольт» і «ампер» здаваліся загадкавымі.

Так, ведаў не хапала... А вельмі ж хутка з землякопаў трэба будзе перакваліфікавацца ў энергетыкаў!

— Што ж, значыць — вучыцца. Вечарамі, у выхадныя,— вырашылі асінбудаўцы.

І вучыліся.

Фундамент сваёй адукацыі ўзводзілі таксама хутка, як і фундамент станцыі.

У іх тумбачках «азбука» суседнічала з вучэбнымі дапаможнікамі па фізіцы, зборнікі вершаў Маякоўскага — з «Памяткамі камунара».

Дарэчы, прывядзём некалькі радкоў з «памятак», якія захаваліся. Яны і сёння не страцілі сваёй актуальнасці:

«Толькі праца — сапраўды высакародны занятак, толькі праца бессмяротная. Толькі працы належыць будучае».

«Памятай, таварыш, што дарагая кожная мінута».

«Старайся быць актыўным работнікам».

Гэтыя людзі пераадолелі ўсё: зімовую сцюжу ў палатках і зямлянках, крывавыя мазалі на далонях, перабоі з забеспячэннем будаўніцтва матэрыяламі і прадуктамі харчавання. Яны сталі згуртаванымі, загартаванымі, пісьменнымі.

14 лістапада 1930 года ў дамах сялян Аршанскага, Віцебскага, Шклоўскага і Магілёўскага раёнаў засвяціліся нябачаныя дагэтуль электралямпачкі. Запрацавалі электрарухавікі на прамысловых прадпрыемствах дзвюх абласцей Беларусі.

Так электрыфікацыя юнай рэспублікі перагарнула першую старонку сваёй гісторыі.

...Ужо 5 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі дала народнай гаспадарцы гэта ДРЭС. 5 мільярдаў!

— Вядома, наша станцыя — ветэран і па сённяшніх мерках даволі сціплая,— расказвае яе дырэктар Мікалай Антонавіч Піталенка.— З Лукомльскай, напрыклад, нават параўноўваць няёмка... Аднак першынец энергетыкі адчувае сябе бадзёра і на шостым мільярдзе кілават-гадзін дзейнасць сваю спыняць не збіраецца! Больш таго: у ДРЭС добрыя перспектывы...

— Што за перспектывы?

— Тут навокал шмат торфу. Больш за 50 гадоў выкарыстоўвалі яго як паліва. Цяпер вучоныя — па эканамічных меркаваннях — раяць нам пакінуць тарфянікі і паліць толькі мазут. Электраэнергіі станцыя зможа выпрацоўваць столькі ж, як і раней, а цяпла — значна больш. Цеплатрасы злучаць БелДРЭС з бліжэйшымі заводамі, комплексам па адкорму 15 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы, цяплічным камбінатам... Вось такі заўтрашні дзень у станцыі, якую будавалі камунары дваццатых гадоў.

**На здымках: ідзе будаўніцтва БелДРЭС (фота з музея прадпрыемства).**

**У турбінным зале БелДРЭС сёння.**

**Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.**

*ЛЕТАПІС ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ*

**У выніку паспяховага выканання задач першай пяцігодкі (1929—1932) пабудаваны фундамент сацыялістычнай эканомікі. Было ліквідавана беспрацоўе і ўстаноўлены 7-гадзінны працоўны дзень.**

**Сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне пяцігадовага плана дало выдатныя вынікі: усе задачы пяцігодкі былі выкананы за 4 гады і 3 месяцы.**

**1929**

**1 студзеня.** Урачыстае адкрыццё Акадэміі навук БССР (заснавана ў кастрычніку 1928).

**5—16 лютага.** XII з'езд КП(б)Б.

**8—15 мая.** IX Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Прыняцце 1-га пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі і культуры БССР.

**Ліпень.** Увод у дзеянне швейнай фабрыкі «Кастрычнік» у Мінску.

**10—14 жніўня.** I Усебеларускі злёт піянераў.

**13 кастрычніка.** Пуск трамвая ў Мінску.

**1929.** Увод у дзеянне Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната.

# ДАРОГАЙ РЭВАЛЮЦЫІ!

*Мне сказалі, што часопіс «Беларусь» у год 70-годдзя перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі будзе весці на сваіх старонках расказ аб пражытых намі пяцігодках. А значыць, аб тым, як увасабляліся ў жыццё ідэі Леніна, як развівалася і мацнела наша савецкая Радзіма, на якіх горкіх памылках даводзілася вучыцца...*

*Вядома, гісторыю краіны мы ведаем нядрэнна. Але вельмі карысна часцей звяртацца да яе. Асабліва маладым людзям.*

*Кожнае пяцігоддзе стваральнай працы мае свае грандыёзныя аўтографы: індустрыялізацыя, калектывізацыя, аднаўленне народнай гаспадаркі пасля Айчыннай вайны...*

*Думаю, што чытачам часопіса даецца добрая магчымасць азірнуцца на пройдзены намі шлях і ў нечым па-новаму ўбачыць дзень сённяшні.*

*АД РЭДАКЦЫІ: гутарку з А. Я. Лабачовым «Беларусь» публікуе ў наступным нумары часопіса.*



**КАМУНІЗМ — ГЭТА ЁСЦЬ САВЕЦКАЯ ЎЛАДА ПЛЮС ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ ЎСЕЙ КРАІНЫ.**

**У. І. ЛЕНІН.**



*13.10.1928 пастановай ЦВК і СНК БССР Інбелкульт (Інстытут беларускай культуры) рэарганізаваны ў АН БССР. Адкрыццё Акадэміі навук рэспублікі адбылося 1 студзеня 1929 года.*



## НАША АКАДЭМІЯ



Няма пэўнай даты, калі пачала сваю гісторыю навуковая думка ў Беларусі. Затое дакладна вядома, што напярэдадні рэвалюцыі існавалі тры беларускія навукова-даследчыя ўстановы: Беняконская сельскагаспадарчая доследная станцыя, станцыя лекавых раслін недалёка ад Магілёва і Мінская балотная станцыя. Усё. Дарэчы, першая ў царскай Расіі вышэйшая сельскагаспадарчая навучальная ўстанова — Горы-Горацкі земляробчы інстытут — яшчэ ў 1864 годзе быў пераведзены ў Пецярбург. Прычына пераводу: рэвалюцыйныя выступленні студэнтаў і выкладчыкаў. Так што толькі ў 1919 годзе ў Горках (на Магілёўшчыне) зноў загучалі словы «сесія», «доследы», «лекцыя»...

У дваццатыя гады адкрываецца БДУ, ствараецца Інстытут беларускай культуры, пры якім — 3 інстытуты, 17 кафедраў, 3 лабараторыі... Але гэта толькі пачатак! Падрыхтоўка да стварэння добра вядомай сёння ў навуковым свеце АН БССР. Вось прозвішчы першых яе акадэмікаў, яе заснавальнікаў: У. І. Пічэта, І. Д. Луцэвіч (Янка Купала), К. М. Міцкевіч (Якуб Колас), З. Х. Жылуновіч (Цішка Гартны)... Выдатныя мысліцелі і вучоныя.

80 навуковых работнікаў было ў дарэвалюцыйнай Расіі. Цяпер толькі ў АН БССР працуюць амаль 300 дактароў навук.

Сённяшні дзень Акадэміі — гэта пошук новых шляхоў шырокага развіцця навукі ў цеснай сувязі з патрэбнасцямі вытворчасці.

Фота Генадзя **БЯЛІЦКАГА.**

**1930**

**30 мая — 12 чэрвеня.** XIII з'езд КП(б)Б.

**26 чэрвеня — 13 ліпеня.** XVI з'езд ВКП(б).

**10 жніўня — 1 лістапада.** 1-я Усебеларуская сельскагаспадарчая і прамысловая выстаўка ў Мінску.

**1 кастрычніка.** Стварэнне ў Мінску Беларускай студыі оперы і балета. Кастрычнік. Адкрыццё Гомельскага аграпедагагічнага інстытута (з 1933 педінстытут).

**8 лістапада.** 1-шы ўсебеларускі суботнік.

**Лістапад.** Увод у дзеянне фабрыкі штучнага шоўку ў Магілёве, швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» ў Віцебску, 1-й чаргі Асінаўскай электрастанцыі (БелДРЭС).

**1930.** Адкрыццё Беларускага лесатэхнічнага інстытута ў Гомелі (з 1945 у Мінску, у 1961 пераўтваран у Беларускі тэхналагічны інстытут).

**1930.** Увод у дзеянне Гомсельмаша.

**1930.** Адкрыццё Бел. дзяржаўнага цэнтральнага тэатра рабочай моладзі ў Мінску.

**1931**

**3—9 студзеня.** Тыдзень Савецкай Беларусі ў Маскве.

# РАВЕСНІК РЭВАЛЮЦЫІ



Сто пражытых гадоў за плячамі Івана Яўстаф'евіча Крыпеца, персанальнага пенсіянера саюзнага значэння, удзельніка Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, члена Камуністычнай партыі з 1917 года. У мінулым годзе ветэран быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.

Усяго ставала на яго жыццёвых кручах. І суровыя гады першай сусветнай вайны, дзе ён быў цяжка паранены, гібель баявых таварышаў, незабыўныя дні Кастрычніка, калі маладая Краіна Саветаў набірала шырокі разгон на вольных гонях, гады аднаўлення. Ён ішоў поруч з тымі, кім мы ганарымся сёння...

— Я нарадзіўся на Лідчыне. Такіх, як мая родная і любая сэрцу вёска Дакудава, у тую далёкую пару было шмат на нашай шматпакутнай старонцы. Жылі ў наваколлі пераважна памяркоўныя, працавітыя людзі, гнулі на пана спіну ад цямна да цямна, у бога спагады прасілі. І канечне ж, марылі пра тое, што надыдзе светлая часіна, што будзе сонца ў яго старане...

Бацька мой Яўстафій Дзмітрыевіч зямлі сваёй меў вельмі мала, некалькі дзесяцін. На гэтым малаўрадлівым астраўочку не дужа і разгонішся, а таму і пракарміцца было ўсёй сям'ёй цяжка. Бацька біўся, паліваючы потам кожную грудку на тых валоках, але хлеб мы рэдка смакавалі ўдосталь, ашчаджалі кожную скібачку.

Кінуў бацька гэты занятак, плюнуўшы роспачна на земляробчыя пакуты, і вырашыў шукаць шчасце на гуце. Непадалёку ад нашых мясцін быў пабудаваны невялічкі саматужны заводзік, які вырабляў шкло. На прадпрыемстве, як і паўсюдна, гаспадарылі пракідныя іншаземцы-фундатары. На панскай гуце хлеб таксама быў нялёгкім. Гарачыня неймаверная каля шклоплавілень, у цесных, непрыстасаваных памяшканнях гулялі скразнякі, наўкола брудна, непрытульна, рабочых бессаромна эксплуатавалі, прымушаючы працаваць па чатырнаццаць гадзін на суткі. Са сваёй утомнай вахты бацька вяртаўся смяротна зняможаны, маўчаў. Спехам вячэраў і засынаў, не распранаючыся... Не прынесла жаданай капейчыны гута. І вырашыў бацька падацца на лесанарыхтоўкі да суседняга пана. У згаданыя мною часіны раскрадаліся панамі нашы багацці. Не перадаць, колькі каштоўнага лесу з нашай старонкі, з Лідчыны, плыло за мяжу — у Нямеччыну, Францыю, Англію. А чырвонцы ды залатоўкі, атрыманыя за лес, цяклі ў кішэні багацеям. Не абміналі і земскае начальства, чыноўнікаў сярэдняй рукі. І лідскія паны збіваліся да хаўрусная купы, балявалі. Напіўшыся, раз'язджалі на тройках, палявалі... А ў гэты час у нашым жа гаротным Дакудаве дзеці пухлі ад голаду, хварэлі... Бацька страціў адно вока, працуючы на панскай дзялянцы. Не забыць мне яго словы:

— Вучыся, Іванка. Вучонаму і вочы бог яснейшыя дае і дарога куды святлейшая стане... Вучыся і чалавекам адчуеш. Будзе часіна — і народ наш выпраміць плечы...

Бацька добра чытаў кнігі па-стараславянску і сучасныя. Мы слухалі старонкі з ягоных чытанак. Гэта была гісторыя Расійскай імперыі. Кніжка была выдадзена на таннай паперы, мела многа самых розных малюнкаў. І кожная старонка славіла вялікую імперыю, над якой сама высока сядзіць галоўны ўладар — цар-бацюхна. А зямлі ў імперыі вельмі багата, за жыццё не аб'едзеш на самых хуткіх конях. Не злічыць і людзей розных народнасцей «пад сонцам» царскай імперыі. На малюнках чытанкі мы ўзіраліся на выявы Пецярбурга, Масквы, Ніжняга Ноўгарада, бачылі цара са світай. І кожны сядзеў на кані, быў апрануты ў бліскучы мундзір з медалямі...

Бацька прыклаў нямала намаганняў, ашчаджаў на самым неабходным, але адправіў мяне «ў людзі». Некалькі зімак я вучыўся ў «хатняга» настаўніка, якога бацькі наймалі ў вёску... Вучоны хлопец па чарзе кватараваў па хатах. Вучыўся я ахвотна, вельмі стараўся, каб самому добра чытаць, пісаць... І неўзабаве ўжо бегаў у валасную пачатковую школу, што мясцілася ў Беліцы. Атрымаўшы пасведчанне аб заканчэнні другога свайго «універсітэта» — школы пры манастыры ў Барунах, некаторы час настаўнічаў у Ашмянскім павеце. То былі трывожныя гады першай рускай рэвалюцыі — 1905-ты і 1907-мы. Адчувалася, як сярод простага люду расце злосць на сваіх прыгнятальнікаў, як пеніцца хваля гневу.

Не быў і я ўбаку, пісаў у газету пра тое, што тварылася ў нашых мясцінах, пазнаёміўся з «крамольнай» літаратурай, чытаў сялянам. І мяне «выпхнулі» з Ашмяншчыны, забараніўшы настаўнічаць.

З маркотнымі думкамі скіраваў я ў Вільню, у новы хамут упрагацца, надумаўшыся працаваць у друкарні. Кнігу я палюбіў, прагна гарнуўся да рэвалюцыйнага палкага слова праўды.

Словалітчык — так звалася маё новае рамяство, якому я аддаў больш як дзесяць гадоў цяжкай, стамляючай працы. Першыя месяцы, як толькі заступіў на службу, не мог спаць, апантана вучыў лацінскую, польскую і яўрэйскую мовы, як таго вымагала ад мяне прафесія словалітчыка.

З падручнікаў па гісторыі і прыгадак вядомых людзей добра вядома, што ўяўляла сабой Вільня ў тыя гады, якраз напярэдадні сусветнай крывавай бойні — імперыялістычнай вайны, пазначанай чорнай датай — 1914 год. Я з галавой уцягнуўся ў рэвалюцыйны рух, неаднаразова выконваў рызыкоўныя даручэнні кіраўніка партыйнай ячэйкі, распаўсюджваў нелегальную літаратуру, удзельнічаў у стачках і святочных маёўках. У сутычцы з царскімі жандарамі быў арыштаваны. Адбыўся і скоры панскі суд. Праўда, сядзець давялося не ў турме, а ў акопах на перадавой. У 1914 годзе мяне, як і сотні тысяч маіх равеснікаў, прызвалі ў войска пад царскія штандары. Апрануў салдацкі шынель, атрымаў вінтоўку з вострым штыхом і вайой за веру, цара і айчыну. Памятаю тыя гарачыя баі пад Баранавічамі, удосталь нацярпеўся. У адной са штыхавых атак быў цяжка паранены, страціў многа крыві, доўгі час ляжаў у шпіталі горада Гомеля.

Потым зноў чатыры гады карміў акопных вошай, чуйна прыслухоўваючыся да таго, што рабілася навокал. Разам з бальшавіцкімі агітатарамі ішоў да салдацкіх мас з пякучымі словамі праўды — газетамі, брашурамі, лістоўкамі. Я агітаваў супраць братазабойнай вайны, якая прынесла столькі гора народам Еўропы.

З красавіка 1917 года адкрываецца новая, светлая старонка ў маім жыцці. Я, былы пехацінец лейбгвардыі, па рэкамендацыі вядомага бальшавіка Івана Якаўлевіча Алібегава быў накіраваны ў рабочы аддзел інжынерна-будаўнічых дружын Заходняга фронту. З партыйнымі даручэннямі мне давялося пабываць у шматлікіх гарадах Расіі. Мне радасна прыгадваць тыя часіны, калі я ў якасці члена Мінскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў працаваў поруч з А. Мяснікоўым, М. Фрунзе і іншымі вядомымі дзеячамі маладой Савецкай дзяржавы.

Самая ж выдатная і незабыўная падзея ў маім жыцці пазначана месяцам вераснем 1917 года. Мяне, Івана Крыпеца, прынялі ў партыю. Тады ж, на партыйным сходзе, Іван Алібегаў сказаў:

— Мы з табой, таварыш Крыпец, абодва Іваны і добра ведаем, хто наш вораг, а хто сябар, таварыш і брат...

Пашанцавала мне сустракацца з Уладзімірам Ільічом Леніным. Мяне абралі ў склад дэлегацыі рабочых і сялян Паўночна-Заходняга краю, як тады звалася наша старонка; «хадакоў» да Леніна сабралася шмат. Тут быў рабочы люд і сялянскія працаўнікі з усёй неабдымнай імперыі. Часова «хадакі» размясціліся ў хамоўніцкіх казармах. Адбылася сустрэча дэлегацый ад «хадакоў» з Леніным. Ільіч вельмі ўважліва выслухаў, хутка, па-дзелавому разабраўся ў пытаннях, якія хвалявалі просты люд. Тут і аплата іх працы, жыллёвыя ўмовы. Былі пытанні пра зямлю, пра службу ў войску, надзённае жыццё. Вярталіся «хадакі» ад правадыра поўныя надзей, шмат хто запісаўся добраахвотнікам у камуністычныя батальёны, выявіўшы гэтым самым жаданне змагацца з ворагамі рэвалюцыі.

Вярнуўся я ў Беларусь і з галавой акунуўся ў гарачыя справы. Банды злачынцаў разгульвалі па гарадах і вёсках, шасталі па лясах розныя недабіткі, крымінальнікі. Не паспееш перадыхнуць ад пагоні за бандыцкай шайкай у Сеніцах, як трэба ўжо спяшацца ў Заслаўе. А праз дзень стукае ў акенца пасыльны: праз гадзіну па вагонах. Выступаем на Дзяніківа. Генерал наваструў белаказацкую шаблю і цэліць у сэрца рэвалюцыі з парабелума, што выдалі краіны Антанты. Яно і праўда, хто толькі не сунуўся на маладую Краіну Саветаў!

Хіба забудзецца хмурная восень 1919 года, калі з баямі гналі белапалякаў. У складзе камуністычнага батальёна пластунскай брыгады мы дайшлі да Варшавы. І было вельмі балюча бачыць спаленыя вёскі роднай бацькаўшчыны, асірацелыя хаціны, босых, замардаваных людзей, счарнелых ад холаду і голаду дзяцей...

Паноў і іншых ваяк супакоілі, але адпачываць не давялося. Атрымаў партыйны мандат, паёк на дарогу і сядлай каня. Ты — паўнамоцны прадстаўнік рэўкома і паспяшай на Чарнігаўшчыну. І будзь асцярожным, трымай порах сухім, бо там дарогі поўныя нечаканасцей. Бяда ходзіць не толькі ў чорнай ночы. Лютуе Апанас Хіжняк, самы галоўны бандыт. Па наваколлі па гэтай прычыне людзі ўпрыцемку з хаты не выходзяць. І вырашылі мы аблаву зрабіць. Сабралі сілы, чырвоных коннікаў падцягнулі, абкладвалі лес па правілах вайсковай стратэгіі і тактыкі. Дай знак — і ажывае мясцовасць, панясе рэха стрэлы карабінаў і выбухі гармат. А мяне думка непакоіць. Няўжо зноў гарачы, жорсткі бой, гібель нашых людзей, смерць хутаранцаў, пажары... І я вырашаю узяць Хіжняка голымі рукамі. Рызыка, і немалая, але ж... Саджуся на каня і еду да банды, шукаю самога «бацьку» Апанаса. Прымай госця, кажу яму, размова дужа цікавая чакаецца. А той не верыць, што камісар прыехаў адзін, без сваіх гарачых коннікаў... Няўжо такі смелы! Селі за стол з бандытам. Доўгая была гаворка. Сядзіць насупраць мяне насцярожаны з парабелумам, а ў руках граната, як забаўлянка. Без крыві абышлося, склалі бандыты зброю, прыйшлі да ўлад, каб прасіць памілавання... Я ж пасівеў за тыя некалькі гадзін «гутаркі»...

І прыгадваюцца горкія дні развітання з Леніным. Я даваў клятву аддаць усе свае сілы справе, пачатай Ільічом. І выконваў яе, колькі меў сіл. І тады, калі больш як дзесяць гадоў працаваў на партыйнай рабоце ў якасці сакратара райкома партыі ў Тураве, Беразіно, Клімавічах. І тады, калі працаваў у складзе Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, а затым на Далёкім Усходзе, Алтаі. І ўсюды мне надавала моц адчуванне таго, што я — баец вялікай Партыі Леніна.

**Матэрыял падрыхтаваў**
**Вячаслаў ДУБІНКА.**

*ЛЕТАПІС ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ*

**6—13 студзеня.** Х з'езд ЛКСМБ.
**13—16 студзеня.** Усебеларускі з'езд рабочых-дваццаціпяцітысячнікаў.
**20—28 лютага.** Х Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.
**20—25 сакавіка.** III Усебеларускі з'езд калгасаў.
**2 мая.** Увод у дзеянне кандытарскай фабрыкі «Камунарка» ў Мінску.
**25—29 лістапада.** І з'езд жанчын-калгасніц БССР.
**1931.** Адкрыццё ў Мінску Бел. тэатра юнага гледача.
**1931.** Рээрганізацыя педагагічнага факультэта БДУ ў Бел. дзярж. вышэйшы педінстытут (з 1935 Мінскі педінстытут).

**1932**

**23—29 студзеня.** XIV з'езд КП(б)Б.
**15—22 сакавіка.** VII Усебеларускі з'езд прафсаюзаў.
**27 мая.** Пастанова ЦК КП(б)Б «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР».
**Верасень.** Адкрыццё Камуністычнага інстытута журналістыкі ў Мінску.
**Кастрычнік.** Адкрыццё Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы Беларусі імя У. І. Леніна.
**15 лістапада.** Адкрыццё Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.



## З імем Леніна, дарогай рэвалюцыі!

*Яшчэ не былі напісаны Маякоўскім радкі, што заклікалі рабіць жыццё з таварыша Дзяржынскага, ішла вясна васемнаццатага. У той дзень, 27 мая, у Фелікса Эдмундавіча з'явіўся асабісты шафёр — 20-гадовы Сярожа Ціхамолаў. І з таго часу дарогі ў іх сталі агульнымі.*
*Сёння пра Сяргея Рыгоравіча Ціхамолава, чалавека ў многім незвычайнага лёсу,— наш расказ.*

# ШАФЁР ДЗЯРЖЫНСКАГА

I.



Жыццё яго пачыналася так, як і ў тысяч равеснікаў.

Сын рабочага. Вучыўся і вывучыўся на электрыка. У пошуках заробку бадзяўся па краіне. Пастаянную работу знайшоў на колавым судне «Мардвін».

1914 год. Вайна. Ціхамолава не адразу адпраўляюць у акопы: спачатку — школа ваенных вадзіцеляў, а ўжо потым — на фронт.

Ён аказаўся выдатным аўтамабілістам, але дрэнным слугой цару і свайму «высакароднаму бацьку-камандзіру». Таму што з усіх газет чытаў толькі бальшавіцкія, а паведамленне аб Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі сустрэў з вялікай радасцю.

Дваццацігадовы Сяргей Ціхамолаў дакладна разумеў: рэвалюцыю трэба абараняць. І настойліва прасіў для сябе «сапраўднай справы».

II.

Толькі калі за вокнамі рыпучага, перапоўненага людзьмі вагона праплыў Шклоў, Сяргей развітаўся з напружаннем пасадачнай мітусні. Так, яго чакала работа ва Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі. Пра ВЧК, створаную ўсяго некалькі месяцаў назад, ён ужо ведаў і ў душы ганарыўся новым прызначэннем. У Петраград поезд прыбыў вечарам. Ціхамолаў упэўнена крочыў па амаль бязлюдных вуліцах. Успамінаў словы спадарожніка, які вяртаўся ў Петраград з Магілёва.

— Мяшочнікаў развялося невядома колькі. Грамілі вінныя пограбы, аж ручаі сцякалі ў Няву... А ў дварах — страляніна. Газеты пісалі: нейкі князь, здаецца, па прозвішчу Эбалі або нешта ў гэтым духу, пад выглядам чэкіста рабаваў багатыя дамы. Тыдзень назад яго расстралялі.

З Феліксам Эдмундавічам давялося сустрэцца толькі на наступны дзень. Ён палічыў за патрэбнае папярэдзіць:

— Аўтамабіль ёсць, але шафёра адшукаць пакуль не ўдалося. Дакладней, жадаючых вадзіць яго няма. З-за меркаванняў асабістай бяспекі... Вас таксама ніхто не прымушае. Тым больш, што зменшчыка ў хуткім часе абяцаць не магу. Аднаму давядзецца працаваць. Суткамі.

— Згодзен, Фелікс Эдмундавіч.

**Са сшытка ўспамінаў С. Р. Ціхамолава пра Ф. Э. Дзяржынскага:**
**«Я працаваў з Феліксам Эдмундавічам больш за 8 гадоў. Да апошняга дня яго жыцця. Ні разу не пачуў ад яго якога-небудзь грубага слова. Гэта быў абаяльны і душэўны чалавек. З ім можна было гаварыць на любыя тэмы. Дзяржынскі не толькі кіраваў, але і пастаянна выхоўваў супрацоўнікаў. Прычым з вялікай тактоўнасцю, ненадзойліва, беражліва. Заражаў сваёй незвычайнай працаздольнасцю».**

III.

— Ціхамолаў, да Дзяржынскага!

Сяргей пакінуў аўтамабіль і ўвайшоў у гулкі пад'езд. Ён упершыню ўбачыў гэты кабінет. Невялікі пакой, справа — два вузкія акны, паміж імі — тумбачка. Побач з ёй — невялікае крэсла, крыху налева — невялікі стол. Немудрагелісты пісьмовы прыбор. Фатаграфія сына ў рамцы... За шырмай — жалезны салдацкі ложак. На сцяне партрэт Розы Люксембург.

Калі пакет з шчыльнай і шурпатай паперы ўжо ляжаў у кішэні Сяргея, Фелікс Эдмундавіч паглядзеў на гадзіннік:

— У сталовую мы ўжо не паспеем. Перакусім тут. Дарэчы, які сёння абед?

— Суп з канінай, каша, хлеб.

Як і ўсе супрацоўнікі ВЧК, харчаваўся Фелікс Эдмундавіч звычайна ў сталоўцы на Вялікай Лубянцы. І ў рэдкіх выпадках, калі быў вельмі заняты, абедаў у сябе ў кабінеце. Аднак абавязкова цікавіўся: ці не адрознівалася яго «кабінетнае» меню ад меню сталоўкі для ўсіх супрацоўнікаў Надзвычайнай Камісіі. Ціхамолаў гэта ведаў. Яго ўражвала іншае: ён ніяк не мог зразумець, калі ж адпачывае Дзяржынскі. Мяркуючы па ўсім, ён і сёння не збіраўся спаць...

IV.

**Са сшытка ўспамінаў С. Р. Ціхамолава пра Ф. Э. Дзяржынскага:**
**«У пачатку мая 1920 года Фелікс Эдмундавіч быў прызначаны начальнікам тылу Паўднёва-Заходняга фронту. Там ён прапрацаваў больш як два месяцы. Яго чакала новая дарога — на польскі фронт...»**

Сяргей Ціхамолаў упершыню трапіў у Беласток. Але хадзіць па вуліцах, знаёміцца з горадам не стаў. З'явіўся да Дзяржынскага з падвязанай рукой.

— Са шпіталя? Уцёк?

— Вінаваты, Фелікс Эдмундавіч...— з затоенай у вачах усмешкай адказаў Сяргей. Ён быў рады сустрэчы.

— Самавольства чэкіста не ўпрыгожвае. Зараз жа і без лішніх размоў адпраўляйся на станцыю. Там знойдзеш начальніка поезда Сотнікава і з ім паедзеш праз Масты ў Мінск. А там сустрэнемся,— ужо з усмешкай дадаў Дзяржынскі.— Так, Шпілеўскі, твой зменшчык, падвязе цябе на вакзал. Машына ў гаражы. Спадзяюся, пазнаеш яе?

А калі на поездзе прыехаў у Мінск і даведаўся, што Дзяржынскі ўжо ў горадзе (на аўтамабілі прыбыў), то адразу ж прыйшоў да яго:

— Адчуваю сябе добра. Гатовы вярнуцца да работы.

— Абавязкова вернешся. Вось з'ездзіш у Маскву, там яшчэ палечышся, адпачнеш — і за справу. Зараз выпішу табе адпускное пасведчанне.

Ціхамолаў апусціў вочы, адчуў, як наварочваюцца слёзы. І тут жа замёр ад здзіўлення. Замест прывычных ботаў на нагах Фелікса Эдмундавіча — салдацкія чаравікі, якія ўжо даўно «прасілі кашы». Распытваць не стаў — няёмка. Выйшаў на двор, яшчэ раз з жалем прабег вачамі радкі новага пасведчання, схаваў яго ў кішэню.

Івана Скварцова Ціхамолаў ведаў яшчэ па Маскве. Цяпер ён працаваў разам са Шпілеўскім. Разгаварыліся.

— З цябе хоць карціну пішы,— раптам заўважыў Сяргей.— Паголены, куртка ладная, боты бліпчаць... Дарэчы, адкуль такі абутак?

— Гэта падарунак. Днямі мыю машыну, падыходзіць Дзяржынскі. «Такі хлопец прыметны,— гаворыць,—але вось чаравікі ні на што не прыдатны. Давай так зробім: ты іх мне аддасі, а я табе — боты». Вядомая справа, не бяру. Тады ён: загадваю, маўляў...

V.

Нядаўна Сяргей Рыгоравіч Ціхамолаў прыязджаў з Масквы ў Мінск. Мы сустрэліся ў гасцініцы. У яго ў нумары.

Адшукаць яго было няцяжка, таму што па тэлефоне ён растлумачыў:

— Гасцініца «Мінск». Трэці паверх. Спытайце, дзе спыніўся вельмі неспакойны стары, і вам назавуць пакой.

Вядома, пра «вельмі неспакойнага старога» я пытаць не стаў, але прозвішча — Ціхамолаў — назваў... І пытанне паўтараць не давялося.

А потым была гутарка. Да глыбокага вечара.

Калі мы ўжо сталі развітвацца, Ціхамолаў сказаў:

— Нешта прытаміўся я сёння... Маса ўражанняў...

— Цяжкі дзень?

— Не, якраз шчаслівы. Незвычайна прыемна было пераканацца, што памяць пра рэвалюцыянера-ленінца Дзяржынскага так беражліва захоўваецца ў яго родных мясцінах.

---

*У 1930 годзе была створана першая беларуская машынна-трактарная станцыя: Койданаўская МТС.*

**ЗА ЛЕНІНСКІМ РАДКОМ**

**«Голад, голад нават у самы ўраджайны год прымушае іх зімой утрая дзешавей кабаліць сваю працу памешчыку».**

**У. І. ЛЕНІН.**

# МЕТАЛ І ЗБОЖЖА



Гэта Уладзімір Ільіч пісаў напярэдадні рэвалюцыі. Яго артыкул «Да пытання аб каштарысе Міністэрства земляробства» з'явіўся пасля таго, як часопіс «Руская думка» апублікаваў некаторыя факты з жыцця беларускіх сялян.

Вядома, размова ў ім ішла не толькі аб хлебаробах Магілёўшчыны або Міншчыны. Але становішча менавіта гэтых сялян аказалася надзвычай адчайным...

Не будзем цяпер гаварыць аб драўляных баронах, аб ураджайнасці збожжавых у 7 цэнтнераў з гектара, аб нізкапрадуктыўнай жывёле... Хаця гэта — сур'ёзная частка адказу на нярэдкае пытанне некаторых (нават сельскіх) падлеткаў:

— Вунь колькі зямлі! І трактары, машыны ледзь паспяваюць... А чаму ж сялянам 70 гадоў назад яе — зямлі — не хапала?

1930 год. Койданаўская МТС стала своеасаблівым маяком: яе поспехі свяціліся надзеяй для сяброў, паражэннем радаваліся ворагі Савецкай улады.

Тады да гэтага ўзгорыстага і прыгожага месца ад Мінска быў амаль дзень шляху. На конях. Цяпер электрапоезд прымусіў нас трывала думаць, што Дзяржынск — прыгарад Мінска.

— Амаль дзень шляху? — перапытвае дырэктар ВА «Райаграпрамтэхніка» Мікалай Піліпавіч Саўчук.—Нічога дзіўнага. Я не супраць коней, але ўсё-такі гэта — не лепшы від транспарту і не лепшы сёння (але, зразумела, па-свойму выдатны) памочнік селяніну.

Дзяржынскае ВА «Райаграпрамтэхніка» і ёсць былая Койданаўская МТС.

Чым займаецца вытворчае аб'яднанне?

— Забяспечвае стопрацэнтную гатоўнасць усёй заяўленай да рамонту тэхнікі,— гаворыць М. П. Саўчук.— На перыяд сяўбы і ўборачнай кампаніі мы ствараем дзяжурную брыгаду для аператыўнага выканання заказаў гаспадарак.

Звяртаюся да дырэктара аб'яднання М. П. Саўчука:

— Першая МТС... Не па прыгажосці машын, а па шчодрасцях поля меркавалі людзі аб карысці тэхнікі, «жалезнага каня». І глядзелі на трактарыстаў, інжынераў, як на людзей, якія быццам атланты трымаюць мост у будучае. Але будучае — заўсёды непарадная. Калі «кропка адліку» — сёння...

— ...Зразумеў. І гатовы адказаць. Прычым пакіну эмоцыі і «ўзброюся» толькі фактамі.

Цяпер гавораць, што ўпаў прэстыж інжынера. Упаў. Так. Упаў і прэстыж механізатара. Часта не віна, а бяда кіраўнікоў гаспадарак, што яны вымушаны хапацца нават за механізатараў-п'яніц.

Трактары ёсць, а сапраўдных трактарыстаў — мала. Аднак думаю, што гэта — часовыя цяжкасці. Таму што перамены адбываюцца сур'ёзныя. І ў калгасах, саўгасах, і — у нас у аб'яднанні. Вось зусім нядаўна перадавая брыгада па рамонту кормаўборачных машын Віктара Аляксеевіча Гнілеўскага раптам заявіла: «Даведаліся, што намі дапушчан брак, рамонт выканан няякасна. Хто вінаваты — мы ўдакладнілі. Прапануем усю брыгаду пазбавіць прэміі».

— Пазбавілі?

— Пазбавілі.

— А прэмія ж некалькі соцень рублёў...

— Сумленне даражэйшае.

Мікалай Піліпавіч Саўчук асабліва падкрэсліў у размове:

— Менш стала нервознасці. Больш работы. За год — ніводнага выпадку выпіўкі на вытворчасці.

Потым ён прапанаваў: — А давайце апублікуем у «Беларусі» адну цікавую табліцу...

— Што за табліца?

— Паглядзіце.

І мы ўбачылі наступнае:

**Тэхніка Дзяржынскага раёна:**

| | на 1.10. 1930 г. | сёння |
|---|---|---|
| Трактары | 33 | 1.174 |
| Сеялкі | 69 | 237 |
| Культыватары | 15 | 342 |
| Прычэпы | 10 | 749 |
| Грузавыя аўтамабілі | 1 | 574 |

— Зразумела,— сказаў нам дырэктар М. П. Саўчук,— што тады не было кормаўборачных машын і камбайнаў. А цяпер іх амаль 400. І механізаваны збожжатакі ёсць. 51 такі збожжаток.

Параўнайце ўважліва гэтыя лічбы. Ці ж не пра гэта марылі першыя трактарысты першай МТС?



# «НАРМАЛЬНАЕ» ЗЛАЧЫНСТВА...

Калі на вуліцы горада з'явіцца чалавек і пачне вярзці: «Я — Напалеон!», прахожыя паглядзяць на яго са спагадай, як на хворага, а ўжо ахоўнікі парадку паклапоцяцца аб тым, каб адправіць яго ў адпаведную бальніцу.

Чалавек гэты для навакольнага асяроддзя сур'ёзнай небяспекі не ўяўляе: хто паверыць, што ён — Напалеон? Усміхнецца хтосьці, нехта скажа: «З глузду з'ехаў»... І на гэтым усё скончыцца.

А вось калі з парламенцкіх трыбун, з экранаў тэлебачання, па радыё гучаць на ўвесь свет заявы: «Ядзерная зброя неабходна для застрашвання», «Ліквідацыя ядзернай зброі не адказвае інтарэсам паўночнаатлантычнага саюзу», «Нейтронная бомба — самая гуманная зброя», «Давайце выкарыстаем нашу магутнасць дзеля таго, каб марксізм-ленінізм апынуўся на папялішчы гісторыі», «Вайна — нармальная з'ява, і таму яна непазбежна» — гэта лічыцца на Захадзе нармальным. І ніводнаму ахоўніку парадку не прыйдзе ў галаву, што трэба гэтых небяспечных для ўсяго чалавецтва вар'ятаў узяць пад пахі і адвесці палячыцца.

Ні адзін гангстэр не заяўляе па радыё або тэлебачанні, што ён мае намер уварвацца да некага ў кватэру, абрабаваць яе і забіць жыхароў. Такога злачынца не ў бальніцу, а за краты ўладкавалі б. А калі палітык, дзяржаўны дзеяч не аднаму жыхару, а жыхарам цэлых краін, усёй планеце пагражае «пакараннем» і вайной — гэта лічыцца законным. Заявы такіх, па сутнасці, супергангстэраў каменціруюцца ў друку, абмяркоўваюцца ў час парламенцкіх дэбатаў.

Маленькая рыбка ў акіяне — Грэнада — не спадабалася раптам імперыялістычнай акуле, таму што яна хацела плысці так, як ёй падабаецца:

— Ты пагражаеш мне,— вышчарыла зубы акула.

І праглынула Грэнаду.

З парламенцкай трыбуны акула заявіла, што яна «выратавала» Грэнаду, што той у жываце акулы будзе больш бяспечна.

Зараз імперыялістычная акула шчэрыцца на вольную Нікарагуа. «Нікарагуа — краіна, узятая ў палон жорсткай клікай фанатычных камуністаў, якія ваююць супраць бога і чалавека, з самых першых яе дзён. Камуністычная Нікарагуа ставіць пад пагрозу нашу нацыянальную бяспеку...» — аж трасецца ад злосці гаспадар Белага дома, наганяючы страх на амерыканцаў пагрозай маленькай краіны магутнай Амерыцы.

Чытаеш гэтую заяву прэзідэнта Рэйгана ў кангрэсе, дзіву даешся і міжволі думаеш: што, калі б Нікарагуа паводзіла сябе так, як ЗША? Калі б мініравала тэрытарыяльныя воды Злучаных Штатаў Амерыкі, на мінах якой узрываліся караблі гэтай краіны? Калі б банды, нанятыя ёй, урываліся ў гарады і фермы амерыканцаў і нішчылі іх здабытак, забівалі жыхароў? Але Нікарагуа — маленькая мірная краіна, і яна не хоча зла амерыканскаму народу, яна хоча жыць мірна і сама, як яна лічыць патрэбным, будаваць сваю будучыню.

І як тут не прыгадаць словы Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, якія ён сказаў у часе прэс-канферэнцыі ў Жэневе:

— Зноў у хаду вядомая фраза прэзідэнта Джонсана, які неяк сказаў, што тая нацыя, якая будзе панаваць у космасе, будзе панаваць на Зямлі. У некага яўна рукі свярбяць, ім так і хочацца дабіцца сусветнага панавання і глядзець на свет звысоку.

Злачынец, які задумаў падпаліць хату суседа,— не абвяшчае сваіх намераў. Рыхтуецца да злачынства ціха: ведае, такая заява можа скончыцца дрэнна.

Злачынцы на высокіх дзяржаўных пасадах не хаваюць сваіх намераў падпаліць усю планету Зямля. І ім яшчэ ахвяруюць мільёны долараў на здзяйсненне такога злачынства. Усё нармальна.

Да якога часу так будзе? Такое пытанне даўно хвалюе сумленных людзей Зямлі. Хвалявала яно некалі вядомага амерыканскага пісьменніка Эрнэста Хемінгуэя. У прадмове да рамана «Бывай, зброя» ён з абурэннем пісаў: «...тыя, хто задумвае, распальвае і вядзе вайну,— свінні, якія думаюць толькі аб эканамічнай канкурэнцыі і пра тое, што на гэтым можна нажыцца».

«Я,— піша далей у гэтай прадмове Эрнэст Хемінгуэй,— лічу, што ўсе, хто нажываецца на вайне, і тыя, хто садзейнічае яе распальванню, павінны быць расстраляны ў першы дзень ваенных дзеянняў даверанымі прадстаўнікамі сумленных грамадзян сваёй краіны, якіх пасылаюць ваяваць».

З гэтай думкай вялікага пісьменніка-гуманіста пагодзіцца, бадай, кожны чалавек, якога хвалюе лёс Зямлі, з адной, магчыма, агаворкай: расстрэлу гэтыя свінні, падлягаюць не «ў першы дзень ваенных дзеянняў», а да ўзнікнення ваеннага пажару. Калі б жыў Хемінгуэй, ён бы гэтую папраўку зрабіў сам. У эпоху ядзернай зброі пасля пачатку ваенных дзеянняў не будзе ні тых, каго трэба караць, ні тых, хто павінен судзіць злачынцаў...

Калі б Гітлера і Мусаліні пасадзілі за краты і пакаралі да таго, як яны распалілі вогнішча другой сусветнай вайны,— жыццё пяцідзесяці мільёнаў чалавек было б захавана.

Еўрапейскія краіны спазналі, што такое вайна. Асабліва спазнала наша краіна. Антываенныя выступленні ў капіталістычных краінах Еўропы паказваюць — большасць насельніцтва Англіі, Францыі, Італіі, ФРГ рашуча супроць размяшчэння першынгаў і крылатых ракет на іх тэрыторыях, за забарону ядзерных выбухаў, супроць зорнай вайны.

Барацьба сіл міру супроць сіл вайны становіцца ўсё больш дзейснай. Яна пераходзіць ад абурэння да супраціўлення. Людзі рвуць калючы дрот, якім апаясаны ракетныя базы, закрываюць сабой дарогі, па якіх грузавыя машыны дастаўляюць на базы дэталі першынгаў і крылатых ракет. Жар пратэсту маладога пакалення, якое хочуць зрабіць пакаленнем без будучыні, не могуць пагасіць ні магутныя брандспойты, ні паліцэйскія дубінкі.

— У нашай партыі, у Краіны Саветаў, як яшчэ раз пацвердзіў з'езд,— гаварыў у заключным слове на XXVII з'ездзе КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў,— за мяжой многа саюзнікаў, прыхільнікаў, партнёраў па барацьбе за мір, свабоду, прагрэс чалавецтва.

Дасягненне гэтай мэты прагрэсіўныя сілы бачаць у неабходнасці забароны прапаганды вайны, як гэта ўзаконена ў Краіне Саветаў. Зрабіў падбухторваючую да вайны заяву, незалежна ад таго, хто гэты падбухторшчык ні ёсць — міністр абароны ФРГ М. Вёрнер, ці шэф Пентагона Уайнбергер (вельмі ахвочыя да такіх заяў),— за фалды і за краты. І пад суд. Трэба стварыць такую атмасферу, каб заклік да вайны стаў ганьбай, быў прыраўнены да самага вялікага злачынства, каб нават дзеці адмаўляліся ад сваіх бацькоў — падпальшчыкаў вайны, як ад забойцаў. Сцяна ганьбы і агіды павінна ўзнесціся паміж людзьмі ўсіх краін і тымі, хто дамагаецца гонкі ўзбраенняў і назапашвання ядзернай зброі на зямлі і ў космасе.

Гонка ўзбраенняў падвяла ўжо чалавецтва да крытычнай рысы. «У сённяшні час,— сказала на канферэнцыі англійскіх вучоных лаўрэат Нобелеўскай прэміі Дарокі Хаджкін,— у свеце назапашана ад 50 да 60 тысяч ядзерных зарадаў, у той час, як для разбурэння асноўных гарадоў планеты дастаткова ўсяго 200, а для таго, каб знесці з твару зямлі Англію, усяго восем або дзесяць». На думку аўтарытэтных амерыканскіх спецыялістаў «...у амерыканцаў назапашана намнога больш зброі, чым гэта патрэбна для знішчэння імі вызначаных цэляў». Зараз кожнаму нармальнаму чалавеку ясна, што вайна ў наш ядзерны век азначае «ўзаемнае самагубства».

Прызнае гэта нібы і прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган, подпіс якога стаіць пад сумеснай савецка-амерыканскай заявай пасля сустрэчы ў Жэневе, у якой гаворыцца: «СССР і ЗША... заяўляюць, што ядзерная вайна ніколі не павінна быць развязана, у ёй не можа быць пераможцаў». А зараз ЗША працягваюць праводзіць ядзерныя ўзрывы, удасканальваць ядзерную зброю на зямлі і ў космасе. Толькі за час увядзення Савецкім Саюзам мараторыя на ядзерныя ўзрывы ў Невадзе зроблена больш як дваццаць іх. Дзеля чаго?

«Я хачу, каб усяму свету было ясна, што самае галоўнае для нас — мір»,— крывадушна заяўляе Рэйган. Каменціруючы «міралюбівыя» заявы Рэйгана, газета «Вашынгтон пост» піша: «Злучаныя Штаты Амерыкі могуць і павінны дабіцца стратэгічнай перавагі. Савецкі Саюз можна прымусіць пагадзіцца з адносна больш слабым становішчам».

Якой «ласкі» можна чакаць ад амерыканскіх «ястрабаў», мне расказаў у час Дзён літаратуры ў Прымор'і, у якіх я прымаў удзел, старажыл Уладзівастока Павел Іванавіч Удавічэнка. У гэтыя мясціны перасяліўся з Украіны задоўга да Вялікага Кастрычніка яго прадзед Раман Бязноштанка. Нялёгка жылося. Але вось прыйшла перамога Кастрычніка — воля для народа.

— І тады,— сказаў мой субяседнік,— як шакалы, на Далёкі Усход накінуліся імперыялісты. Спачатку японскія... З іх прыходам стала жыць невыносна. Раптам бачым, да берага падплываюць амерыканскія караблі... «Нам дапамога!» — узрадаваліся некаторыя наіўныя людзі. Але неўзабаве адчулі: гэта была дапамога японцам душыць Савецкую ўладу... І толькі калі прагналі інтэрвентаў, людзі ўздыхнулі з палёгкай. Памяць пра «ласку» інтэрвентаў у тыя гады не знікла.

Амерыканскія імперыялісты вельмі б хацелі, каб Краіна Саветаў апынулася ў «больш слабым становішчы». Гэта б ім развязала грабежныя рукі. Але дзякуючы таму, што Савецкая дзяржава разам з братнімі сацыялістычнымі краінамі не дапускае ваеннай перавагі над сабой варожых міру сіл,— больш сарака гадоў мы жывём у міры.

Чалавецтва можа і павінна жыць у міры — такі дух Жэневы і Рэйк'явіка, але той-сёй байца з'яўлення магчымасці сур'ёзнага, доўгачасовага пацяплення савецка-амерыканскіх адносін, міжнароднай абстаноўкі ў цэлым. Сведчанне таму — новыя магутныя ядзерныя ўзрывы ў Невадзе, умяшанне ва ўнутраныя справы ААН, з'яўленне шпіёна-карабля ля крымскіх берагоў.

Нядаўна «Трыбуна люду» надрукавала пісьмо польскага рабочага

Ераслава Дудзіка. Ён з абурэннем піша: «Я нарадзіўся палову веку таму назад у Варшаве, правёў у ёй усё жыццё, у тым ліку другую сусветную вайну. І да сённяшняга дня — пачынаючы ад верасня 1939 года — гучыць у маіх вушах рэха фабрычных сірэн, якія папярэджвалі аб налёце, бамбёжцы і што за тым ідзе — смерці людзей і зруйнаваннях.

І вось днямі я зайшоў да свайго суседа, які вярнуўся са ЗША, куды ездзіў да сваякоў. Ён расказаў, што там: у Вашынгтоне, Нью-Йорку і іншых гарадах, час ад часу трывожна гудуць сірэны — аб'яўляючы пробную трывогу «на выпадак нападу праціўніка».

Нам, палякам, некалі трывогі азначалі бомбы і смерць. А ў ЗША «робіцца» істэрыя! Патрэбна яна, я так лічу, для правядзення злачыннай палітыкі адміністрацыі Рэйгана. Ці ж мы пагражаем гарадам і іх жыхарам? Не. А вось першынгі нацэлены на нашу краіну».

Да ядзерна-касмічнай эпохі наваяўленыя «напалеоны» не ўяўлялі глабальнай пагрозы. Зараз «напалеоны» небяспечны нават для саміх сябе. Але заалагічная прага да шалёнага бізнесу падымае іх на гнусную хлусню і правакацыі.

Сведчанне таму і паводзіны Рэйгана на сустрэчы ў Рэйк'явіку — назва якога ў перакладзе азначае «дымная затока». Тут, трэба сказаць, прэзідэнт напусціў дыму і сваёй адміністрацыі. Вонкава здавалася, што Рэйган прыляцеў у Рэйк'явік з пустымі рукамі, але, як цяпер стала вядома, перад ад'ездам на сустрэчу група «ястрабаў» уручыла яму канверт з абавязковым указаннем: не пагаджацца ў галоўным — не дапусціць забароны САІ. Не трэба быць стратэгам, каб разгадаць, што крыецца за гэтым: скарачэнне ўстарэлага віду зброі, каб яе пазбыцца такім чынам і пачаць назапашванне новай, больш дасканалай ядзернай зброі. І калі гаварыць аб значэнні сустрэчы на вышэйшым узроўні ў Рэйк'явіку, то галоўны вынік яе — яна паказала яшчэ больш яскрава «хто ёсць хто». Чалавецтва ўбачыла не толькі шчырае жаданне Савецкага ўрада і народа не на словах, а на справе адстаяць мір, а і намаганні ваенна-прамысловага комплексу ЗША за туманнымі словамі аб міры рыхтаваць для чалавецтва ядзерную зброю. Адсюль і дэфіцыт новага мышлення, які заўважыў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў у час сустрэчы на беразе «дымнай затокі».

— Мілітарысцкія, агрэсіўныя сілы, зразумела, і зараз лічылі б за лепшае замарозіць, увекавечыць канфрантацыю,— гаварыў на XXVII з'ездзе КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў.— А што ж, таварышы, рабіць нам? Бразнуць дзвярамі? Не выключана, што менавіта да гэтага нас падштурхоўваюць. Але мы вельмі добра ўсведамляем сваю адказнасць за лёс краіны, за лёс свету і таму не маем намеру падыгрываць тым, хто хацеў бы прымусіць чалавецтва зжыцца з ядзернай пагрозай, з гонкай узбраення.

Барацьба за мір будзе працягвацца з яшчэ большым напалам. Свет бурліць. Свету абрыдла голая балбатня аб міры. Свет патрабуе дзейсных крокаў. Каб злачынства перастала лічыцца нармальнай з'явай.

«Не будзем упадаць у адчай,— заявіў тав. Гарбачоў усяму свету.— Час патрабуе дзеяння!»

**Леанід ПРОКША.**



## З НОВАЙ КНІГІ

**Валянцін ТАРАС**



### Гісторыя

*Чалавек не становіцца меншым ад таго, што яму адсякуць галаву.*
*Юліус ФУЧЫК.*

Той, хто за ўсіх людзей вышэй —
павінен прыгінацца.
Травы ніжэй, вады цішэй
павінен ён трымацца.

Цішэй вады, ніжэй травы,
інакш не зносіць галавы!

Бо крыўдна карлам знізу ўверх
глядзець на Гулівера.
Прыгніце голаў, Гулівер,—
у карлаў ёсць сякера!

Але заўсёды,— з веку ў век,—
не ведаючы страху,
за ўсіх вышэйшы чалавек
ўздымаецца на плаху.

То Сценька, то Ямелька...
Скрываўлена зямелька!

Па ўсіх стагоддзях кроў цячэ —
прагрэсу ручаіна.
Сячэ сякера, меч сячэ,
працуе гільяціна.

Сякуць галовы нездарма —
інакшых довадаў няма!

Ды без адметных вяршалін
не ўявіць дубровы.
Цячэ натоўп, тырчаць над ім
высокія галовы.

Іх вочы бачаць далягляд,
для ўсіх яшчэ замглёны...
І зноў бярэ сякеру кат,
і чуюцца праклёны:

— Не трэба гэткіх нам галоў!
Навошта?
З плеч далоў!

— Ніхто людскі не зменіць лёс,—
скуголяць небаракі...

А той, хто пад сякеру лёг,
ў вякі зыходзіць з плахі!

А ён усім назло жывы,—
дрыжыце, ліліпуты!
Яму не схіляць галавы
ніякія пакуты.

Бо ён яшчэ вышэйшы стаў —
да самых зор дастаў!

### Мой інтэрнацыянал

Хваліўся мне адзін знаёмы мой
сваёй чыстапароднаю крывёй.
А я сказаў,
што тры крыві ажно
ва мне зліліся
ў рэчышча адно.
Гады вайны не адышлі ў нябыт!
Мяне нацысты называлі — жыд,
і рускаю, і польскаю свіннёй...
З патроенай нянавісцю за мной
ганяліся эсэсаўскія псы
ў страшэнныя ваенныя часы.
І з тых часоў
я не цярплю размоў
пра чыстую
і змешаную кроў,
бо тхне ад іх
смуродам печаў тых,
ў якіх
палілі
родзічаў маіх —
палякаў і яўрэяў,
расіян.
Там і Іван,
і Янкель там,
і Ян...
Іх попел не развеяны,
як дым.
У сэрцы ён пасеяны
маім.
І выбухае,
нібы аманал,
крыві маёй
інтэрнацыянал,
калі я чую водгулле размоў
чыстапародных
гітлераўскіх псоў.
І ты з пагардай губы не крыві,
бо чалавек не пудзель, не ганчак.
Няхай жа ім
за чысціню крыві
даюць медаль
на выстаўцы сабак!

### Чытаючы «Лявона Бушмара»

То шэпт, то гучная пагалоска:
Вёска! Святая вёска!

Крыніца шчырасці, дабрыні.
У горадзе іх — ані!

Горад вясковых людзей псуе,
дурныя грошы ў руку суе,
разбэшчвае, цягне ў бруд, на дно...

Пачакайце, ці так яно?

І хто, дарэчы, прысуд суровы
выносіць гораду?
Ці не той,
хто ў дом свой родны,
на тракт вясковы
дзесяцігоддзямі — ні нагой!

Хто цягне ў горад усю радню,
каб усюды — сваяцкая
кааперацыя...
Ды я міграцыю не віню.
Я разумею: урбанізацыя.

Аб'ектыўны працэс: мільёны сялян
ператвараюцца ў гараджан.

Я іх не лічу ні святымі,
ні д'ябламі.
Няма прадузятасці у мяне.

Далёка ад яблыні коцяцца яблыкі!
Каторы, глядзіш, і гнільца кране.

Хто вінаваты?
Горад?
Не!

Вёска — вялікая працаўніца.
З павагай гляджу на яе мазалі.
Ды няпраўда, што вёска адна
крыніца
ўсяго найлепшага на зямлі.

Хіба не на вёсцы каламі біліся,
чэрап праломвалі за шнуры?
А сёння ў горадзе пасяліліся,
як на хутары Бушмары.

Не ўсе, вядома, ды ўсё-ткі многія
за грошы горла перагрызуць.
Яны і ёсць тыя суддзі строгія,
што гарадское жыццё клянуць.

А самі так за яго ўчапіліся —
як той Бушмар у сваю зямлю!
І што з таго, што панавучыліся
піць не з конаўкі — з крышталю?

Вёска! Святая вёска! —
то шэпт, то гучная пагалоска.

Мана!
Хітрунскае апраўданне
для тых, хто не мае ў душы святла,
хто парастраціў усё дазвання
тое добрае,
што з сяла.

Ужо не вясковец.
І ў гарадскога
не ператварыўся яшчэ жыхара...

Не ганю нікога, не лаю нікога.
Чытаю аповесць пра Бушмара.

У нутро селяніна
вядзе мяне Чорны,
праўду гаворыць,
не ўводзіць у зман!

За вокнамі горад варочае жорны —
перарабляе мяшчан ў грамадзян!..

✦

Калі люляю ўнучака малога,
люляю і надзею, што калісь
і ён спасцігне геній
Льва Талстога
і пушкінскую сонечную высь.

Што будуць з ім і Лермантаў,
і Чэхаў,
і класікі Купалавай зямлі,—
усе, з кім дзед у белы свет уехаў,
усе, што па жыцці яго вялі.

Маленькі мой, не размініся з імі!
І з тымі, хто апеў дваццаты век,—
Блок, Маякоўскі, Пастарнак,
з якімі
асобай станавіўся чалавек.

Святлоў, Твардоўскі, Слуцкі
і Асееў,
і Панчанка, і Танк, і Куляшоў...
Чытаю ўголас — у сэрца ўнука сею
маіх паэтаў праўду і любоў.

А дзедаў верш... Ну, што ж,
няхай загіне,
як радавы, які зрабіў, што мог,
і з тымі,
хто на велічнай вяршыні,
наладзіць сувязь ўнуку дапамог.

# Штурхаюць шар зямны — яны!

Уяўляю, што адчуеце вы, калі недзе ў далёкай старонцы скажуць у адрас вашага земляка: «І як такога зямля толькі трывае?» Момант, упэўнены, перажываце не з прыемных. Зрэшты, усё залежыць ад інтанацыі. Я вось, пачуўшы гэтую фразу, не пакрыўдзіўся, не абурыўся. Таму што нічога, акрамя нотак здзіўлення і захаплення, у голасе пажылой сібірачкі, што з цікавасцю назірала, як завіхаўся ў кар'еры 180-тонны «БелАЗ», не ўлавіў. Трывае зямля волата! Дрыжыць, але трывае. Бы той казачны Сямігор-асілак, адольвае ён з неймаверным цяжарам на плячах звілістыя серпанціны рудных распрацовак у Сібіры і ў Сярэдняй Азіі, на Далёкім Усходзе і ў экватарыяльнай Афрыцы. Глядзіш, як трушчыцца каменне пад агромністым колам магутнай машыны, і здаецца: вось ён — той прывод, той рухавік, што не дае спыніцца шару зямному, штурхае яго, прымушае круціцца вакол сваёй восі...




За адну шыну плацілі столькі, што хапіла б на легкавы — ды не з самых танных — аўтамабіль...

Пра колы «БелАЗа», а дакладней, пра шыны на тых колах — гаворка асобная. Яшчэ зусім нядаўна «абувалі» мы сваіх шматтонных асілкаў у «абутак» выключна імпартны. За адну шыну плацілі столькі, што хапіла б на легкавы — ды не з самых танных — аўтамабіль. У «БелАЗа» колаў як-ніяк — шэсць, а значыцца, і шын патрабуецца гэтулькі ж. У добрую капейку выляталі яны нам, пакуль за вырашэнне праблемы не ўзяліся ў вытворчым аб'яднанні «Бабруйскшына».

Адно з буйнейшых у Еўропе, прадпрыемства гэта даўно ўжо асвоіла выпуск пакрышак для аўтамабіляў самых розных класаў і мадэлей. Для розных, а л е толькі не для звышгрузападымальных. Вось і паставілі перад аб'яднаннем задачу: пазбавіцца гэтага прыкрага злучніка «а л е» — наладзіць вытворчасць айчынных шын для магутных «БелАЗаў». Пачэсная, што й казаць, задача. Але, узяўшыся вырашаць яе, і адказнасць калектыў прадпрыемства ўсклаў на сябе вялікую. Што значыць стварыць шыну вагой у тры з паловай тоны, вышынёй — пад акно трохпавярховага дома?! Ды не проста стварыць ці, як гавораць самі шыннікі,— сабраць, кінуўшы на гэта ўсе назапашаныя рэзервы, а паставіць вытворчасць на канвеер, забяспечыць высокую якасць і дакладны рытм, каб ніякіх праблем не мелі з прадукцыяй аб'яднання аўтамабілебудаўнікі ў Жодзіне, дзе вядзецца зборка «БелАЗаў». Чаго гэта каштавала бабруйскім шыннікам, ведаюць толькі яны самі. Сотні да міліметраў, ды што там да міліметраў — да мікронаў, да сотых долей секунды выверaных аперацый у самыя сціслыя тэрміны распрацавалі і асвоілі спецыялісты аб'яднання.

Шырокім попытам і папулярнасцю як у нашай краіне, так і за яе межамі карыстаюцца сёння не толькі шыны-«цяжкавагавікі» з Бабруйска. Аб'яднанне вырабляе, у тым ліку і на экспарт, прадукцыю самых разнастайных катэгорый — для легкавых аўтамабіляў, напрыклад. Такія шыны, дарэчы, добра зарэкамендавалі сябе на еўрапейскім рынку. А на канвееры прадпрыемства яшчэ адна навінка, на гэты раз у вазе «пяра» — бяскамерныя пяцікілаграмовыя пакрышкі БІ-308 для савецкай мікралітражкі «Ака», выпуск якой пачынаецца ўжо сёлета. Шырокай, уезджанай табе дарогі, беларуская шына!

**Язэп ЗДОР,**
**Уладзімір ШУБА (фота).**



## РЭПАРТАЖ З АБ'ЯДНАННЯ «БАБРУЙСКШЫНА»

Раіса БАРАВІКОВА



*У 1982 годзе выйшла кніга Адама Мальдзіса «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя». І бывае ж шчаслівы выпадак, калі ў раздзеле «Авантуры» Пільштыновай», можна сказаць, адразу пачула сваю гераіню. Ці варта ў кароткай прадмове пераказваць біяграфію жанчыны, доктара медыцыны, як сама сябе называла Пільштынова, будучы лекарам-акулістам? Не варта. Цікавей расказаць, як расказаў пра яе А. Мальдзіс, знайшоўшы нітачку гэтага жыцця ў мінулым, цяжка. Тым больш, што мяне цікавіла не столькі біяграфія, колькі характар, лёс — у нечым жорсткі, круты, горкі, але ўсе беды не ад слабасці жаночай — ад яе сілы! Саламея па сваёй натуры не рабыня, яна — заўсёды толькі заваёўніца (дарэчы, як і большасць жанчын). Ад цвёрдасці сваёй, ад вышыні, ад моцы і гордасці пакутуе Саламея, і, як бы ні ставілася да яе быццё, яна заўжды выжывае, паднімаючыся яшчэ вышэй над нядаўняй бядой, горыччу, і яшчэ ярчэй пачынае свяціць ёй шчасце (вядома ж, няўлоўнае!), іначай не было б лёсу, вартага следу ў гісторыі.*

*Ці былі ў нашай паэзіі гераіні, характары якіх у нечым перагукваюцца з Саламеяй Русецкай-Пільштыновай? На маю думку, былі. Прыгадаю Купалаву Бандароўну і радкі з вядомай паэмы: «Тая, жартаў не пазнаўшы, з'ехала па твары» або «Бандароўне больш да твару — чымся ты — магіла» — такой, у падобнай сітуацыі, магла б быць і Саламея. Немагчыма не прыгадаць верш Анатоля Вярцінскага «Эдзіт Піяф хоча любві» і апошнія радкі верша: «Пяе аб любві Эдзіт Піяф. Хоча любві Эдзіт Піяф. І — без любві памірае». Пэўна ж, без любві памірае і Саламея Пільштынова.*

*І яшчэ адно. Два стагоддзі для Вечнасці, як два імгненні. Зыходзячы з гэтага, уяўляла Саламею амаль сваёй сучасніцай і пісала ад першай асобы.*

*Прапаную чытачам «Беларусі» асобныя радкі з паэмы ў вершах «Саламея».*

Аўтар.

## *Плач на смерць Гальпіра*

То не хмара з неба
месячык сагнала,
гэта ўчора жонка мужа пахавала.

Мужа пахавала, долі не зазнала,
хай бы ж наша ліха
у зямельцы спала.

Да каго звярнуцца з просьбаю-
паклонам,
мо суніме жаль мой
лекар з Вавілона?..

Пры каханні лекі —
бляск вачэй ды вернасць,
роспач і бядоту лечыць —
міласэрнасць...

Ад агі пасыльны —
хлопчык чарнавокі,
ты, Якуб, не чуеш —
сном заснуў глыбокім.

Просіць хлопчык рады
позіркам пакутным,
ты, Якуб, не бачыш —
сон твой непрабудны.

Пры табе, Якубе, я была дасужай,
лекар з Вавілона раіць:
стань за мужа...

Для агі з пасыльным адпішу
вакцыны,
вось і Саламея —
доктар медыцыны.

## *Два вершы на знаёмства з князем Ракачы*

Як развеяць боль гарачы,
добра знае князь Ракачы.
Лоўкія расставіў сеці:
ўчора падарыў гарсэцік.
Сёння пераслаў каралі
з воляй княжай, каб чакалі...
Каб дварняк слядоў не нюхаў,
каб сышоў з падворка кухар,
каб была лагоднай пані
з князем і ўначы, і ўранні.
Ёсць у князя верны лёкай,
ён ад пані недалёка,
бачыў: пані з суму гіне,
князь Ракачы сум суніме.
Тварык белы абцалуе,
пані з князем забалюе...
Князь ёй добрых коней купіць,
а падману ён не любіць.
Князь Ракачы — князь удачы!

О-о, мы гэта шчэ пабачым!..

✦

Князь Ракачы — шал гарачы,—
хоча ласкі без астачы,
спакусіўся на нядолю,
пакладу бліжэй пісталю...
Гэй, мой кухар, добра слухай!
Будзе князю аплявуха!..
Кухар, позіркам не бліскай,
князь Ракачы недзе блізка...
Вось чадра, а вось спадніца,
выйдзі князю пакланіцца!
Каб салодка князь не марыў,
вядзі князя да чынары,
абдымай яго штосілы
і шапчы на вушка: «Мі-ілы»!,
а калі рукам дасць волю,
я пушчу у ход пісталю...
Грымне стрэл,— канец прыгодзе!
Хапай князя з крыкам: «Злодзей!»...

Што ён князь,— не дух сабачы,
хай даказвае Ракачы
грозным стражнікам і бею...
Князь папомніць Саламею!

## *Сумненні Саламеі пасля таго, як Пільштын стаў яе мужам*

Адцвіў даўно ў садах міндаль.
Паблялі ўзвышшы і нізіны,
але чужой прыроды жаль
мне не ў маркоту, мой адзіны.

Жартуй з другой і гавары,
што ў валасах яе камеі,
як жар паўднёвае зары,
а вер заўсёды Саламеі...

Я — тая, што жыве з агню,
чужая выхадцы манернай,
і калі позіркам зманю,
дык застануся сэрцам вернай.

Шапчы: «Мая!» не мне ў адказ,
ды спамяні ў гарачай стоме
ноч, што злучыла палам нас
у гэтым выстуджаным доме.

Цябе папрок мой не кальне,
заўжды сустрэну, як на крылах,
каб сэрца білася вальней,
я вочы радасцю прыкрыла...

Стаў весялейшым краявід,
ў пясках міраж размыты скача,
і я ўсміхаюся наўзрыд,
а ты гаворыш,— мучу плачам.

✦

Радасць мая, на далоні пахукай...
Доля карае і помсціць за грэх,
а я без віны пакарана разлукай
з чародкай бяроз ля зажураных
стрэх.

Да лугу не выведуць
сцежкі чужыны,
багатая я, ды багаццем не тым...
У лета маё не ўварвуцца рабіны
з жарынкамі гронак
у голлі густым.

Пранізлівы позірк
маркотнай сялянкі,
ды бачыш за ім не чужую душу,
гасцінцы,
балотцы,
лясныя дзялянкі
даўнютка па мне адспявалі імшу.

Няпраўда!
Я — вольная... Чуеш, каханы,
абжытая хата яшчэ не жытло!
Да дрэў не вярнуцца
лісткам адарваным,
мы ж — людзі...
Нам трэба радзімы
святло.

## *Верш да Пільштына*

Сказала б я, напэўна, пазаўчора,
што ты жыцця пачатак і працяг...
Цяпер маўчу, бы перад бурай
мора...
Як мала ў шчасця пабыла ў гасцях!

Што трэба ад цябе — ужо не знаю,
а ты зірнеш, і я затрапячу,
і ў палкасці уласнае згараю,
і за пакуты гонарам плачу.

Прынізіць можаш...
Я цярплю
абразы
і ведаю: нічым не дагаджу,
і сіл няма адсекчы ўсё адразу,
ты — неба без святла
і без дажджу.

Навошта ж мне імкнуцца ў твае
высі?
Зямная я — са смеху і са слёз.
Я—жонка—лёс упрошваю: скарыся!
І мне ў адказ — «Паўстань!» —
крычыць мой лёс.

Паўстань!
Адрынь той шлях, дзе паабапал
адна насмешка, што ні крок —
то ўкол!
Ці ж то жыццё, дзе сэрца
смокча д'ябал,
а ў вочы зазірае, як анёл...

Купі атруту — раіш штохвілінна,
ці знікні, як мага далей, хаця б...
Каханне, ты — прывабная быліна,
дзе з двух герояў нехта вечны раб.

## *Саламея, між іншым, запісвае ў дзённік*

Бывае час, калі замрэ дыханне
ад змовы думак строгіх
з пачуццём,
якое вылiваецца ў блуканне
жаданняў...
І не можа ўжо жыццё
спыніць той гон пякучай,
прагнай змовы...
Шапчу імя тваё, мой юны бог!
Прыйдзі...
Спакуса апранецца ў
словы
і я скажу табе: — Ты перамог!
Цяпер я ўся толькі
ў тваёй уладзе...
Ці ж можна мудра,
стала разважаць
і ўсёй істотай гінуць у паглядзе
вачэй тваіх?..
Як цяжка мне маўчаць,
бо ты прыходзіш не адзін,
з сябрамі!
Таюся я, раскладваю пасьянс
і ўся гару... Анёл кахання з намі,
ён цвеліць, ён штурхае
ў бездань нас.

## *Саламея запісвае ў дзённік*

Быццё — прастора тлуму,—
не графа,
дзе ні адзнакі добрай, ні памаркі,
гарэм твой — неба ночы, Мустафа,
дзе замест зорак цьмяныя агаркі...

Ды ёсць адна, бы вечар без цямна,
яна — тваё шалёнае гарэнне,
і боль,
і асалода,
і натхненне,
жыццё тваё, і смерць твая яна.

Я — лекарка,
сляпым нясу святло,
была пры ім і богам, і ахвярай,
твой пацалунак для яе, як кара,
абдымак твой, як ластаўцы сіло.

Пад сонцам грэшным можна
жыць з ілжы,
пад сонцам ясным —
толькі з думак чыстых,
і я сказала: «Родная, бяжы,—
няможна ў свет,—
да хваляў серабрыстых...».

А чым яшчэ магла я памагчы?
Хоць знаю, ятаган
няўмольна гостры,
з вачэй яе зняла радно начы,
цяпер, султан,
чакаю тваёй помсты...

Янка БРЫЛЬ



# ІДУ І СТАЮ

(З НОВАЙ КНІГІ)



## ГРУБАВАТА

Можа, і грубавата. Нават і груба. Яшчэ з вясковых маіх маленства і маладосці. Але ж і смешным бачыцца мне, напрыклад, такое:

Як стары калгасны конюх правучыў маладых рамантыкаў, што вечарамі, вясной, выкрадалі з-пад носа ў яго стомленых коней, каб — хлопцы з дзяўчатамі, старшакласнікі — пагойсаць па лузе ды па далёкіх дарогах галопам і рыссю, а потым коней тых пакінуць недзе ў полі, заганяўшы ледзь не да апошняга... Дзед папрасіў сваяка і суседа, мужчын яшчэ маладых, тыя прыйшлі з пугамі, затаіліся ў канюшні, дачакаліся той разумненькай пустальгі, што на бацькоўскім хлебе скуры на пупе не чуюць, і добра-такі, на месцы і ўдагон, адсцябалі і панічоў, і паненак!..

Або такое, з горада ўжо, з жыцця дарослай, творчай інтэлігенцыі:

Адзін няздзейснены геній, проста пасрэдны артыст, што прывалокся аднекуль у нашу сталіцу, Дэман не першай свежасці яшчэ раз закахаўся ў маладзейшую, свяжэйшую, захопленую ім,— тут ужо шчыра, на ўсю душу,— настаўніцу з рабочай сям'і. Спачатку так сабе, ніштавата жылі, а потым злосць за свае маральныя і матэрыяльныя непаладкі пачаў зганяць на ёй, б'ючы маладзічку самым хамскім, садысцкім чынам. І пад чаркай, і так. Яна маўчала са сваім каханнем, плакала, а потым і не вытрымала, расказала сваім. Бацькі ўжо не было. Ды тут і не бацька нямоглы быў патрэбен. Прыйшлі два браты, пагаварылі з такім шваграм па-мужчынску, а сястру забралі дахаты. Я яго потым з прыемнасцю бачыў на вуліцы,— з «отрешенно» настаўленым каўняром, са скепсісам на банальна прыгожым, таленавіта спітым мурле. Без сінякоў: урок быў праведзены з вопытам.

І такое яшчэ напаследак:

Сённяшні паважаны бухгалтар саўгаса, зямляк. Зірнеш і не паверыцца, што іменна так і не інакш было, калі яго паводзіны ў школе абмяркоўваліся на адкрытым камсамольскім сходзе, куды быў запрошаны і бацька вінаватага. Ціхманы, працавіты чалавек, які так рад быў, што і яго бядняцкі сын выходзіць памаленьку ў людзі. Ні работы з цябе, ні клопату табе другога, толькі ты вучыся. А тут... Слухаў ён слухаў тую споведзь, чырванеў, галаву апусціўшы, а потым дзягу з паясніцы вышмаргнуў, выйшаў наперад, дзе той сынок стаяў ды нават і ўсміхаўся, і пачаў. Толькі і духу хапіла, лупцуючы, што на абрыўкі слоў: «Я табе накуру!.. Нап'ю!.. Налаюся!.. Двойкі табе!.. Двойкі!.. Уха-джор!..» Тады ўжо бацька павярнуўся да ўсіх сабраных — вучняў, настаўнікаў, бацькоў — сказаў: «Таварышы, ізвініця, не вытрываў!..» і сеў на сваё месца.

Я і цяпер, запісваючы гэта, убачыў сябе ў любай кампаніі землякоў, з якімі разам так грубавата ці нават — няхай сабе! — груба смяюся.

...Потым падумалася, што, можа, для большай упэўненасці падмацавацца класікай. Прыгадаць, скажам, захапленне «Ціхім Донам» майго старэйшага брата. Калі я вярнуўся з палону, а ён мне хваліўся прачытаным за паўтара перадваенныя савецкія гады. Пра ўвесь раман гаварыў, а помніцца найбольш расказ пра тую сцэну, дзе Грышка Мелехаў адластажыў то пугай, то пугаўём, то ботамі абтоўк, як гада, сотніка Лістніцкага...

А можа лепш яшчэ адно з жыцця, з сучаснасці, толькі нядаўна пачутае?

Як толькі старая маці дачуецца, што сын зноў п'е, яна дзелавіта збіраецца, доўга едзе аўтобусам у той горад, а там ужо свайго інжынера — кіем, прывезеным з роднага дома. Святою матчынай рукой!..



## ПРАВА

Унучак не дома толькі чатыры месяцы.

А ўчора, у пісьме ад сватоў, прыйшоў яго здымак. Як з арміі або з якой-небудзь далёкай новабудоўлі.

Моцны мужычок, якому год і восем месяцаў. Ручкі з пухлымі далонькамі паслухмяна апушчаны ўніз, але не прыціснуты «па швах», ножкі з мілай касалапінкай, пальцамі трохі ўсярэдзіну. Чубчык прыгладжаны направа. Стракатая кашуля і яшчэ драбней стракаты гарнітурчык, штонікі на кант. А над усім гэтым — цудоўны, праста-душны тварык. Адно чорнае вока трошкі меншае, рот не зусім закрыты, ніжняя губка, нібы таўставатая, адкапылена...

Мілы ўнучак, найменшы. Яшчэ адно права жыць, быць любімым, не ведаць гора і жаху вайны.

Гэтае права я адчуў яшчэ раз — перш за ўсё і больш за ўсё. Са здымка, які ўжо не першы раз перад вачыма. У святочнай самоце, позна ўвечары падумаў, што гэта трэба запісаць.

А ўранні, яшчэ не ўстаючы, круціў транзістар, па-дылетанцку, вобмацкам ловячы, як гаворыцца, «заракў», слухаючы на рускай, на ўкраінскай, на польскай мове — то Парыж, то Вашынгтон, то Тырану, то ажно нейкі Анд у Эквадоры... І на фоне гэтых дзікіх танцаў вакол глабальнай парахавой бочкі мне зноў убачыўся здымак — наш Антось. Як незлічонае мноства такіх на ўсім свеце.

Звычайны хлопчык, здаровы і дагледжаны, яшчэ адно дзіця, на якім спалучаецца любоў дзвюх сем'яў, якія ён парадніў. Гэта — прыватнае, гэта яго і наша малая радзіма. У ёй добра і мне, аднаму з яго двух дзядоў. А ён жа выходзіць з гэтага круга любасці і далёка далей, як і кожны з яго равеснікаў і равесніц — ва ўсім свеце. Ён падключаецца да безлічы тых пакаленняў, што былі, ёсць, будуць, ён разам з імі заяўляе сваё, іхняе права — жыць!

Амаль паўстагоддзя таму назад я, малады, пачынаючы літаратар, ужо захапляўся красой маленства, дружбай паміж ім і старасцю. Мамы, што была тады бабуляй, няма ўжо трыццаць шэсць гадоў. А меншыя мае натуршчыкі, дзеці старэйшых братоў, самі даўно ўжо бацькі. А я, яшчэ даўней, гляджу на маленства не збоку, як малады, захоплены бацька, а зверху, з дзедаўскай дальназоркай вышкі. І ўсё яшчэ ахвотна, усё з хваляваннем пішу пра дзяцей.

Я паўтараюся, як пісьменнік?

А яны — дзеці, дзеці — не паўтараюцца?

І адно, адно ўсё ідзе ды ідзе — тое свяшчэннае, векавечнае, чалавечае **права жыць**, якое бачылася, бачыцца і будзе бачыцца ва ўсёй сваёй непераможнай праваце, і гаварыць пра гэта, паўтараць яго — трэба.

Дзякуй, хлопчык!

І вельмі ж ты там загасціўся...

Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

## Пра аптымізм



Пяты паверх без ліфта, дзевяноста шэсць крутых прыступак.

На трэцім годзе пасля вайны, калі я атрымаў у гэтым даваенным, адноўленым доме кватэру, усё багацце хатняе насіў на сваё неба з прысвістам, напяваючы ад шчасця. А потым, за годам год, спакваля ўсё цяжэй ды цяжэй стала і мне падымацца. У сябра-суседа была старая матуля, дык ён на кожным паверсе паставіў ёй для адпачынку па крэслу, дротам прымацаваўшы кожнае, ад рэзвасці падлеткаў, да батарэі ацяплення. Мяне навучылі правільна падымацца: адна прыступка — удых, дзве наступныя — выдых. Праз трыццаць гадоў здароўя і фізкультуры мне па рабоце зрабілі палёгку, з улікам ног і сэрца абмянялі кватэру на іншую, з ліфтам.

Прайшло яшчэ амаль дзесяць гадоў, і днямі тыя дзевяноста шэсць прыступак мне прыгадаў сваім выглядам знаёмы чалавек, з якім мы за апошнія гады ні разу не сустракаліся. І пра сябе ён мне жыва напомніў, і пра іншага аптыміста, на шмат старэйшага за нас абодвух.

Той, старэйшы, быў вядомы ў горадзе тэрапеўт, галоўны ўрач нашай ведамаснай паліклінікі, медык старое вывучкі і культуры, спецыяліст па прызванню і чалавек з душой. Увосень, зімой, напрадвесні, калі па сем'ях паныла валокся грып, доктару выпадала візітаў па дваццаць, а то і па трыццаць на дзень. І кожны раз,— мяркую па сваёй сям'і,— як толькі на калідоры акажацца званок, некім адчыняцца дзверы, дык ужо з-за парога пачуецца бадзёрае «добры дзень!» і пытанне, што і няновае, а ўсё ж здаецца ледзь не новым:

— Ну, як там наш сімулянт?

Ці адпаведна сімулянтка. Гадоў трыццаці, сарака, хай сабе і колькі хочаш больш. Гаварылі пра паважанага, што лечыць ён, перш за ўсё, ветлівасцю ды ўвагай. Так казала якраз матуля майго суседа і сябра, жанчына таксама інтэлігентная, мудра вясёлая і ў цяжкасцях.

Закончыў наш доктар і сапраўды на пасту. У некага ўпаў з рукі слоік смятаны, разбіўся на сходах, і той нехта не прыбраў за сабою адразу. Змяркаднем, пры яшчэ няўключаным святле, ды ўжо і стомлены, доктар вяртаўся з візіту, паслізнуўся і так упаў, што праз некалькі дзён яго пахавалі. І толькі тады, як быццам упершыню дакладна, падлічылі, што яму было ўжо за восемдзесят...

Другі аптыміст, маладзейшы, выпадковая сустрэча з якім на вуліцы нагадала мне і нялёгкую верхатуру, і тое «Ну, як там наш сімулянт?», і яшчэ адзін вясёлы зварот,— гэта даўно і малазнаёмы мне паштальён з тэлеграфа.

У вёсцы пра падобнага чалавека я чуў: «От, нядоля!» І нягеглы, і нябыстры на службе, так сабе рабачай. Нярослы, чорненькі, нават нібы кучаравы з-пад кепкі, з сіняватаю «галашчокай» хранічнай недабрытасці. І ходзіць, цягнучы ногі, як заёхлены муштрай пехацінец з апошняй чацвёркі шаснаццатай роты. Пра падабенства такое сведчаць і боты-кірзачы, калі ў халепу ці зімой. Такім я і сустрэў яго амаль праз дзесяць гадоў разлукі.

Мы не настолькі былі калісьці блізкія, каб цяпер прывітацца, пагаварыць. Я прыпыніўся на момант, а ён мяне, здаецца, не пазнаў. Ішоў сабе кудысьці вяла ды задумана.

Заўсёды, колькі я памятаю яго за многа колішніх гадоў, калі званок у дзверы быў ягоны,— званок служба настойлівы, часта з хуткім паўторам,— за гэтым званком, як толькі дзверы адчыняліся, ішла, замест вітання, песня з двух слоў, такі сабе рэчытатыў, ці што, на кожны раз аднолькавы, узнёсла-жыццярадасны:

— Ва-ам тэ-ле-грам-ка-а!..

І толькі. Якая б яна ні была — прыемная, горкая, страшная,— пра што яму ведаць па службе не дазвалялася.

І толькі?

Не, значна больш.

Каб я мог перадаць той напеў у нотным ці магнітафонным запісе, або як-небудзь асабіста, дык можа і вы, паважаны чытач, за сціплым воблікам гэтага «нядолі», сумленнага, працавітага чалавека, які эканамістамі мудра залічаны ў катэгорыю «пакуль што нізкааплачваемых»,— можа, і вы лепш адчулі б, як яно, ад чаго часамі, на дзевяноста шостай прыступцы, чалавеку робіцца лягчэй на душы.

Што ж, я і сам, калі вясёлага малавата, а то і яшчэ менш, і тую песню з двух слоў, адноўленую ў памяці, не, не ды ўголас сам сабе паўтару:

— Ва-ам тэ-ле-грам-ка-а!..

Адчайна неперасможны тон.

Бывае, што і паможа.



## Назад!

Пра таварыша з прозвішчам Додзік гаварылася, што ён аблупіць яйка і ўвесь, ад галавы да пят, спацее. Рост і сіла яго былі ў іншым, асабліва перад вайной і адразу пасля эвакуацыі, калі ён яшчэ ўсё трымаўся на сваёй кіраўнічай купіне. Потым, у палавіне пяцідзесятых, сёе-тое выйшла наверх і ў святле нечаканай крытыкі прыціх, ды нізенька, і гэты.

На адным паважаным сходзе ўздоўж працяглага стала ад рук да рук пайшоў белы квадрацік складзенай паперкі. Спыніўся ён на мне. Я разгарнуў — знаёмы почырк, з маленства знаёмыя словы вялікай паэзіі ў новым прыстасаванні... Маленькі, шчупленькі, у беленька-нявінным пінжачку, Додзік сядзеў насупраць мяне, цераз стол, і гэта яго датычыліся словы ў запісцы:

*Чуден Додель при тихой погоде!..*

Аўтар гэтага прыстасавання сядзеў ажно вунь дзе, у самым канцы стала, і туды, дзе ягоны падміргі і ківок галавой, пайшла мая ўсмешка.

Праз трыццаць гадоў успомнілася. А тут ужо новы час, маладзейшыя людзі, трохі іншыя недахопы. І яшчэ раз цудоўны, непараўнаны Гогаль, іншы ягоны ўсклік:

«Боже, какие есть прекрасные должности и службы! как они возвышают и услаждают душу!..»

І як мяняюцца некаторыя людзі на гэтых пасадах і службах, а потым як яны зноў, назад мяняюцца, калі іх здымуць і паставяць на зямлю!

І Додзель з Дняпром, і Неўскі праспект сёння мне прыгадаліся адразу ўсе, і проста ў сваёй будзённасці,— у хлебным магазіне.

На пяць чалавек перада мной у касу стаяла жанчына, якую я ніколі ў чэргах не бачыў, якую ведаю даўно, у некалькіх службовых вымярэннях. Спачатку сімпатычнай, інтэлігентнай маладзіцай, да якое мне, чвэрць веку таму назад, давялося звярнуцца, каб дапамагчы аднаму маладому пісьменніку, і яна адгукнулася хораша, дапамагла. Потым... Аднак пра гэта трэба асобна, з абзаца.

Было вялікае свята нашай культуры, праводзілася яно за горадам, і туды нас вазілі спецыяльнымі аўтобусамі.

Шыкарныя «Ікарусы» пакуль што стаялі ў духмяным ліпавым цяньку. Свае і госці, з братніх рэспублік і з-за мяжы, хто сядзеў ужо ў машыне, а хто, пасядзеўшы, выйшаў на панель, праходжваўся або стаяў з кімнебудзь удвох або ў гурце. Мы чакалі, цярпліва, з пашанай чакалі высокага кіраўніцтва, якое павінна было ехаць разам з намі і чамусьці затрымлівалася.

Асабняком стаяла яна, мая даўно знаёмая, і ўжо даўнавата з пэўным службовым адчужэннем. Заклапочана, мэтанакіравана глядзела ў той бок, адкуль...

І вось яны выйшлі з дома, паблізу якога стаялі аўтобусы, накіраваліся да нас.

Яна замітусілася. У які ж аўтобус таварышы сядуць?! Дагэтуль непрыступна важная, яна разгублена, нават задыхана і спацела,— што ж, і гады, і нагул,— яна то ішла, то спынялася, то дробна подбегам тупала ўздоўж машын, перад групай высокіх гасцей, пакуль, нарэшце, здагадалася, куды яны пойдуць, і рушыла да аўтобуса, у які я сядзеў. Не адзін, вядома, але ж і няшмат нас было, уроскід па салоне чалавек не больш дзесяці.

Яна ўсіх апярэдзіла,— з'явілася ў адчыненых дзвярах, вынырнула знізу ўверх, цяжка спынілася на праходзе. З поўным, неяк ураз пастарэлым абліччам, яна махнула ад пярэдняй паўнаты кароценькімі рукамі і жорстка, шыпліва выдыхнула:

— На-зад!..

«Боже, какие бывают прекрасные должности!..»

Мы — жанчыны, госці і свае — назад па камандзе, вядома, не шыбанулі, і гэта нам у мінус не залічылася. Высокія госці, адзін за адным, падняліся ў салон, павіталіся, селі, загаварылі з бліжэйшымі — нічога надзвычайнага не адбылося.

І вось яна сёння, у сваёй трэцяй іпастасі.

Кіўнула мне, азірнуўшыся, нават з усмешкай, пастаяла яшчэ, расплацілася, пачакала мяне, выйшлі разам, пагаварылі. Было такое ўражанне, што мы сустрэліся пасля вельмі доўгай разлукі, не бачыліся з тых дзён, калі яна так хораша ўсміхалася, магла з разуменнем, талкова пагаварыць, дапамагла мне выручыць з бяды аднаго з пачынаючых, сёння вядомага, слаўнага хлопца. Яна як быццам памаладзела зноў, папрыгажэла нават, ці што, далёка, як карнавальную маску, закінуўшы кудысьці той выраз твару, агучаны службовай ярасцю: «На-зад!..»

Сваёю гутаркай мы як быццам пасмакавалі таго цёплага чорнага хлеба, што ў нашых сумках, таго, што для ўсіх.

Ну што ж,— «чуден Днепр!»— хай жыве дэмакратыя!

Толькі ж чаму ажно на пенсіі? Прытым заўчасна...



## Выхад

Лясная дарога на ямах, калдобінах ды карчэўі. Стары недабоек-аўтобус трасецца, рыпае, тарахціць. А суседка цераз праход, вясковая паштальёнка, расказвае мне пра сябе. Мы ўжо даўно знаёмыя, я збольшага ведаю яе нялёгкае жыццё, але жанчыне трэба ж расказаць. Пра сына і дачку, што ў горадзе. Пра ўнукаў, што і сёлета, дзякуй богу, былі ў яе два месяцы без трох дзён. Пра ногі свае, што ўжо не вельмі хочуць служыць, а пошта за сем кіламетраў... Сячэ так дробненька ды нястомна, што мне, і нахіліўшыся ў той бок, цяжка ва ўсім разабрацца, услухацца праз таксама нястомнае тарахценне.

Ды вось дарога выйшла з лесу, стала гладчэйшай, аўтобус прыціх, пажвавеў, і я пачаў разбірацца лепш.

— Карову, ведаеце, прадала. Цяжка трымаць, адной жывучы. Няма каму, няма ўжо сілы сена накасіць. Не мною быўшы — мужчыны каторыя, ды ўжо таксама папрадавалі. Семдзесят сем кароў на ўсю вёску, а двароў жа ў нас больш за дзвесце. Мала людзей, адно старэчча намоглае. Але што я вам, ведаеце, скажу,— малака ў мяне цяпер больш, без каровы, чым пры сваёй кароўцы было. Тыя разы то той зойдзе, папросіць, то той. Як не дасі? І грошай браць не будзеш. А цяпер я ў суседкі малако бяру, дык жа куплёнага ніхто прасіць не будзе!.. І ўнучкам, ведаеце, было, і самой цяпер, і кату, і на смятану пастаіць...

Цётка смяецца бяззуба, але яшчэ ўсё молада іназаўсёды дабрадушна.



## Вернасць

Поўным, як вока, можа быць нешта акруглае: шклянка, вядро, цэбар які або невялікае возера. А то ж рака, яшчэ не вызваленая ад шчодрай вясновай паводкі. Поўная тут, у лугавых пакатых берагах, здаецца, нават пукатая на стрыжні.

І там, на быстраку, плыве зялёна-шэра-карычневы качар. Свойскі. Вельмі нязвычна гэта. І прыгожа. Аж Багдановіч успомніўся — тое, што мне калісьці, яшчэ вясковаму хлопцу, так спадабалася пра

**Селязéнька чубаценькага,**
**Маладога, зухаваценькага.**

Пастаяў, паглядзеў, як ён тут, далёка ад хаты на ўзгорку, дзе яго жытло, адзін на імклівай, мутнай прасторы цешыцца вясной, раскаванай плынню...

Пазней, вяртаючыся з вёскі каля тое хаты, я ўбачыў яго, прысадзістага, чысценькага прыгажуна, на двары і даволі-такі празаічна — аднаго сярод зацёпканa-белых курэй, што чакалі вячэры.

— Кавалер? — спытаўся я ў гаспадыні, цёткі заўсёды весела прыязнай.

— Якое там — удавец! — з ганачка адказала яна.— Гэта ж чуеце, што? І качка была ў мяне, двойку іх зімаваць пакінула. А ўчора качку ці выдра схапіла, ці... чорт яго ведае — можа, турысты якія, бо ўжо ж валакліся. Гэта ж ён так сумуе па ёй, так шукае. Далёка адплывaецца, доўга няма. І ўчора, і сёння. Во любоў!..

Назаўтра ўранні я зноў праходзіў тым берагам.

Над вадзяной прасторай ужо не Нёмана, а залітай ад яго перапоўненасці травяной далінай паміж ракой і полем, весела, зелена выпырскваюць сям-там кусты і кусцікі алешніку ды вербалозу.

А паміж імі, на гэтай сонечнай роўнядзі,— знаёмы качар са сваёй тугой.

Да хаты на ўзгорку адгэтуль добрых паўкіламетра. Калі яму ківацца сцежкай, то і няблізка. Відаць, ракою падплыў, і тут паглядзець.

А ці думае ён пра выдру,— там, на рацэ, і тут, куды і ёй перайсці не наўда?

Відаць, не думае...

Вось ён выйшаў з часовае азярыны, патэпаў травой перамычкі да Нёмана, з травы зноў спусціўся ў раку. Нібы спакойна так, самавіта, нават і зухаваценька. Нешта вуркочучы мне ці самому сабе — апраўданне ці заклапочанасць. Паплыў, падаўся на свой выпуклы быстрак, на вольную прастору.

Зноў шукаць і чакаць...

Казачна гэта, ці што?



## Маўчун

Два сабакі ў аднаго гаспадара. Сусед гаворыць, што без патрэбы, а «з пустога інцярэсу».

Большы цюцька — нішто сабе, белы, увішны, гладкі, з ружовым чмысікам. Будка ёсць, але навязаным яго не ўбачыш. І брэхам не сустракае, як іншыя, на суседніх дварах. Угледаецца толькі, здалёк пазнаўшы знаёмага, а як заўважыць, што ты ў прыязным настроі, нават прыцмокнеш ці скажаш слова якое, дык ён і ўстане, і хвастом павіляе, і кранецца да цябе гатоў,— можа, што і дасі або хоць пагладзіш.

Меншы сабака — нейкі дзівак. Рыжа-пярэсты, на смех астрыжаны хлапчукамі, галавасты ад неастрыжанай лабэціны. Калі папросяць, можа і пастаяць на задніх лапах. І няежны, што ні давай, проста чым толькі і жыве. От, сядзіць ды маўчыць.

— Разумны! — хваліць яго гаспадыня, вясёлая маці двух белагаловых хлапчукоў.

У падмацунак гэтаму слову яна расказала мне, як ён неяк прыбег аднекуль дахаты, скуголіў, цёрся каля яе — клікаў кудысьці.

— Вось-вось, здаецца, і скажа: хадзем!

Пайшла за ім. Хлопцаў якраз на двары не было, пайшла сама, хоць і на ферму трэба было. Цераз сядзібу, агарод, цераз дарогу — у лес. Каб ты прапаў! Была спынілася, дык ён вярнуўся, зноў трэцца каля ног ды паскавытвае. Пайшлі далей.

— І што вы думаеце? Прывёў мяне туды, дзе гэты во, Белы, сядзеў у пятлі. Што на зайца пастаўлена. Ужо ледзь зіпае, бедны. Ледзь я яго аслабаніла з тое пятлі!..

Пра рыжа-пярэстага модніка гамана, а ён сядзіць і маўчыць.

З пашаны даў бы яму штонебудзь, ды ён жа нічога не хоча.

## Іду і стаю



На даляглядзе — сонца, яшчэ не ўсё, а толькі верхні барвовы краечак. Бліжэй — Нёман, што мне са сцежкі на высокім беразе добра відаць. Звілісты, поўны, з якога нямала вады адлілося ў старыцы, якія тут называюцца неманімі, і ў лугавыя лагчыны. За роўнядзю вялікай, зіхотнай ад усходу вады — далёкая града ці грыва лазняку.

Адтуль чуваць салавей. Як быццам тут ён недзе,— зусім блізка.

Так жа здаецца, калі, бывае, стаіш на ўзлессі, а навокал дрэвы і кусты. А тут да грывы той далёка, навокал пуста, просторна, свабодна, а ён — хоць рукою вазьмі. І нібы не адзін там, за вялікай вадою, а некалькі іх б'е на змену.

Сонца, вада, салавей...

І маладая, і ў старасці маладая, удзячная радасць. З якою я то іду, нават крыху спяшаюся, то раптам міжволі стаю, нібы з жаданнем прытрымаць гэты момант новай вясны, так прадоўжыць яго, замацаваць у душы.

Тут не да сентыментальнасці, тут цвярозае захапленне.

І яшчэ цверазейшая проза, бо гэта ж я проста раней сёння ўстаў, каб не спазніцца ў вёску, на гарадскі аўтобус.

Ды яшчэ і ўспамін у мяне, зусім свежы, пазаўчарашні. Пра гутарку,— ну, звычайнае прывітанне і некалькі слоў для прыязнасці,— з маладой, як мне бачыцца, гаспадыняй крайняй у вёсцы хаты. Нястомная руплівіца, яна сказала:

— Божа, як цяпер хораша! Буду раней уставаць...

Значыцца, каб яшчэ больш убачыць, пачуць.

Хоць і ўстае яна, даярка на няблізкай ферме, кожны дзень, круглы год, і ў пагоду, і ў непагадзь, у чатыры гадзіны...



Васіль БЫКАЎ і Міхаіл САВІЦКІ.

Фота Яўгена КОКТЫША.



Я н СКРЫГАН

1

Я ехаў да Алеся Пальчэўскага прабавіць за шахматамі разрывак часу. На плошчы Перамогі ў тралейбус увайшоў Юрка Гаўрук, ён адразу быў відзён па мажной раздабрэлай фігуры. Каля мяне якраз апрасталася месца, і я падняў руку, нямоцна гукнуўшы яго.

— От добра! Якраз мне і трэба было бачыць цябе,— сказаў ён, цеснавата ўсаджваючыся каля мяне. Чутачку не выгаворвалася ім літара «р», ён як бы далікатненька пераскокваў яе.— Скажы, як бы ты напісаў усім вядомае прозвішча: Хемінгуэй ці Гемінгуэй?

— А што такое? — механічна сказаў я, здзіўлены гэтакім незвычайным пытаннем.

— Перакладаю «І ўзыходзіць сонца». Цяжкаватая работа: і не зусім прывычны стыль, і падтэкст. Ну і ў некаторых рэчах не вельмі ўпэўнены. І як напісаць прозвішча, і як назваць кнігу. Можа лепш — «Фэст»?

Я вельмі баюся неўмеркаваных людзей. Ёсць яны і сярод маіх добрых знаёмых. Калі гэтакі чалавек бывае дзе сярод чужых людзей, то зараз жа стараецца паказаць, што ён не абы-хто, а — паэт. Скажам, дзе ў дарозе, у аўтобусе ці ў цягніку ён як бы незнарок пачытае верш. Пабачыўшы, што да яго прыслухоўваюцца, ён смялей падыме голас і пачне чытаць вершы адзін за адным, і свае, і чужыя, упамінаючы паэтаў самых громкіх, каб відно было, што ўсе яны самыя блізкія яго сябры. Чытае на ўвесь голас, зыркаючы вачыма, светла і шчасліва любуючыся сабою. Ты не ведаеш, куды дзецца, што зрабіць, каб спыніўся чалавек, а ён усё больш і больш уваходзіць у сілу.

Юрка Гаўрук таксама гаварыў на ўвесь голас. Яго чутно было на ўсім салоне. Але дзіва — у яго гэта было натуральна. Звычайная дзелавая размова. Ні кропелькі выхваляння, позы, афектацыі. Хіба толькі павышаная экспрэсія. Гэтак, як гаварыў звычайна, бо ён ніколі не ўмеў гаварыць ціха. Як бы ён ні стараўся сказаць нешта шэптам, у яго выходзіла громка.

Я сказаў, што схіляюся да «Фэсту». Бо і ў нас жа саміх гэтакім словам звалася вялікае прастольнае свята. То няхай бы і аставаўся гэты загадкавы моўны пярэгалас. Тым больш, што ў арыгінале раман перш гэтак і зваўся — «Фэст».

Аказалася, што яго турбуе спосаб перадачы гуку «г» з чужой на нашу мову. Рэч у тым, што ў арыгінале пісьменнікава прозвішча пачынаецца з лацінскай літары «Н», значыцца, з нашай глухой, спакойнай літары «Г»: Гемінгуэй. Руская ж транскрыпцыя палічыла за лепшае перадаць мяккасць вымаўлення літарай «Х»: Хемінгуэй, бо ў рускім алфавіце глухой літары «Г» няма, яна — выбухная.

Я разумеў, што мае парады Гаўруку не надта былі й патрэбны. Практыкаю і логікаю часу гэтае пытанне даўно вырашана само сабою, Гаўрук пра гэта ведаў сам. Чужое думкі ён пытаўся толькі дзеля таго, каб яшчэ больш замацавацца ў сваёй. Каб даўжэй пабыць у атмасферы свае работы. Ён быў прыроджаны спрэчнік і дыскутант. Я яму й сказаў пра гэта.

— Ну мала што,— не то запярэчыў, не то згадзіўся Гаўрук.— Гэта пераклад не зусім звычайны: трэба, каб чужая класіка стала і нашаю класікаю. Дый не хочацца, каб потым нехта папракнуў газетчынаю ці яшчэ якім грахом. А зназваю, мабыць, твая праўда: трэба пакінуць «Фэст».

Аднак жа саступаць з сваіх пазіцый Гаўрук не ўмеў. Калі раман выйшаў друкам, то ён зваўся так, як было ім намечана: «І ўзыходзіць сонца» («Фэст»).

Раскажу і больш даўнюю гісторыю. У свой час, калі Гаўрук перакладаў навелы Андрэ Маруа, ён прынёс друкаваць іх у «Полымя». У мяне даўно былі нелады з двума не вельмі ўдала сканструяванымі словамі: распаўсюджвальнік і наведвальнік. Яны нязграбныя, цяжкія на вымаўленне. У іх міжволі прысутнічае непатрэбная адзнака множнасці, а гэта робіць іх ненатуральнымі. Мне здавалася, што гэтакі бядзе можна лёгка памагчы. Калі не зусім, то хоць трохі. Проста, пісаць іх карацей: распаўсюднік і наведнік. Трохі пагаманіўшы, Гаўрук згадзіўся паправіць. І мы паправілі. У навеле «Біяграфія» напісалі: «**Наведнікі** зашапталіся», а ў навеле «Асабняк»: «Мне даручана паказаць яго **наведнікам».** Калі ж пераклады выйшлі кніжкаю «Падарожжа ў нябыт і яшчэ 24 навелы», гэтыя папраўкі былі адпраўлены назад.

2

Ніяк не прыпомню, дзе, калі і пры якіх акалічнасцях мы пазнаёміліся. Гэта магло быць у Слуцку, калі я рабіў у газеце «Вясковы будаўнік», а ён прыязджаў на лета дадому, найверагодней, што тады. А можа на з'ездзе «Маладняка» ў дваццаць пятым годзе як землякі? Гэта, зрэшты, не мае значэння, але дзівіць загадка, як магло стацца, што нічым не запомненая, малаважная сустрэча магла перайсці ў сардэчнае таварышаванне на ўсё жыццё.

Першыя весткі пра сябе Гаўруком пададзены ў яго аўтабіяграфіі.

«23.04(6.05).1905 год. Бацька — сталяр, з вёскі Шалавічы, 20 км ад Слуцка. У сям'і было трайное прозвішча: Гарват — Гарбач — Гаўрук. Бацька, Паўлюк, адслужыўшы ў салдатах, прыстаў у прымы да Аўдоцці Маскаленкі, што стала мне мацераю. Была яна з Вялікага Журава, пад самым горадам. На выхаванне ўзяў яе бяздзетны дзядзька, што жыў у Слуцку на арандаваным ад манастыра пляцы з маленькім садам».

Далейшыя храналагічныя весткі пойдуць так: У 1921 годзе Юрка Гаўрук скончыць у Слуцку школу другой ступені.

У 1921 г. паступіць у Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Валерыя Брусава ў Маскве — на інструктарскае аддзяленне па класу крытыкі, фальклору і мастацкага перакладу. Скончыць інстытут у 1925 годзе. У гэты ж час у Маскве практыкуецца Беларуская тэатральная студыя, і Гаўрук, выкарыстаўшы свае незвычайныя здольнасці да замежных моваў, перакладзе для студыі камедыю Вільяма Шэкспіра «Сон у летнюю ноч». Прэм'ера спектакля будзе паказана масквічам, а потым, калі студыйцы пераедуць у Віцебск, стаўшы заснавальнікамі Беларускага другога дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа, у першую праграму будзе ўключаны і гэты спектакль.

Вельмі шчасліва пачыналася ў Гаўрука працоўная дарога. У 1924 г. ён ездзіў па вёсках Случчыны, запісваючы народныя песні і казкі, праз год выйшла першая кніжка падарожных нарысаў «Вясковыя рыскі». Пасля брусаўскага інстытута, у дваццаць сваіх гадоў, ён выбраны дацэнтам кафедры беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горы-Горках. Таварышаваў там з Максімам Гарэцкім, таксама выкладчыкам акадэміі. Там жа склалася літаратурная філія з даволі значным ядром літаратараў: Міхал Ганчарык, Алесь Вечар, Уладзімір Прыбыткоўскі, Васіль Каваль, Алесь Аляксееў. Друкаваліся горы-горацкія пісьменнікі ў часопісе «Аршанскі маладняк».

Юрка Гаўрук літаратурна найбольш быў звязаны з Мінскам. Шчыра, па-зямляцку здружыўся з Кузьмом Чорным. Пра яго ў аўтабіяграфіі ён скажа: «Я любіў яго як чалавека вялікай душы і нейкае ранняе сталасці. Ён быў празорлівы і ў сваіх вывадах амаль ніколі не памыляўся. Я дзівіўся цярплівасці яго натуры і яго пастаяннаму гарэннію».

У трыццаць першым годзе Гаўрук перайшоў у Магілёўскі педагагічны інстытут таксама дацэнтам кафедры і чытаў курс зарубежнай літаратуры і літаратуры народаў СССР. Як пасля ён прызнаецца, гэта былі самыя плённыя гады яго дзейнасці: ён не толькі вучыў другіх, а вучыўся сам, упэўнена рыхтуючы сябе да літаратурнай творчай работы. Але ў лютым трыццаць пятага года нечакана ён апынуўся на Поўначы.

3

Поўнач — гэта шырокі край. Гаўрук пабываў у Карэліі, ва Усходняй Сібіры, у Комі АССР. Пачыналася будоўля Пячорскай чыгуначнай магістралі, работы было колькі хочаш. Ён выбраў тапаграфічную. «Работа была да таго цікавая,— скажа ён пасля,— што я і цяпер з прыемнасцю ўспамінаю вогнішчы і белыя ночы, і свае паходы з нівелірам па вузкіх прасеках у дзікай тайзе, поўнай чарніц, буякоў, марошкі і грыбоў-падасінавікаў».







# НЯДОЛЯ І ХВАЛА

Малюнак Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

Паэзія заўсёды памагае жыць чалавеку. Потым ён служыў на чыгунцы інжынерам тэхнічнай інспекцыі, жыў на станцыі Інта. Атрымаўшы адпачынак, у сорак шостым годзе наведаўся ў разбураны Мінск. Гэтак жа быў разбураны і Слуцак, куды, вядома, не мог не з'ездзіць Гаўрук. Нядобра, смутна было на душы. Тыя хвіліны Гаўрук запіша сабе на памяць. «Бацька... памёр у Слуцку ў 1946 годзе, так і не пабачыўшыся са мною. Памёр ён у беднасці, у чужой хаце, пражыўшы 75 гадоў. Той утульны кут, дзе прайшло маё дзяцінства і куды я так ахвотна прыязджаў некалі адпачыць і папрацаваць, у вайну выгараў датла».

У Мінску Гаўрук пабачыўся з Якубам Коласам. Колас горача параіў яму вярнуцца да літаратурнай работы. Гэтую параду паўтарыў у пісьме, і тады ўсё перавярнулася ў душы ў Гаўрука. Нялёгка было, але ён знайшоў-такі кнігі свайго ўлюбёнага Шэкспіра і ўзяўся за работу. За «Атэла». За «Караля Ліра». Хацелася рабіць усё адразу, але гэта проста немагчыма, дый асноўным жа клопатам была служба. Давай, Юрка, не будзем, аднак, трапятацца, казаў ён сабе. Цяпер у нас з табою ўсё пойдзе ладам.

«Гамлет» быў перакладзены яшчэ ў трыццаць чацвёртым годзе. Але гэта было даўно, трэба прабегчы яго і цяпер свежым вокам. З «Гамлетам» наогул тварыліся шчаслівыя рэчы: у трыццаць пятым ён быў надрукаваны кнігаю, хоць перакладчык не быў названы; у сорак шостым — пастаўлены на сцэне тэатра Якуба Коласа таксама без імя перакладчыка; у шэсцьдзесят чацвёртым надрукаваны выдавецтвам «Беларусь» да чатырохсотых угоднікаў Вільяма Шэкспіра.

4

У Мінск Гаўрук вярнуўся ў пяцьдзесят шостым годзе. Неўзабаве Беларускі дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы запрасіў яго на работу. Памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы. На гэтай пасадзе ён прабыў дзесяць гадоў. Гэта была вельмі ўдзячная работа. І характарам, і справаю, і карысцю. І, вядома, цяжкая. Ён не толькі рыхтаваў рэпертуар, а сачыў за сцэнічнаю моваю артыстаў. У гэтым сэнсе работа была нялёгкая. Час робіць сваю справу паслядоўна. Карыфеі Купалаўскага тэатра, ігра якіх дала яму славу акадэмічнага, патрохі пакідалі сцэну. На змену ім прыходзілі новыя таленты, з дыпломамі. І часам з моднымі авангардысцкімі мухамі. Іх зусім не цікавіла тутэйшая акадэмічнасць, яны і сцэнічную мову вымаўлялі так, каб яна выглядала чужаземнаю. Гэты клопат таксама ляжаў на Гаўруку — не даваць, каб парушалася моўная праўда. Часамі амбіцыі прыходзілася вырашаць калектыўным парадкам, нават размоваю ў друку.

І ўсё ж работа ў тэатры Гаўруку была па душы. Яна давала імпульс, прымушала ўвесь час ісці наперад. Ён прысутнічаў на абмеркаванні рэпертуару, на рэпетыцыях, на ўсіх дзелавых пасяджэннях. А калі сплывала гэта дзелавая неабходнасць, спяшаўся ў свой невялічкі службовы пакойчык, каб, нарэшце, астацца адзін на адзін з сабою. На століку, і ва ўсіх шуфлядах, ляжалі ў яго ліссткі паперы, паспісваныя яго круглаватым почыркам. Найперш гэта былі пераклады твораў, якія павінны былі пайсці на сцэне Купалавага тэатра.

Ён працаваў апантана, не даючы сабе ніякай перадышкі. Я ніколі не бачыў, каб ён быў нічым не заняты. Каб галава яго адпачывала.

Ён перакладаў з моваў французскай, англійскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай і многіх другіх, у яго практыцы эпізадычных. Пераклаў п'есы «Ліса і вінаград» Фігейрэду, «Забыты ўсімі» Хікмета, «Тысяча франкаў узнагароды» Гюго, «Мяцеліца» Лявонава, «Дзядзька Ваня» Чэхава, «Мешчанін у дваранах» Мальера, «Улада цемры» Талстога. Асобныя творы Аляксандра Пушкіна, Фрыдрыха Шылера, Адама Міцкевіча, Джорджа Гордана Байрана, Лесі Украінкі, Уладзіміра Сасюры, Генрыха Гейнэ, Уолта Уітмена, Вольфганга Гётэ, Леконта дэ Ліля. Раманы «І ўзыходзіць сонца» Эрнэста Хемінгуэя, «Дачка ўрагану» Катарыны Сусанны Прычард, «Любіць будзем заўтра» Андрэ Стыля, навелы Андрэ Маруа. Пераклаў з беларускай на рускую мову «Любу Лук'янскую» і «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага, «Серадзібор» Піліпа Пестрака.

Ён пісаў артыкулы пра тэатральныя справы і майстэрства перакладу. Перапісваўся з паэтам-перакладчыкам Вільгельмам Левікам, які высока ставіў Гаўрукову перакладчыцкую дзейнасць. Мне вядома, напрыклад, што пераклад Гаўруком Шэкспіравай трагедыі «Кароль Лір» Левік назваў наватарскім, дакладным і смелым. Рэч у тым, што, звычайна, на перакладчыкаў магічна ўплывала само слова кароль, і яны міжволі выпісвалі ўвесь звыклы побытавы антураж каралеўскага наваколля параўнальна недалёкага часу, забываючыся, што кароль Лір — гэта вобраз легендарны, мяркуюць, што ён мог існаваць недзе ў IX стагоддзі да нашай эры, і яму ўласцівы антураж прымітыўнай гаспадаркі. Гэтакае асяроддзе, калі на каралеўскім двары топчацца ўсякая жыўнасць і пахне гноем, якраз Гаўруком і перададзена. І нават мова герояў не вытанчана-каралеўская, а груба-працецкая.

5

Па невялікім часе пасля таго, як Гаўрукі асталяваліся ў Мінску, яны запрасілі нас у госці. Яны — гэта Юрка і яго жонка Таццяна Міхайлаўна, і мы — я з жонкаю Ганнаю. Пасялілі іх тады на Ленінскім праспекце ў доме № 43; там жылі, памятаю, пісьменнікі Анатоль Астрэйка, Антон Бялевіч, здаецца, Мікола Хведаровіч. Ладны, прыгожы дом, даволі пікантнай архітэктуры, трохі нейкай мяшанай, з выступамі, з паваротамі ў сценах, нават з нясмелымі намёкамі на порцік і калоны ў ім. Ставіўся ён да вайны, некалі зваўся Домам спецыялістаў, а важней за ўсё, што стаяў у мясціне, якая звалася вельмі прыгожа — Залатая Горка.

Зайшлі мы да Гаўрукоў, перш паблудзіўшы па паверхах. Гэта быў невялікі пакойчык у чужой кватэры з адным акном, што глядзела ўздоўж праспекта на Камароўку. Пасярэдзіне стаяў круглы стол, ужо сабраны для гасцявання, вакол яго чатыры няновыя крэслы. Што яшчэ запомнілася воку, дык гэта прыціснутая да сцяны пляскатая этажэрка: знізу, зачыненая дзверцамі — шафка, а зверху тры адкрытыя палічкі — пад кнігі. Запомнілася гэта, мабыць, таму, што і мы гэтак жа паволі абжываліся: першым набыткам якраз і была вось гэтакая этажэрка.

Цяпер я ўпершыню ўбачыў Таццяну Міхайлаўну. Стройнага росту, прыгожая нейкім сваім, я сказаў бы, шляхетным хараством, яна здзівіла мяне незвычайна. Варушкая, імклівая, даверліва непасрэдная, з першае ж хвіліны яна пасяліла ў нас адчуванне, што мы зналіся між сабою ўсё жыццё.

За сталом яна не пераставала напамінаць, каб мы частаваліся. Дзівіла ў ёй пяшчота і спагада, а заадно перасцярога і ласка да Юркі: каб ён не надта шчыраваў, каб сябе пабярог. «Ну ты ж, як гаспадар, перацярпі хоць разок ці ўзок да канца не бяры»,— гаварыла яна больш просьбаю воч.

Яна то рупілася, каб у нас усё ішло ладна, то бегла на кухню, каб нешта падсвяжыць. Паспела расказаць, што кухня ў іх агульная з тутэйшымі жыльцамі, і яна стараецца займаць яе днём, каб не замінаць людзям, калі яны вернуцца з работы. Расказала, што цяпер увесь іх бацькоўскі клопат — гэта дачка Аліна. Што ў свой час было ёй вельмі цяжка. Каб скончыць універсітэт, ёй з неймавернымі намаганнямі і асцярогаю прыйшлося перавесціся ў Маскву, дзе жыў далёкі дзядзька, бо тут шкодзіў ёй бацькаў цень. Яна і цяпер жыве ў Маскве, робіць у такіх установах, што трэба знацца з мастацтвам.

(Заканчэнне на 36-й стар.)

Алесь АДАМОВІЧ

# Мы не паспелі азірнуцца...

Спяваў, як крычаў! Бо нешта ў ім крычала. Хрыплы голас! А, мо, ахрып, бо стараўся дагукацца.

Калі ты працаваў над кнігамі народнай памяці, і яны стаяць перад вачамі — людзі, якіх вы запісвалі, гучаць іх галасы,— ты і Высоцкага будзеш успрымаць па-свойму. У яго песні — як крык памяці народнай.

А што, хіба вось гэта: «Кто сказал, что сгорела дотла!..» «Растопи ты мне баньку по-белому...» «На братских могилах не ставят крестов...» — не народнай памяці балючы голас!

Памятаеце, у Віталія Сёміна — пра маладога хлопца, учарашняга школьніка, што вярнуўся з канцлагера:

«Крычаў я, здаецца, дні з два... Маці глядзела з апаскай. Потым пазвала маю стрыечную сястру... Яны з маці доўга слухалі мяне, потым Аня сказала так, быццам мяне не было ў пакоі:

— Яны ўсе цяпер крычаць. Перакрычыць і будзе нармальным хлопцам. Старэйшы за Сяргея хлопчык вярнуўся ў нашых суседзяў, дні з чатыры крычаў, цяпер адпусціла...»

Потым не крычалі і нават расказваць перасталі, хоць памяць смылела — і раптам голас, песні Уладзіміра Высоцкага. За нас, за ўсіх — крык.



Дык ці дзіўна, што народ (не адно, не толькі маладое пакаленне!) Высоцкага і голас яго прызнаў сваім! Ды як яшчэ прызнаў!

На гэтым вось фотаздымку: Валодзя і Марына прыехалі да нас у кінагрупу «Сыны ідуць у бой» (1969 год). Здымалі мы фільм на Навагрудчыне.

Песні для фільмаў Віктара Турава Высоцкі пісаць пачаў даўно — ці не для першага для яго! («Я родам з дзяцінства», «Вайна пад стрэхамі»). Памятаю, як гады за два-тры да навагрудскіх сустрэч прыязджаў Уладзімір Высоцкі ў Мінск, нават здымаўся ў нашым першым фільме «Вайна пад стрэхамі», але пасля яго «выразалі» (тыя, хто і ўсё кіно «рэзалі без нажа», бо лепш і за мастакоў і за сам народ ведалі, «што народу патрэбна»). Песні ж агучылі «прафесійным галасам».

І вось цяпер ён прыехаў у кінагрупу «Сыны ідуць у бой». З Марынай Уладзі (казалі нават, што Навагрудчына — таямнічая радзіма яе бацькі, што ў 1914 г. ён папаў у Францыю з рускім экспедыцыйным корпусам і што Уладзі — скарочанае ад яе імя па бацьку: Уладзіміраўна). Праз тыдзень яна нас з Віктарам Туравым упрошвала:

— Ну, папрасіце Валодзю, каб ён не спяшаўся адсюль.

Мы пасялілі іх не ў раённай гасцініцы, дзе жылі самі, а ў вёсцы: начлег на сене, пад страхой сялянскага хлява, знізу ўсю ноч па-добраму ўздыхае карова, задумліва жуючы жвачку...

Парыжаначка была ў захапленні.

— Ну, папрасіце Валодзю!..

Час ад часу яны прыязджалі, прыходзілі да нас у «партызанскі лагер», вось як тут на здымку, маладыя, шчаслівыя адно адным і кожны — талентам другога.

Захаваліся і кадры 8-міліметровай кіналенты. Ды толькі нямыя. А ў гэты ж час «партызанскі лес» грымеў песнямі Высоцкага. Іх не толькі чуеш, а як бы і бачыш: з набрынялымі, вось-вось парвуцца, венамі на шыі, пачырванеўшымі ад напружання вачамі... А сам паэт, сам Высоцкі стаіць тут жа, размаўляе, усміхаецца — па-хлапечаму светлы, дружалюбны. Голас нечакана ціхі, сам больш слухае, чым гаворыць.

Ці ён гатовыя нам іх прывозіў,— песні для першага, для другога фільмаў: «Буслы», «Песня пра канец вайны», «Карты», «У цемры», «Ён не вярнуўся з бою», «Песня пра зямлю», «Сыны ідуць у бой»,— ці, мо, складаў тут жа, на месцы, я так і не магу сказаць дакладна.

Вось яны ўсе (акрамя «Карт») — на дзвюх новых пласцінках, што нядаўна выпушчаны ў свет пад агульнай назвай «Сыны ідуць у бой».

Сапраўды, мы не паспелі азірнуцца... І жывое стала гісторыяй, успамінам. Як гаворыцца ў адным не вельмі вясёлым апавяданні Антона Паўлавіча Чэхава: «Як жа хутка яно ўсё робіцца!..»

І як жа цяжка нам заўсёды дагукацца — да саміх сябе.

Утульна размясціўся на левабярэжжы Зальвянкі пейзажны парк вёскі Краскі Ваўкавыскага раёна.

Фота Аляксандра ЛАБАДЫ.

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | |

ЛЮТЫ

Беларусь



ПОМНІКІ
ПРЫРОДЫ
БЕЛАРУСІ

# ТВОРЫ ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОГА МАСТАЦТВА

НАШ ВЕРНІСАЖ

Т. АГАФОНЕНКА.
Конікі (саломка).



Н. КУХАРЭНКА.
Песня
(з трыпціха
«Мой край,
маё Палессе»).



А. КАРНІЕНКА.
«Вставай,
страна огромная!»
(метал, эмаль).



Л. РЫЖКОЎСКІ.
Чатырохрадкоўе
(фарфор).



Л. ПАНАМАРЭНКА.
Па родных
матывах
(керамічныя вазы).



В. ЧЫРВОНЦАВА.
Лялькі
(лён).



# МАЦЕЙ ДЗЕСЯТЫ І „ДЗЕСЯТАГЛАЎ"

Нечаканым багаццем адкрылася для нас работа першых мастакоў беларускай друкаванай кнігі. Альбом «Гравюры Францыска Скарыны» Лявона Баразны, шматлікія артыкулы В. Шматава і яго манаграфія «Беларуская кніжная гравюра XVI — XVIII стагоддзяў» адкрылі цэлы свет (зазначым, свет галоўным чынам чорна-белы, бо каляровая ілюстрацыя рэдкая ў беларускіх старадруках): гравюры на дрэве і метале, партрэты і краявіды магілёўскія, брэсцкія, нясвіжскія... Ды ці толькі гравюры — вялікія літары, застаўкі, канцоўкі — усе элементы аздобы выкананы з густам, дапасаваны да рысунка шрыфту і прапорцый друкаванага аркуша. За гэтай прыгажосцю стаіць штодзённая карпатлівая праца паліграфістаў мінулых стагоддзяў, іх талент і майстэрства. Аднак не толькі гэта. За гарманічнасцю аздобы першадрукаў стаіць яшчэ і даўняя традыцыя ілюмінаваць (аздабляць) рукапісы, эстэтыка почыркаў, адпрацаваныя стагоддзямі прынцыпы пабудовы макета кнігі.

Сёння мы раскажам пра адзін з самых прыгожых ілюмінаваных беларускіх рукапісаў — ён створан усяго за дзесяць гадоў да выхаду першай скарынінскай кнігі. Пяць гадоў — з 1502 па 1507 — перапісваў і ўпрыгожваў 550 аркушаў свайго фаліянта майстар Мацей Іаанавіч. За гэты час памёр вялікі князь літоўскі Аляксандр і ўвакняжыўся Жыгімонт Першы, памёр, не ўбачыўшы працу Мацея скончанай, і Фёдар Янушэвіч — пісар вялікага княства, чалавек, які дапамог Мацею Іаанавічу пазбавіцца дзяржаўнай службы і заняцца перапісваннем кніг. Гэтыя акалічнасці мы ведаем з прыпіскі майстра Мацея — прыпіска мае загаловак «Аб спісаўшым кнігі сія» і з'яўляецца арыгінальным і самастойным літаратурным творам біяграфічнага жанру.

У сям'і гараджаніна Іаана было тры дачкі і дзесяцера сыноў. Апошняга маці назвала Мацей Дзесяты — з гэтым імем ён і скончыў дні свае. Лёс раскідаў братоў — адзін жыў у Ноўгарадзе Вялікім, другі — у Вільні... Старэйшы стаў ігуменам полацкага манастыра Яна Прадцечы на Востраве — якраз у той час, калі вёў гандаль полацкі купец Лука Скарына і вучыўся чытаць славянскія кнігі яго сын Францішак — можа нават у прадцечанскай школе вучыўся. Што ж датычыць Мацея Дзесятага, то ён падаўся на вялікакняжую службу і толькі пад старасць пакінуў яе — каб напісаць «кнігі сія». У прыпісцы Мацей падрабязна пералічвае этапы работы над кнігай (другога перапісчыка ён не ўспамінае, хаця палеаграфічны аналіз рукапісу паказвае наяўнасць двух почыркаў — галоўнага майстра і вучня). Адна з неразгаданых загадак «Дзесятаглава» — яго назва. Ужо ў 1631 годзе, у памянніку Супрасльскага манастыра кніга, якую перапісаў і ўклаў «шляхетны Мацей Іаанавіч», названа «Дзесятаглаў», хоць змешчаныя ў ёй «Кніга Менандра» і тэксты Старога запавету дзесяць раздзелаў не складаюць...

На вонкавы выгляд першых рукапісных кніг, якія створаны былі на беларускіх землях, моцна паўплывала грэка-візантыйская і балгарская традыцыя. Самы першы — «візантыйскі» стыль аздаблення вызначаўся выкарыстаннем маляваных шматколерных ініцыялаў, заставак і канцовак, у якіх пераважалі раслінныя арнаменты, а дамінантнымі колерамі былі чырвоны, зялёны, барвовы, золата. У XIII стагоддзі шырока распаўсюдзіўся новы — «тэраталагічны» або «пачварны» стыль, яму на змену прыйшоў стыль «балканскі», радзімай якога былі балгарскія і сербскія землі. А побач з «балканскім» у канцы XV стагоддзя ўзнік мясцовы спосаб упрыгожваць рукапісную кнігу, стваральнікі якога арыентаваліся на старыя рукапісы візантыйскага стылю, і таму названы ён быў «неавізантыйскім». Шмат мастакоў кнігі працавалі ў «неавізантыйскім» стылі ў XV — XVII стст. па ўсёй Беларусі, у іх ліку і Мацей Іаанавіч.

Каб «Дзесятаглаў» выглядаў святочна і ўрачыста, Мацей Дзесяты ўпрыгожыў яго больш як 250 шматколернымі ініцыяламі, больш як 40 застаўкамі з раслінным арнаментам і адной мініяцюрай. Акрамя гэтага, частку новазапаветных тэкстаў майстар напісаў каляровым чарнілам і фарбамі — залатой, чырвонай, сіняй, чорнай, зялёнай. У выніку старонкі кнігі нагадваюць маляўнічы дыван, арнаменты якога абумоўлены ўнутраным зместам тэксту. Ініцыялы, якія складаюцца з расліннага ці геаметрычнага арнаменту, часам упрыгожаны выявамі птушак і звяроў — тут з вялікім падабенствам намаляваны сарока, певень, зязюля, кот. Разнастайнымі фарбамі і золатам і да сённяшніх дзёнззяюць застаўкі — невялікія арнаментальныя кампазіцыі, якія падзяляюць кнігу на чытанні і ўпрыгожваюць пачатак кожнага раздзела. Каліграфічнае майстэрства Мацея Дзесятага выявілася і ў тым, што ён выкарыстоўвае адмыслова напісаны радок у якасці арнаменту — напрыклад, запіс-віньетка ў канцы яго аўтабіяграфічнай прыпіскі. Почырк перапісчыка няроўны на працягу рукапісу. Часам ён больш дробны і акуратнейшы, часам грубейшы і больш буйны. У некаторай ступені гэта звязана і з якасцю чарніла і пёраў.

Вяршыняй аздобы «Дзесятаглава» з'яўляецца мініяцюра. Яна складаецца з трох частак, на якіх адлюстраваны працэс навучання спевам і танцу. Цікава, што некаторыя з персанажаў — Асаф і Ідыфум — вынесены на левае поле ліста. Гэта сведчыць аб спрактыкаванасці аўтара мініяцюры ў пабудове кампазіцыі. Зараз няма адказу на пытанне — сам Мацей Дзесяты выканаў мініяцюру, ці гэта зрабіў ілюмінатар-прафесіянал з Супрасльскага манастыра? Калі сам Мацей — аўтар мініяцюры, значыць, ён быў не толькі перакладчыкам-эрудытам, які ведаў грэчаскую, яўрэйскую і лацінскую мовы, не толькі перапісчыкам вышэйшай кваліфікацыі, але і выдатным мастаком-мініяцюрыстам.

Лёс рукапісу Мацея Дзесятага багаты на прыгоды. Доўгі час кніга захоўвалася ў Супраслі, потым яе перавезлі ў Жыровіцкі манастыр (недалёка ад Слоніма). Прысланы з Масквы ў пачатку XIX стагоддзя ў якасці прафесара Жыровіцкай семінарыі архімандрыт (пазней епіскап) Павел Дабрахотаў, атрымаўшы перавод у Петразаводск, «прыхапіў» з жыровіцкай бібліятэкі каля тысячы найкаштоўнейшых старадрукаў, рукапісных кніг і актаў. Знік бясследна і «Дзесятаглаў», прычым пасля смерці Дабрахотава, калі ў розных кнігасховішчах з'явіліся часткі яго калекцыі, рукапіс Мацея Дзесятага не знайшоўся. Толькі ў 1910 годзе ён паступіў у бібліятэку Пецярбургскай акадэміі навук разам са зборам акадэміка-славіста Ізмаіла Сразнеўскага. Зараз кніга захоўваецца ў Ленінградзе...

Кожны з нас, не задумваючыся, можа назваць імёны беларускіх першадрукароў: Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі... А вось паспрабуйце прыгадаць хоць аднаго з перапісчыкаў... Пасля сённяшняй публікацыі наш чытач адразу скажа: Мацей Дзесяты, перапісчык «Дзесятаглава». А больш?

Вывучэнне беларускага кнігапісання яшчэ толькі распачынаецца. Захавалася няшмат старажытных рукапісаў, ды і тыя ліхія гады раскідалі па свеце. Вялікая праца — сабраць па розных архівах і бібліятэках звесткі пра беларускія рукапісы, апісаць іх і іх стваральнікаў, абставіны, у якіх узнікла і вялося кнігапісанне, раскрыць сучаснікам вясёлкавы свет кніжнай ілюмінацыі. Праца такая вядзецца, вядомы ўжо многія імёны кніжнікаў-перапісчыкаў, заказчыкаў рукапісаў, пераплётчыкаў, мастакоў-ілюмінатараў. Але каб пазнаёміць з гэтай спадчынай шырокага чытача, патрэбна практычная зацікаўленасць у гэтай справе нашых выдавецтваў.

**Мікола НІКАЛАЕЎ.**



**Узор каліграфічнага почырку Мацея Дзесятага. Фота аўтара.**

Студзень 1951 года. На студыі «Масфільм» зацверджан для пастаноўкі сцэнарый Усевалада Вішнеўскага «Незабыўны 1919-ты». Пачаўся актыўны пошук акцёраў. Асабліва на ролю Уладзіміра Ільіча Леніна. З розных гарадоў і тэатраў краіны былі запрошаны ў Маскву артысты — выканаўцы гэтай надзвычай складанай і адказнай ролі.

Ужо каторы дзень праводзіліся кінапробы, але рэжысёр усё быў незадаволены. Даведаўшыся пра гэта, я параіў звярнуць увагу на майго шматгадовага сябра і творчага настаўніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, народнага артыста СССР Паўла Сцяпанавіча Малчанава, які тады ў Беларускім тэатры імя Якуба Коласа выконваў ролю Леніна (у далейшым П. С. Малчанаў іграў ролю Уладзіміра Ільіча Леніна ў розных п'есах на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы). У той жа дзень у Віцебск Малчанаву была адаслана запрашальная тэлеграма. Гэта вельмі здзівіла і ўразіла Паўла Сцяпанавіча. Ён прыехаў у Маскву. Чакаючы чаргі на пробу, беларускі акцёр прысутнічаў у павільёне, калі здымалі іншых калег-артыстаў. Прыглядаўся, запамінаў, «прымерваўся». Яго здзівіла, як хутка і ўдала зрабілі спецыялісты парык. У гэтым парыку Малчанаў дзейнічаў перад аб'ектывам кінаапаратара ўпэўнена, энергічна, з натуральнай эмацыянальнасцю. Каб дасягнуць як мага большага вонкавага падабенства з Леніным, над грымам працавалі лепшыя майстры пад кіраўніцтвам выдатнага грымёра-мастака А. Ярмолава, які шмат разоў бачыў жывога Ільіча і глыбока вывучыў ленінскую іканаграфію. Яшчэ ў даваенны час А. Ярмолаў набыў вялікі вопыт. Гэта менавіта ён стварыў дасканалы грым вялікаму рускаму артысту Барысу Шчукіну.

...На мастацкім савеце былі прагледжаны «ролікі» ўсіх прэтэндэнтаў на ролю Леніна. Пагадзіліся, што «ролік» П. С. Малчанава — найлепшы. Вырашылі паказаць усе кінапробы Лідзіі Аляксандраўне Фоціевай — шматгадовай супрацоўніцы Уладзіміра Ільіча. Не ведаючы высноў мастацкага савета, яна таксама вылучыла «ролік», дзе былі зняты Павел Малчанаў. Мала таго, Фоціева была ў захапленні, як яна казала, ад інтуіцыі беларускага акцёра, які бліскуча перадаў самыя тонкія рысы і адценні характару вялікага правадыра, яго жывыя паводзіны. Лідзія Аляксандраўна не ведала, што Павел Сцяпанавіч многае ўзяў і пачуў ад роднага брата Леніна — Дзмітрыя Ільіча Ульянава, з якім сустракаўся яшчэ да кінапроб.

Асабліва спадабалася членам мастацкага савета так званая «Маўклівая сцэна». Некалькі мінут Ленін заставаўся ў кадры адзін. Спачатку штосьці пісаў, потым устаў, прайшоўся тудысюды па пакоі. Падышоў да акна, паглядзеў у далеч. Пастаяў нерухома, напружана аб нечым думаючы. Прыняў рашэнне, падышоў да стала, сеў, засяродзіўся. Пасля ўзяў ліст паперы і пачаў энергічна пісаць. З пункту гледжання драматычнага мастацтва такое працяглае маўчанне лічыцца амаль што недасягальным, але акцёр настолькі арганічна жыў у вобразе, што гледачы ўвесь час сачылі за ім, затаіўшы дыханне.

Апаратары ўдала знялі кабінет Леніна ў Крамлі. Яго кватэру, сціплы быт. Сустрэчу і гутарку з М. І. Калініным. Удзел Леніна ў суботніку, дзе ён, пасля напружанай працы прысеўшы разам з рабочым адпачыць, вёў з ім задушэўную размову, прасякнутую марай пра камуністычную будучыню. Знялі Леніна на вяселлі ў знаёмага матроса-рэвалюцыянера. Гэтыя і іншыя сцэны былі пастаўлены бліскуча, і не віна рэжысёра Міхаіла Чыяурэлі, што ў фільме «Незабыўны 1919-ты», які ў хуткім часе выйшаў на экраны, засталося ўсяго некалькі кадраў з Леніным. На шчасце, увесь адзняты матэрыял захаваўся, і яго можна выкарыстаць зараз не толькі ў дакументальным фільме пра акцёра...

Калі канчаліся здымкі «Незабыўнага 1919-га», у Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатры СССР імя М. Горкага рыхтаваліся ставіць п'есу з вобразам Леніна. Даведаўшыся пра поспех на «Масфільме» беларускага артыста, прапанавалі яму работу ў гэтым славутым тэатры. А праз дзень-другі Малчанаў атрымаў запрашэнне пераехаць з Віцебска ў Мінск, на сталую работу ў тэатр імя Янкі Купалы. Павел Сцяпанавіч адказаў кіраўніцтву МХАТа, што яму не пад сілу пакінуць бацькаўшчыну, дзе ён рос, дасягнуў прызнання. У хуткім часе акцёр прыехаў у Мінск.

Праз многа гадоў, ужо на пенсіі, Павел Малчанаў часта выступаў у розных кутках Беларусі з лекцыямі-канцэртамі, у якіх расказваў аб сваёй няспыннай працы над вобразам правадыра. Такіх выступленняў толькі для моладзі, у навучальных установах адбылося больш як чатырыста. У гэтых паездках прымаў удзел і аўтар гэтых нататак. Мы наведвалі цэхі фабрык і заводаў, рабочыя і калгасныя Палацы культуры і клубы, інстытуты і школы, дамы адпачынку і прафілакторыі, воінскія часці і студэнцкія інтэрнаты. Павел Сцяпанавіч гутарыў з аўдыторыяй і адказваў на пытанні, а пасля ішоў за кулісы і грыміраваўся. У гэты час я чытаў творы пра Ільіча, якія напісалі Я. Купала, Я. Колас, іншыя беларускія пісьменнікі. Заканчваў вечар Павел Сцяпанавіч у касцюме і грыме правадыра. Ён натхнёна выконваў маналог з п'есы Мікалая Пагодзіна «Чалавек з ружжом» і ўрыўкі з іншых ленінскіх спектакляў. Да глыбіні душы ўзрушаныя людзі, стоячы, доўга пляскалі ў далоні ў падзяку выдатнаму акцёру. У такія моманты я заўсёды бачыў слёзы на вачах свайго сябра — слёзы творчай радасці.

Штодзённа на працягу многіх гадоў слухаючы Паўла Сцяпанавіча, я добра запомніў тое, што ён гаварыў са сцэны. А аднойчы занатаваў яго выступленне. Вось яно:

«У 1937 годзе, напярэдадні святкавання дваццатай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, тэатр імя Вахтангава паставіў спектакль па п'есе Мікалая Пагодзіна «Чалавек з ружжом». У ролі Леніна выступіў тады ўпершыню Барыс Шчукін. Неўзабаве другі акцёр — Максім Штраух сыграў ролю Уладзіміра Ільіча ў п'есе Аляксандра Карнейчука «Праўда» — таксама ў Маскве, у тэатры імя Рэвалюцыі. У тыя незабыўныя дні я быў у сталіцы і бачыў абодва спектаклі. Яны запомніліся на ўсё жыццё. Шчукін — увесь непасрэднасць і натхнёная рэвалюцыйная страснасць. Штраух — мэтанакіраванасць, манументальнасць, воля, розум, вонкавая стрыманасць.

Творчы прыклад натхнёных майстроў сцэны захапіў многіх савецкіх акцёраў, і ў хуткім часе Уладзімір Ільіч Ленін загаварыў са сцэны на мовах народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы — на ўкраінскай, грузінскай, казахскай, таджыкскай... Сапраўднае мастацтва бярэ чалавека ў палон. Я апынуўся ў палоне і з тае пары заўсёды думаў, фантазіраваў, прымерваўся, як бы самому адважыцца і сыграць гэту цудоўную, складаную ролю. Маім захапленнем зацікавілася кіраўніцтва тэатра. Было вырашана паставіць у БДТ-2 п'есу «Чалавек з ружжом» да кастрычніцкіх свят 1938 года. Ролю Леніна даручылі мне. Запрасілі з Масквы рэжысёраў А. Віньяра і Б. Тамарына, якія доўгі час працавалі з выдатным рэжысёрам і цудоўным акцёрам А. Д. Дзікім.

У дваццатыя гады я вучыўся ў Маскве, але, на вялікі жаль, ніводнага разу не бачыў Уладзіміра Ільіча Леніна ў жыцці. Мне давялося разам з Масквою, разам з усім савецкім народам перажыць вялікае гора — смерць Леніна. У вялікай чарзе, разам з ракою працоўных я праходзіў каля труны Уладзіміра Ільіча ў Калоннай зале Дома Саюзаў. Рака цягнулася тры дні і тры ночы. Каля труны стаяла Надзежда Канстанцінаўна Крупская і самыя блізкія паплечнікі вялікага правадыра. Ніколі не забуду гэтых марозных дзён і начэй, вогнішчаў у Ахотным радзе. Я быў на Краснай плошчы ў дзень пахавання Ільіча. Нельга перадаць напружання душэўных сіл, калі ставілі труну ў Маўзалей: пяціхвіліннае маўчанне, жыццё нібы спынілася па ўсёй краіне, і толькі жалобныя гудкі заводаў і паравозаў ды яшчэ артылерыйскія залпы парушалі журботную цішыню. Менавіта тады я зразумеў веліч Леніна. Працуючы над вобразам правадыра, я заўжды ўспамінаў 1924 год, і з многіх матэрыялаў, з якіх у мяне складваўся вобраз, успаміны пра тыя жалобныя дні, уражанні ад таго, што давялося мне тады пабачыць на свае вочы, былі самыя моцныя.

Летам 1938 года на працягу двух тыдняў я наведваў музеі Леніна ў Маскве і Ленінградзе. Углядаўся ў фота, вывучаў карціны, скульптуры, рукапісы, почырк Леніна (роўныя акуратныя радкі пра многае гавораць). Глыбокае ўражанне зрабілі на мяне малюнкі і скульптурныя эцюды скульптара А. Андрэева, якія паказваюць Уладзіміра Ільіча ў заўсёдным руху і вельмі непасрэдна. Гэты майстар атрымаў дазвол ад Уладзіміра Ільіча на працу ў яго кабінеце. Ён сціпла масціўся ў кутку, каб не перашкаджаць напружанай працы Леніна.

У думках я часта вяртаўся да вобраза Леніна, створанага Барысам Васільевічам Шчукіным, арыентаваўся на яго. Але баяўся голага пераймальніцтва. Хацеў зыходзіць са сваёй індывідуальнасці і знайсці арыгінальнае рашэнне. Ад сяброў, маскоўскіх акцёраў, я даведаўся, што Максім Горкі ў той час, калі ў тэатры імя Вахтангава ставілі спектакль па яго п'есе «Ягор Булычоў», аднойчы сказаў: «Калі вы калі-небудзь паставіце п'есу з роляй Леніна, дык не трэба даручыць Барысу Шчукіну».

Гэтыя словы дужа ўсхвалявалі Барыса Васільевіча і пасялілі запаветную мару ў яго душы.

У 1936 годзе Мікалай Пагодзін пазнаёміў Шчукіна з яшчэ не дапрацаваным ім сцэнарыем, які пазней быў пераатвораны ў

# НЕЎМІРУЧЫ

п'есу і сцэнарый «Чалавек з ружжом».

Шчукін таксама не бачыў Леніна пры жыцці, не ўяўляў сабе яго паходкі, рухаў, жэстаў, манеры гаварыць з людзьмі і па тэлефоне. Пра ўсё гэта ён даведаўся ад тых, хто блізка ведаў Ільіча, працуючы пад яго непасрэдным кіраўніцтвам. Я разумеў, што ў гэтых адносінах павінен пайсці ўслед за Шчукіным. І трэба сказаць, што ў далейшым мне вельмі пашанцавала.

У Ленінградзе ў 30-я гады я працаваў працяглы час на кінастудыі «Белдзяржкіно» і, вядома, наведваў многія гістарычныя ленінскія мясціны. І вось цяпер зноў пабываў у Смольным, у Разліве. Наведаў канспіратыўную кватэру на Выбаргскай, адкуль у ноч з 24 на 25 кастрычніка 1917 года Уладзімір Ільіч накіраваўся ў Смольны, каб узначаліць гістарычнае паўстанне пралетарыяту... Трапіла да мяне і кінахроніка. На экране бачыў я то палымянага трыбуна, то простага, надзвычай чалавечнага чалавека са спагадлівай прыхаванай усмешкай. Я вывучаў творы Леніна, каляндар яго жыцця з часу прыезду ў Расію аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Без такой папярэдняй падрыхтоўкі нельга акцёру, які рыхтуе ролю Леніна, прыступаць да рэпетыцыі п'есы.

Мяне ўзрадавала, калі я даведаўся, што Ленін вельмі любіў класічную музыку, Маскоўскі мастацкі тэатр. На жаль, бываць на спектаклях і канцэртах выпадала яму рэдка — не хапала вольнага часу.

Я вярнуўся з творчай камандзіроўкі ўвесь у палоне вобраза. Шукаў паходку правадыра, яго манеру гаварыць, вучыўся грасіраваць. Вядома, што Уладзімір Ільіч крыху картавіў — гэта перайшло ад яго бацькі Ільі Мікалаевіча. Не адразу ўдалося мне авалодаць яго «р». На шчасце, былі пласцінкі з прамовамі Леніна. Я заходзіў далёка ў лес і ўслых паўтараў прамовы «Што такое Савецкая ўлада», «Аб сялянах-серадняках», «Памяці таварыша Свярдлова».

Нарэшце пачаліся рэпетыцыі. Зыходзячы з матэрыялу п'есы, я вызначаў сабе задачу паказаць Леніна ў трох планах: як правадыра і арганізатара Кастрычніцкай рэвалюцыі, як самага чалавечнага з людзей, перадаць вострае ленінскае мысленне.

Незадоўга да выпуску спектакля я яшчэ раз наведаў Маскву. Старшыня Усесаюзнага камітэта па справах мастацтва Храпчанка, які прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы нашай пастаноўкі, памог мне сустрэцца з паплечнікам Леніна — Емяльянам Яраслаўскім. Кансультуючыся, я паказаў яму некаторыя сцэны ў кабінеце. Яраслаўскі пахваліў маю працу, а на маё пытанне, як Ленін ставіўся да ворагаў рэвалюцыі, адказаў вельмі вобразна: «Ленін з ворагамі рэвалюцыі быў як востры нож — адразаў іх цалкам». Ён рабіў рэзкі жэст рукою зверху ўніз, ілюструючы сказанае. Я скарыстаў гэты жэст у ролі. У канцы кастрычніка спектакль быў ужо дбайна падрыхтаваны. Прэм'ера адбылася ў Мінску перад удзельнікамі сталічнага партыйнага актыву. Як вядома, Леніна ў першых карцінах яшчэ няма на сцэне, але ва ўсім адчуваецца яго прысутнасць, яго блізкасць.

І вось — калідор Смольнага. Глядач чакае з'яўлення Леніна, акцёры, хвалюючыся, тоўпяцца за кулісамі. Мае нервы бязмежна напружаны, але думка ясная. Уся воля сабрана ў адно. Нарэшце мой выхад. Я імклівай бадзёрай паходкай іду па калідоры Смольнага. Шадрын набліжаецца да Леніна... І раптам аднекуль зверху, адразу ж ахапіўшы ўсю глядзельную залу, на мяне хлынула лавіна дружных воплескаў. Яна ўсё мацнела. Гэта доўжылася некалькі мінут.

Я паглядзеў на Шадрына, добразычліва ўсміхнуўся яму і чакаў, калі можна будзе пачаць гаварыць. У галаве маланкай прабегла думка: на шчасце, аблічча ўспрымаецца добра, а што будзе, калі прагучаць першыя словы Леніна ды яшчэ па-беларуску. Пачаўся дыялог з Шадрыным. Пануе цішыня. Глядач прагна ловіць кожнае слова, кожны рух Леніна. Пасля заканчэння сцэны загрымелі дружныя апладысменты. Я ўздыхнуў з палёгкай, адчуўшы, што думка, мова, рух супадаюць з уяўленнем гледача пра Леніна. І гэта надало мне сцэнічнай упэўненасці.

У канцы спектакля тэатр загудзеў, як вулей. Мы віншавалі адзін аднаго, кідаліся ў абдымкі. За кулісы найшло шмат гасцей. Яны гаварылі, хвалюючыся, дзякавалі за радасць. Вельмі ўдалым быў у спектаклі Шадрын (артыст М. Звездачотаў).

Пасля спектакля мы з жонкай, поўныя ўражанняў, вярталіся дамоў. Ішлі моўчкі. Гаварыць ні пра што не хацелася. Дома ўсе мае хваляванні апошніх месяцаў, прэм'ера выліліся ў нечаканасць. Я раптам заплакаў, як дзіця: моцна і шчыра. Гэта былі слёзы радасці.

Спектакль «Чалавек з ружжом» стаў падзеяй у культурным жыцці рэспублікі, высока ўзняў аўтарытэт тэатра. Пазней я выступаў у ролі Леніна ў спектаклях «Крамлёўскія куранты» (1940, 1954, 1956 гг.), «Незабыўны 1919-ты» (1949), «Залп Аўроры» (1952), «Вечная крыніца» (1957), «Грозны год» (1957).

На сезон 1941—1943 гадоў мяне залічылі ў трупу Ульянаўскага гарадскога тэатра. Я меў гонар першым іграць ролю Уладзіміра Ільіча на яго радзіме. Гэта быў звыклы мне твор «Чалавек з ружжом». Ва Ульянаўску набыў я дадатковы матэрыял пра Леніна, шмат гадзін вывучаў яго музей-кватэру. А ў дамку, дзе нарадзіўся Уладзімір Ільіч, жыў тады яго родны брат Дзмітрый Ільіч Ульянаў. Аднойчы мяне пазнаёмілі з ім, і я стаў заходзіць да яго ў госці. Дзмітрый Ільіч многа расказваў мне пра свайго брата, я слухаў яго, затаіўшы дыханне. Жывы вобраз Ільіча ўзнікаў у маёй свядомасці і сэрцы. «Брат быў чалавек энергічны, рухавы, імклівы,— гаварыў Дзмітрый Ільіч.— Лёгка пераключаўся са звычайнасці, будзённасці ў сабранасць і поўную засяроджанасць. Дасканала ўмеў ушчыльняць час, валодаць кожнай мінутай свайго быцця як у працы, так і ў адпачынку. Гэтыя рысы ён пераняў ад нашага бацькі Ільі Мікалаевіча. Падрыхтоўку да задуманай справы праводзіў старанна, дбайна і ўсебакова, а здзяйсняў заўсёды з захапленнем і напорам. Быў на рэдкасць дысцыплінаваны, пунктуальны. Вельмі чулы і клапатлівы да сям'і і таварышаў, не звяртаў увагі на ўласны быт. Да мінімуму абмяжоўваў свае патрэбы ў харчаванні, адзенні і хатняй абстаноўцы. Смяяўся, як ніхто, нейкім своеасаблівым, уласцівым яму аднаму, гучным смехам. Смяяўся ад душы, аж да слёз. Непасрэдны і шчыры, ён не любіў позы, наўмыснасці і фанабэрыі. Усім сэрцам любіў дзяцей, гуляў з імі і сам свяціўся радасцю, як дзіця. Прыроду любіў, кветкі. Марскі прастор і марскі вецер радавалі яго. Купанне лічыў найвышэйшай асалодай. Захапляўся шпаркай яздой на веласіпедзе. У эміграцыі кепска харчаваўся і не меў належнага адзення, часта балела галава і пакутаваў ад бяссонніцы, але быў цярплівы і не скардзіўся».

...Усю зіму наведваў я Дзмітрыя Ільіча, і кожны раз ён расказваў нешта новае пра свайго геніяльнага брата.

Неяк Дзмітрый Ільіч папрасіў мяне прачытаць апавяданне Максіма Горкага «Дзед Архіп і Лёнька», якое вельмі падабалася Уладзіміру Ільічу. Я ўзяў кнігу і пачаў чытаць. Перагортваючы старонку, заўважыў, што на вочы Дзмітрыя Ільіча набеглі слёзы. Я не вытрымаў, са мною здарылася тое ж самае, і чытанне было прыпынена.

Мы пілі чай... Выразна помню Аляксандру Фёдараўну — жонку Дзмітрыя Ільіча і вельмі ласкавую сціплую дачку Вольгу Дзмітрыеўну *, дзякуючы якой я пазнаёміўся з Дзмітрыем Ільічом.

У студзені 1942 года я запрасіў Дзмітрыя Ільіча і яго сям'ю паглядзець мяне ў ролі Леніна ў спектаклі «Чалавек з ружжом». Дзмітрый Ільіч быў дужа хворы. Дактары прыпісалі яму пасцельны рэжым і толькі зрэдку дазвалялі кароткія прагулкі на аўтамабілі. Але ён згадзіўся паглядзець, як я іграю, і прыехаў са сваёю сям'ёю ў тэатр.

Я не помню, калі яшчэ так хваляваўся. Ці не пакрыўджу я брата Леніна, ці адпавядае вялікаму вобразу тое, чым я жыву на сцэне?

Як толькі скончыліся ленінскія сцэны, я, не здымаючы касцюма і грыму, зайшоў да свайго госця ў ложу.

Узнікла паўза. Дзмітрый Ільіч расчулена глядзеў на мяне, потым сказаў: «Ну што ж, асноўныя, адметныя рысы Уладзіміра Ільіча вы перадаяце, па-мойму, правільна». Гэтая кароткая ацэнка натхніла мяне на далейшае ўдасканаленне вобраза...»

У суровыя ваенныя гады знаходзіўся ва Ульянаўску, у эвакуацыі, прафесар Ленінградскага тэатральнага інстытута В. Сладкапеўцаў. Ён так пісаў пра П. Малчанава ў мясцовай газеце «Пролетарский путь»: «Яго Ленін — сапраўднае творчае стварэнне вобраза,— творчае таму, што акцёр у гэтай ролі не толькі знаходзіць новае для сябе, але і новае для мастацтва, новае для тэатра. Улічыўшы і апрацаваўшы вялікі матэрыял, П. С. Малчанаў адкідае ўсялякую позу, усялякую чыста плакатную падкрэсленасць таго або іншага вонкавага характэрнага руху Уладзіміра Ільіча, паглыбляючы тым самым прастату і разам з тым глыбіню вобраза Леніна».

Неабходна падкрэсліць, што Павел Сцяпанавіч Малчанаў першы ў Беларусі пачаў тэатральную ленініяну і сваёй самаадданай натхнёнай творчасцю даў прыклад маладым акцёрам на далейшае ўдасканаленне неабдымнага вобраза геніяльнага правадыра.

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА,**
**заслужаны дзеяч**
**культуры БССР.**

* У студзені 1980 года Вольга Дзмітрыеўна была ў Мінску. Яна казала мне, што яе бацька і ўся сям'я вельмі цанілі Паўла Сцяпанавіча Малчанава як выдатнага выканаўцу ролі Леніна і глыбока паважалі як цудоўнага, абаяльнага чалавека. На працягу шэрага гадоў Малчанаў перапісваўся з Вольгай Дзмітрыеўнай.

# ВОБРАЗ

Мікалай ЗЯНЬКОВІЧ

# У КРАІ „НЯБЕСНЫХ ГОР"

## НА ЦЕПЛАХОДЗЕ

### ЗГАДКА АБ СЛЯЗЕ МАНАСА, АБО ЎСТУП ДА РАСКАЗУ ПРА ГАРАЧАЕ ВОЗЕРА

— Хочаце зрабіць прагулку на цеплаходзе?

Нічога дзіўнага ў пытанні не было б, калі б яго задалі, скажам, улетку. Але справа ў тым, што пачуў я яго ў канцы... студзеня. Па «Маяку» перадалі — у Мінску дваццаць два градусы марозу.

Хто адмовіцца ад спакусы ступіць на палубу прыгажуна-цеплахода ў той час, калі на яго радзіме ўсе рэчкі і рачулкі даўно скаваны моцным лёдам, занесены гурбамі снегу? Не ўстаяў і аўтар гэтых радкоў.

І вось мы на судне. Іграе музыка. Турысты апрануты па-святочнаму. Адчальваем. Пакрысе аддаляецца бераг. Ласкава свеціць сонца. Усюды, куды ні кінеш вокам,— гладкая, люстэркавая роўнядзь вады.

Знаёмлюся з пасажырамі. Маладыя рабочыя, чабаны, рыбакі праводзяць свой выхадны дзень у любімым месцы адпачынку — на высакагорным возеры Ісык-Куль. Яно не замярзае і зімой. Відаць, надта гаручай была сляза Манаса, што ціха скацілася з павека быліннага волата менавіта на гэтым месцы. Паводле падання, слёзы кіргізскага волата ператварaліся ў азёры, а слязы — у райскія даліны сярод гор Цянь-Шаня. Сапраўды, унікальны, непаўторны цуд прыроды!

Час змяніў прывычкі і быт былых качэўнікаў. Як цяжкі, пачварны сон успрымаецца сёння жыццё ў юртах, у якіх звычайна размяшчаліся і нованароджаныя ягняты і казляняты, вісеў пастаянны дым ад кастра, прывычнымі былі бруд земляной падлогі, агульны посуд і ручнікі. Толькі падумаць: колавы транспарт у Кіргізіі з'явіўся літаральна за некалькі гадоў да Вялікага Кастрычніка!

Да прыходу рускіх на ўсёй Кіргізіі не было ніводнай дарогі, не кажучы ўжо аб паштовых трактах, ніводнага моста! Рускія сяляне навучылі кіргізаў вырабляць падводы і брычкі, хамуты і дугі, лейцы і падсядзёлкі, пракладваць масты праз рэкі. Першы човен, прывезены на Ісык-Куль, выклікаў у мясцовых жыхароў спачатку вялікі рогат, а пасля масавыя паломніцтвы. Цэлымі сем'ямі спускаліся з гор да вады, каб пабачыць кволую шкарлупінку, якая несла ў сваім чэраве некалькі чалавек і не ішла на дно. А калі б ім даваліся зірнуць на наш прыгажун-цеплаход?

Па ўсім бачна, маіх суседзяў па палубе габарытамі судна не здзівіш. Прывыклі. Як і кожнага сучаснага чалавека, маладых кіргізаў мала чым здзівіш. Па інтэлекту, прафесійнаму ўмельству яны нічым не адрозніваюцца ад рускіх, украінцаў, беларусаў, узбекаў, таджыкаў, якіх тут нямала. Усе жывуць адной дружнай сям'ёй, і вытокі моцнай сённяшняй дружбы нараджаліся ў тыя часы, калі самым блізкім сябрам, старэйшым і добрым братам кіргізу стаў рускі чалавек. Безумоўна, не кожны рускі. Былі і ўраднікі, і жандары, і рознага роду абіралы, якіх цікавіла толькі нажыва. Але былі і Сямёнаў-Цян-Шанскі, і Пржавальскі, і Мушкетаў, і Северцаў, і Радлаў, і Скрабін, і сотні іншых славутых рускіх людзей — першаадкрывальнікаў краіны «нябесных гор». А дзесяткі тысяч простых сялян і рамеснікаў, чые імёны не захаваліся ў гісторыі, але якія па-брацку, бескарысліва, дзяліліся сваім умельствам з малодшымі братамі — кіргізскім і іншымі народамі.

Па дарозе з Фрунзе на Ісык-Куль мы праязджалі праз райскі куточак — горад Такмак. Мне расказалі, што вясной вакол яго палымнеюць велізарныя плантацыі, засеяныя лекавым макам. Вырошчваць мак кіргізы навучыліся ў дунганаў — вялікіх майстроў гэтай справы. Мак на мове дунганаў азначае «залатая кветка». Дунганы прыйшлі ў раён Ісык-Куля з-за гор у канцы мінулага стагоддзя, ратуючыся ад жорсткага прыгнёту дэспатычнага імператара. Гэта быў неверагодна цяжкі шлях, і тыя, каму ўдалося яго пераадолець, мелі страшэнны выгляд: абмарожаныя, паўгалодныя, абарваныя. Асабліва невыносна пакутавалі дзеці бежанцаў. Рускі фельчар Васіль Міхайлавіч Фрунзе ўзначаліў барацьбу за аказанне дапамогі народу, паўстаўшаму супраць тыраніі: наладжваў выратавальныя экспедыцыі ў горы, арганізоўваў лагеры бежанцаў, лячыў хворых і знясіленых. Калі ж з-за гор патрабавалі выдаць кіраўніка паўстання, у яго абарону загучаў магутны голас другога рускага — вядомага падарожніка і вучонага Пржавальскага, які быў сведкам невыноснага жыцця дунганаў. Артыкулы Пржавальскага прыцягнулі сусветную ўвагу, і пад уплывам грамадскай думкі царскі ўрад адмовіўся выдаць на расправу арганізатара народных уцёкаў Біянху — «гнеўнага тыгра».

У Фрунзе мне падарылі мініяцюрнае выданне «Манаса». «Манас» — шырокавядомы кіргізскі гераічны эпас. Паводле трапнага выказвання Ч. Валіханава, «гэта нешта накшталт стэпавай «Адысеі», «энцыклапедычны збор усіх кіргізскіх міфаў, казак, паданняў, прыведзены да аднаго часу і згрупаваны вакол адной асобы — волата Манаса». Аб'ём твора велізарны: каб прачытаць яго, спатрэбілася б каля паўгода, каб выдаць — не менш як дваццаць тоўстых тамоў. Эпас стваpaўся стагоддзямі ў далёкія часы перасялення народаў. У ім расказваецца аб бітвах у Цянь-Шані і подзвігах герояў. Ён уяўляе сабой трылогію. У першай часткі гаворыцца пра волата Манаса, у другой — пра яго сына Семетэя, у трэцяй — пра ўнука Сейтэка. У Таласкай даліне да сённяшняга часу захаваўся старажытны маўзалей XV стагоддзя. Паводле падання, там пахаваны астанкі магутнага Манаса.

Старажытны эпас, узрост якога некалькі стагоддзяў? Чакайце, але ж мы высветлілі: кіргізская пісьмовая літаратура нарадзілася 7 лістапада 1924 года. Усё правільна. На працягу многіх стагоддзяў тут існавалі прафесійныя сказальнікі. Яны валодалі фенаменальнай памяццю і здольнасцю чытаць вялікія эпічныя творы, як грэчаскія рапсоды ў часы Гамера. Кіргізскіх сказальнікаў называлі акынамі, перасказчыкаў эпічных вершаў — манасчы. Акыны і манасчы маглі служыць у багатага бая і апяваць свайго пана, але маглі быць і сапраўднымі народнымі акынамі і манасчы. Першыя не пакінулі і следу аб сваім існаванні, другія трывала трымаюцца ў памяці народа.

Працяг. Пачатак у № 12, 1986 г.

У Акадэміі навук Кіргізіі мне паказалі партрэт любімага ўсімі манасчы Сагымбая Аразбакава. Ён ведаў на памяць тысячы вершаў «Манаса» і быў вучнем шаноўнага манасчы Балыка, які дажыў да ста гадоў, а Балык вучыўся ў слаўнага Кальдыбека. Этнографы і фалькларысты з акадэміі наперабой расказвалі пра Кальдыбека: перад пачаткам сказання ён звычайна гаварыў слухачам: «Няхай прыйдуць сюды пастухі паслухаць мяне. Вашы авечкі і коні самі знойдуць дарогу дадому. Ні воўк, ні леапард, ні разбойнік не асмеляцца крануць авечку, калі я спяваю пра Манаса!»

Аб'ём эпасу мануметальны. У акадэміі паказалі запісы 40 яго варыянтаў, у тым ліку 20 варыянтаў першай часткі, 16 варыянтаў другой, і 7 — трэцяй. Запісана ўжо каля 2,5 мільёна вершаваных радкоў, якія займаюць амаль тры тысячы друкаваных аркушаў! Запіс эпасу працягваецца па сённяшні дзень. Ён перакладзены на рускую, англійскую, нямецкую і іншыя замежныя мовы.

Здабыткам сусветнай навукі «Манас» стаў дзякуючы рускім даследчыкам. Да моманту добраахвотнага ўваходжання Кіргізіі ў састаў Расіі эпас нідзе і нікім не запісваўся. Адным з першых, хто звярнуў увагу на гэты шэдэўр вуснай народнай творчасці і зрабіў першыя яго запісы, быў рускі акадэмік В. Радлаў. У 1885 годзе ён выдаў тэкст «Манаса» на кіргізскай мове ў рускай транскрыпцыі і адначасова пераклаў яго на нямецкую мову. Няхай той тэкст быў далёка не поўны — усяго 14 тысяч вершаваных радкоў, але ён даваў уяўленне аб таленавітым народзе, што стварыў незвычайнае сказанне, у якім апеў сваё ўласнае жыццё, пачуцці і імкненні. Інтэнсіўная ж работа па запісу і навуковаму вывучэнню ўсёй трылогіі стала магчымай толькі ў наш, савецкі час.

Зноў успомнілася размова з Чынгізам Айтматавым.

— Калі спытаць у любога кіргіза, чым ён больш за ўсё ганарыцца і чым больш за ўсё даражыць, ён адкажа: дружбай з рускім народам,— гаварыў пісьменнік.— Гэта вялікая дружба стала біяграфіяй кіргізскага народа, яна ўпісана ў біяграфію кожнага з нас.

Чынгіз Таракулавіч расказаў аб лёсе Тактагула Сатылганава — «кіргізскага салаўя», які першым з кіргізаў выступіў за дружбу з рускім народам, мудрасцю свайго таленту дапамагаў землякам знайсці шлях да праўды, быў нястомным прапагандыстам рускай дэмакратычнай культуры. Цудоўнай меладычнасцю дыхае паэзія Тактагула. Чынгіз Таракулавіч на памяць прачытаў некалькі яго строф, даў свой пераклад па-руску: «Помни, народ мой, богатство науки у русских. Не ленись, с молодости упорно изучай русский язык», «Благодари и приветствуй освободивший нас из темноты и мрака справедливый русский народ». Айтматаў узбуджана тлумачыць:

— Калі царскі ўрад саслаў на катаргу нашага вялікага акына, ён у Сібіры склаў свае бессмяротныя вершы пра рускага чалавека, пра дружбу з рускім народам. Ён з Сібіры наказваў свайму народу заўсёды мацаваць дружбу з рускімі. Тактагул праводзіў выразную розніцу паміж мудрым і спагадлівым рускім народам і віноўнікам усіх бед — царызмам. Рускі працоўны народ, тлумачыў акын, не эксплуатаваў кіргізаў, а сам пакутаваў пад прыгнётам памешчыкаў і капіталістаў.

Тактагул быў вязнем Аляксандраўскага цэнтрала — таго самага, праз які прайшоў М. В. Фрунзе. Як і Фрунзе, Тактагул быў прыгавораны да пакарання смерцю. У апошні момант смяротны прыгавор замянілі сямю гадамі катаржных работ у Сібіры. З этапнай турмы пад Іркуцкам акын уцёк. Праз два месяцы яго злавілі і прыгаварылі да дванаццаці гадоў катаргі. Тактагул знаходзіўся ў кайданах, але па-ранейшаму складаў свае песні. Ён зрабіў сабе камуз з абломкаў дошак, а рускія зняволеныя раздабылі яму струны ад балалайкі.

І ўсё ж акын уцёк з катаргі. Пеша ён прайшоў цераз усю Сібір, казахскія стэпы і горы Цянь-Шань. У гэта цяжка паверыць, але гэта так. У 1913 годзе яго злавілі зноў і кінулі ў турму. Тактагула вызваліла рэвалюцыя. Ён дажыў да 1933 года і паспеў убачыць у сваім жыцці многае. Ён складаў узнёслыя песні пра новы час, пра тэхніку і веды, што прыйдуць да яго народа і аблегчаць яму жыццё.

Неверагодныя гісторыі пачуў я пра Тактагула. Быццам ён меў такую ўладу над сваім камузам, што, дакрануўшыся да струн, мог прымусіць яго гаварыць чалавечым голасам. Я гутарыў з Аалы Такамбаевым, ён чуў, як спяваў акын. Усіх здзіўляла віртуознасць ігры «кіргізскага салаўя». Многа было ў яго незвычайнага, але каб прымусіць струны гаварыць чалавечым голасам... І ўсё ж разбураць прыгожую казку не хацелася: народ надзяляе цудадзейнымі якасцямі толькі тых, да каго адчувае асаблівую прыхільнасць і любоў.



## РАСКАЗ ПРА ГАРАЧАЕ ВОЗЕРА

Назва «Ісык-Куль» даслоўна перакладаецца так — «гарачае возера». Кіргізскае мора і сапраўды не замярзае нават у даволі моцныя маразы. Разгадка феномена простая. За вясну і лета возера сканцэнтроўвае ў сваіх паверхневых слаях велізарныя запасы цяпла, якога дастаткова для таго, каб вада тут не пакрывалася лёдам узімку. Накапленню гіганцкай колькасці цяпла садзейнічае вялікая глыбіня Ісык-Куля — больш як 700 метраў. Гэта глыбіня Міжземнага мора. Нягледзячы на тое, што возера акружана з усіх бакоў вечназялёнымі хрыбтамі, яно не паспявае астыць за зіму: тэмпература вады не апускаецца ніжэй плюс чатырох градусаў.

Ісык-Куль возера унікальнае. Яго водная роўнядзь раскінулася на вышыні 1608 метраў. Сярод высакагорных азёр свету (высакагорнымі лічацца азёры, што ляжаць на вышыні звыш 1200 метраў) Ісык-Куль па плошчы люстэрка займае другое месца, уступаючы толькі возеру Тыты-кака ў Паўднёвай Амерыцы. Па глыбіні ж і аб'ёму вады Ісык-Куль не мае роўных у свеце. Пры даўжыні возера 183 кіламетры і шырыні да 60 кіламетраў яго плошча складае 6206 квадратных кіламетраў (плошча Тытыкака — 8300 квадратных кіламетраў).

Вада ў Ісык-Кулі празрыстая, але салёная, для піцця непрыгодная. Здавалася б, пітной яна абавязкова павінна быць: у возера ўпадаюць больш як 70 высакагорных рэчак, навокал вечныя снягі. Справа ў тым, што ўпадаць дык яны ўпадаюць, але з возера не выцякае ніводная. Гэта і нарадзіла салёнасць.

Яшчэ адзін капрыз прыроды. Семдзесят рэчак нясуць у возера велізарную колькасць вады, дастатковай для таго, каб яе ўзровень узрастаў на дзесяткі метраў у год. Куды ж яна знікае, калі з возера не выцякае ніводзін ручаёк? Становішча выратоўваюць моцныя выпарэнні. Яны рухаюцца на ўсход і ператвараюцца ў воблакі, прыносячы ўрадлівасць усходняй ускраіне возера, на заходнім жа яго беразе — паўпустыня.

Шчыра кажучы, наслухаўшыся розных дзівосаў пра экзатычны куточак кіргізскай зямлі, спачатку адчуваеш нават лёгкае расчараванне, убачыўшы заходнюю частку Ісык-Кульскага ўзбярэжжа. Ззаду застаўся 176-кіламетровы шлях ад Фрунзе па вузкай Баамскай цясніне — першы адрэзак Вялікага Кіргізскага тракту, пабудаванага ў 1935 годзе. Шлях злучыў Фрунзе з горадам Рыбацкім на Ісык-Кулі, далей тракт ідзе на Нарын, Узген, Джалал-Абад і Ош, дзе злучаецца з самай высокай у свеце шашой — Памірскай.

167 кіламетраў ад Фрунзе да Ісык-Куля Фучык пераадолеў за некалькі дзён. Так-так, той самы Юліус Фучык, нацыянальны герой Чэхаславакіі. У Кіргізіі ён пабываў двойчы — у 1930 і 1935 гадах. 167 кіламетраў — гэта калі па прамым шляху. А прамы шлях тады быў даступны толькі арлам. У трыццатым, напружана крочачы па вярблюджай сцяжынцы ўслед за праваднікоМ, Фучык марыў аб магістралях, што пройдуць сярод снежных гор, аб бяспечных праездах, якія прыйдуць на змену небяспечным перавалам, аб аўтамабілях, што бесперашкодна будуць пераадольваць схаваныя воблакамі хрыбты. У трыццаць пятым ён пісаў у «Рудэ права»: «Перад намі ляжала шырокая, добраўпарадкаваная шаша, і аўтобус ляцеў па ёй, як па лепшых дарогах Еўропы. Пяць гадоў назад я ехаў тут у брычцы і ў душы маліў лёс захаваць мне жыццё, каб я мог праславіць па ўсім свеце імя фурмана, які бывае ў дарозе двойчы на тыдзень. Цяпер я сяджу ў аўтобусе і еду з такімі зручнасцямі, што магу спаць, круціць казіную ножку з махоркі або гутарыць са спадарожнікамі, не баючыся адкусіць сабе на першай жа калдобіне язык».

У час сваіх падарожжаў Фучык бачыў Кіргізію без дарог і Кіргізію з цудоўнымі магістралямі. Ён збіраўся стварыць гераічны эпас аб шашы — вялікім рухальніку прагрэсу ў гэтым краі. Накіды будучага твора, сабраныя з розных чэхаславацкіх газет, захоўваюцца ў Інстытуце мовы і літаратуры Рэспубліканскай акадэміі навук. З фрагментаў, кароткіх нататак, эсэ паўстаюць прывабныя вобразы рускіх людзей — інжынераў, тэхнікаў, рабочых, якія будавалі Вялікі Кіргізскі тракт.

Першаадкрывальнікам таямніц нябесных гор быў выдатны рускі вучоны і падарожнік П. П. Сямёнаў-Цян-Шанскі. Да яго на Цянь-Шань не ступала нага еўрапейскіх даследчыкаў. Пра цэнтральны азіяцкі горны хрыбет не мелі дакладнага ўяўлення нават такія светачы тагачаснай навукі, як А. Гумбальт і К. Рытэр.

У верасні 1856 года П. П. Сямёнаў прыбыў на Цянь-Шань. Ён быў першым рускім, які ўбачыў шматлікія паралельна выцягнутыя гіганцкія ланцугі гор з вяршынямі, апранутымі ў яркае ззянне вечных снягоў і лёду. Перад ім ляжалі бяскрайнія воды возера нябачанай прыгажосці, якое песцілася ў залатых промнях сонца. У добрае надвор'е так грэліся на схілах Цянь-Шаня жарабяты. Сямёнаў нагадаў бачанае ім славутае Жэнеўскае возера ў Альпах. «Не горш»,— падумаў ён, азіраючы цудоўную жамчужыну прыроды. «Лепш за Жэнеўскае»,— адзначыў ён у дзённіку, апынуўшыся на ўсходнім беразе Ісык-Куля.

Сапраўды, заходняе ўзбярэжжа не такое маляўнічае, хаця і яно паланяе сваёй непаўторнасцю. Тут нейкае неверагодна белае, асляпляльнае святло — відаць, пасля Баамскай цясніны. Горы непрывычна голыя, без усякай расліннасці. І ўсё ж па-свойму прыгожа!

Кніга Сямёнава «Падарожжа ў Цянь-Шань» стала сапраўдным адкрыццём. І не толькі казачна багатай прыроды не вядомага раней краю, а і жыцця яго народа. Вучонага цікавілі быт і родавыя адносіны кіргізскіх плямёнаў, іх гісторыя, эканамічныя, гандлёвыя і іншыя сувязі з суседнімі дзяржавамі. Падарожнік расказваў пра цёплыя прыязныя адносіны да яго з боку карэнных жыхароў Цянь-Шаня. Многія кіргізы выказвалі сваю гатоўнасць далучыцца да рускіх.

Слова, безумоўна, валодае велізарнай сілай, яно унікальны сродак перадачы гістарычнай памяці. Але ёсць многа такога, што не перадаецца словам. Нездарма чалавецтва вынайшла малюнак, які адыграў выключную ролю ў развіцці матэрыяльнай культуры народаў. Рэлігія забараняла кіргізам адлюстроўваць у малюнках акаляючую рэчаіснасць! Страшэнны ўрон нанесла дзікунская (не, не дзікунская, дзікуны пакінулі пасля сябе адлюстраванне тагачаснага жывёльнага свету на скалах), манкурцкая догма ісламу цэламу народу, пазбавіўшы яго сведчанняў жыцця і быту сваіх продкаў на працягу многіх стагоддзяў.

Першыя малюнкі аб побыце кіргізаў звязаны з імем рускага мастака Паўла Міхайлавіча Кашарава. Гэтак жа, як сусветная навука абавязана Сямёнаву-Цян-Шанскаму першым геаграфічным апісаннем невядомага тады Цянь-Шаня, так яна абавязана Кашараву першым грунтоўным этнаграфічным альбомам, у якім мастак адлюстроўвае помнікі кіргізскай культуры. Той, хто чытаў кнігу «Падарожжа ў Цянь-Шань», а яна выходзіла ў нас у 1949 годзе і была вельмі папулярнай сярод вясковых хлапчукоў майго пакалення, відаць, звяртаў увагу на незвычайныя ілюстрацыі, змешчаныя ў ёй. Асабіста мне з дзяцінства помняцца незвычайныя для маёй лясной Хоцімшчыны абрысы ледніќоў, горных праходаў, альпійскіх азёр, постаці вярблюдаў, нізкарослых кіргізскіх коней, жытло кіргізаў — юрты, прадметы іх адзення і ўбрання. Доўга разглядаў малюнак нейкай дзіўнай жывёліны, вельмі падобнай на нашу карову Зорку. Калі гэта карова, дык чаму тады яна пад сядлом? Аказваецца, бедныя-кіргізы сядлалі кароў і быкоў звычайнымі сёдламі. Багатыя лічылі ганьбай сесці на карову ці быка, у бедных жа гэта было звычайнай з'явай.

Карова пад сядлом! Славуты малюнак Кашарава я зноў убачыў у абласным цэнтры Ісык-Кульскай вобласці — горадзе Пржавальску. Мы зайшлі ў краязнаўчы музей. Нам расказалі, што горад названы ў гонар выдатнага рускага вучонага і падарожніка, а заснаваны ў 1869 годзе як ваенна-адміністрацыйны пункт Каракол. Да рэвалюцыі тут размяшчаліся толькі млын ды піваварны завод. Сёння Пржавальск буйны прамыслова-эканамічны і культурны цэнтр Ісык-Кульскай вобласці, у ім нямала прадпрыемстваў, навучальных устаноў.

Турыстаў нязменна прыцягвае помнік на магіле М. М. Пржавальскага. Вучоны памёр у гэтым горадзе ад тыфу, збіраючыся ў пятае падарожжа на Тыбет. Перад смерцю напісаў завяшчанне: «Пахавайце мяне абавязкова на Ісык-Кулі, на прыгожым беразе. У труну пакладзіце ў экспедыцыйнай форме. Надпіс зрабіце просты: «Падарожнік Пржавальскі».

Удзячныя сучаснікі выканалі апошнюю волю чалавека, чый вялікі і цяжкі шлях даследчыка роўны па даўжыні зямному экватару. Зямля кіргізская прыняла астанкі вучонага, які абессмяроціў сваё імя і подзвігі навукі рускай. Яго магіла з узведзеным у 1889 годзе манументальным помнікам побач з музеем.

Вечарам я прагульваўся ўздоўж возера. І трэба ж такому здарыцца! Спачатку здалося, што гэта нейкае насланнё. Я зажмурыў вочы, зноў адкрыў іх — не, ніякае не насланнё, а Коля Даронькін. Той самы Коля, з якім мы ўпотай, хаваючыся ад пільнага позірку настаўніцы, глыталі за апошняй партай кнігу пра падарожжы Пржавальскага. Што там нейкая геаметрыя, калі наш кумір ужо сустракаецца з нябачанай дзікай жывёлінай, якую пазней назавуць канём Пржавальскага. Мілыя, дарагія сэрцу малюнкі дзяцінства прамільгнулі перада мной, і ўсё праз хвіліну мы моцна сціскалі адзін аднаго ў сяброўскіх абдымках.

Ніякія спасылкі ў разлік не браліся. Коля зноў праявіў характар — ён заўсёды верхаводзіў у нашай дружбе, і праз колькі часу мы ўжо сядзелі ў яго вялікай кватэры. Усе — мілавідная, гасцінная жонка, замужнія дочкі, іх мужы з цікавасцю прыслухоўваліся да нашай размовы, радаваліся шчасліваму выпадку, што звёў нас у горадзе, названым у гонар чалавека, падарожжамі якога мы трызнілі на школьнай парце ў далёкія пяцідзесятыя гады сярод дрымучых бароў нашай роднай Хоцімшчыны. Мы не бачыліся амаль трыццаць гадоў!

Коля Даронькін падарожнікам не стаў. Але воляй лёсу ён апынуўся ў Пржавальску. Коля — іхтыёлаг, абараніў дысертацыю, займаецца праблемамі абагачэння рыбнай фауны Ісык-Куля. Ён абрушыў на госця лавіну ашаламляльнай інфармацыі. Ці ведае госць, што фарэль, завезеная ў Ісык-Куль з Севана, тут дасягае 20 кілаграмаў, а ў сябе на радзіме — не перавышае 3—4 кілаграмаў? Ці чуў калі-небудзь госць пра такую рыбу, як асман, чабак, марынка? Ці ўяўляе, што гадавы ўлоў рыбы складае 20 тысяч цэнтнераў? Што на Ісык-Кулі не ловяць амаль круглы год?

Карацей, я даведаўся, што рыбалоўствам на Ісык-Кулі займаліся і раней. Але на навуковую аснову развядзенне і паляпшэнне відавога саставу промысловых рыб пастаўлена параўнальна нядаўна. Задача складаная і далікатная, бо водная паверхня возера з залівамі аб'яўлена запаведнікам. Як я зразумеў, мой даўні сябар іграе ў станаўленні гэтай новай для рэспублікі галіны народнай гаспадаркі не апошнюю ролю. Коля родам з вёскі Кляноўка, яна цяпер заселена пераважна рускімі. Значыць, мой зямляк стаў адным з тых, хто ў новых гістарычных умовах шчодра дзеліцца сваім вопытам і ведамі з іншымі народамі, у даным выпадку мацуе эканоміку братняй Кіргізіі — састаўной часткі адзінага народнагаспадарчага комплексу краіны.

**Па просьбах чытачоў часопіса «Беларусь» наш спецыяльны карэспандэнт Валерый ЛАПІН сустрэўся з начальнікам Галоўнага аптэчнага ўпраўлення БССР Сяргеем Рыгоравічам ШАМРУКОМ і начальнікам Аптэчнага ўпраўлення горада Мінска Яраславам Мікалаевічам ШВЯЦОМ.**

**КАР.: — Першае пытанне — Сяргею Рыгоравічу. У рэдакцыю часопіса прыходзяць пісьмы, аўтары якіх сцвярджаюць: добрыя лякарствы сёння купіць... цяжка. Наколькі абгрунтаваны такія сцвярджэнні?**

**С. ШАМРУК:** — Прывяду такі факт: за апошнія 15 гадоў тавараабарот аптэк рэспублікі павялічыўся амаль у 2 разы. Калі, напрыклад, мы разгледзім продаж «дэфіцытных» антыбіётыкаў, то ўбачым, што сёння гэтымі лякарствамі карыстаецца кожны дзесяты жыхар Беларусі.

Калі гаварыць шчыра, рост продажу лекавых прэпаратаў непакоіць нас больш, чым дэфіцыт — а ён ёсць — на некаторыя (пераважна імпартныя) лякарствы. Бо ў кожнага «дэфіцыту» — заменнікі або аналагі. Падкрэслю цяпер: у апошнія 10—15 гадоў з'явіўся шэраг хвароб, якія мы называем лекавымі.

**КАР.: — У 12-м нумары часопіса «Беларусь» за мінулы год быў апублікаваны артыкул аб наркотыках і наркаманах. Дарэчы, супрацоўнікі крымінальнага вышуку Мінска гаварылі ў ім аб выпадках, калі наркаманы набывалі ампулы па фальшывых рэцэптах, калі яны кралі прэпараты з аптэк і паліклінік. Яраслаў Мікалаевіч, што робіцца ў сталіцы рэспублікі для папярэджання аналагічных злачынстваў?**

**Я. ШВЕЦ:** — Сапраўды, былі выпадкі ўзлому шафаў, дзе захоўваюцца наркотыкі. Нашы работнікі сустракаюцца і з фальшывымі рэцэптамі. Факты гэтыя непакояць сур'ёзна, і вось якія меры мы прынялі: папершае, сканцэнтравалі наркотыкі там, дзе існуюць надзейныя ўмовы іх захоўвання, па-другое, сёння ампулы асабіста хворым не выдаюцца, а атрымлівае іх медсястра, якая робіць уколы ў адпаведнасці з курсам лячэння. Больш таго, усе месцы, дзе захоўваюцца такога роду прэпараты, не проста замыкаюцца на ключ, а маюць, як кажуць работнікі міліцыі, некалькі рубяжоў аховы. У тым ліку і электронный.

Медыцынскія работнікі, якія маюць доступ да прэпаратаў, што ўтрымліваюць наркотыкі, трымаюць строгую справаздачу за кожную ін'екцыю. Каб атрымаць новую ампулу, ім неабходна здаць пустую. Гэта выключае магчымасць «сяброўскага» продажу лякарстваў наркаманам. Павінен сказаць цяпер, што яшчэ ніводнага выпадку крадзяжу наркотыкаў са складаў не было.

**КАР.: — За апошнія два гады п'яніц стала менш, а наркаманаў — больш. З наркаманіяй цяпер вядзецца не менш актыўная барацьба, чым з п'янствам і алкагалізмам. І калі гаварыць аб п'янстве, таксікаманіі, то менавіта да аптэкі яшчэ нядаўна каля васьмі гадзін раніцы спяшаліся людзі з апухлымі тварамі. А цяпер іх там не сустрэнеш. Чаму?**

**С. ШАМРУК:** — Пачну з расказу аб становішчы з медыцынскім спіртам. У некаторых выпадках спірт можа замяніць эфір. Але эфір — наркотык. Значыць, спірт прадаваць мы павінны. Аднак у нас ужо ёсць горкі вопыт. Каштуе ён даволі танна. І не сакрэт, што не заўсёды выкарыстоўваецца менавіта для кампрэсаў. Некалькі гадоў назад урачы мелі магчымасць з лёгкасцю выпісваць рэцэпты, па якіх можна было набываць «вадкасць без колеру, але з характэрным пахам». А некаторыя людзі яшчэ і фальсіфікавалі рэцэпты... Цяжка было работніку аптэкі праверыць арыгінальнасць такога дакумента, калі чалавек прыехаў у Мінск з раёна і сцвярджае, што доктар, маўляў, сам сказаў ехаць у сталіцу, бо ў раёне спірту няма. Рост продажу спірту быў імклівы.

**КАР.: — А як справы цяпер?**

**Я. ШВЕЦ:** — Вось у мяне свежыя даныя па горадзе Мінску. Толькі за 86-ты год продаж «вогненнай вады» скараціўся ў 2 разы. І яшчэ не было выпадку, каб хворы, якому спірт неабходны для кампрэсаў або банек, паскардзіўся на немагчымасць купіць яго.

**КАР.: — Некаторыя лекавыя прэпараты рыхтуюцца на спіртавой аснове. Іх вельмі ахвотна куплялі тыя, каму патрэбна было зусім не лякарства...**

**С. ШАМРУК:** — Вы ўжо пыталіся, чаму ў аптэках сёння не сустрэнеш пастаянных наведвальнікаў віннa-гарэлачных аддзелаў магазінаў. Ды таму, што мы ўзмацнілі кантроль за продажам лякарстваў на спіртавой аснове. Дарэчы, і прамысловасць цяпер навучылася рыхтаваць лякарствы без прымянення спірту. Напрыклад, раней свабодна прадавалася спіртавая настойка валяр'яну. Цяпер прамысловасць павялічыла выпуск таблетак — экстракту валяр'яну.

**КАР.: — Вялікую колькасць лякарстваў можна купіць без рэцэпта. Ці добра гэта?**

**С. ШАМРУК:** — Тут сказаць «не» або «так» цяжка... Больш як чатырыста назваў лякарстваў цяпер у свабодным продажы. І не ўсе людзі ўмеюць правільна выкарыстоўваць іх. Вельмі папулярны, напрыклад, цытрамон. Калі ў 70-х гадах яго куплялі ад выпадку да выпадку, то ў гэтыя дні прадаюцца дзесяткі тысяч таблетак за суткі. Прычым многія людзі — асабліва жанчыны — ужываюць цытрамон з дня ў дзень, з году ў год. Гэта шкодна. Прапісная ісціна, але яе варта паўтарыць: без парады ўрача трэба засцерагацца ўжываць любыя лякарствы.

**КАР.: — А вітаміны?**

**Я. ШВЕЦ:** — Тыя вітаміны, што прадаюцца ў аптэках, нельга параўноўваць з вітамінамі, якія ўтрымліваюцца, напрыклад, у моркве або яблыках. Таму што гэта ўсё-такі лякарства. Праілюструю думку прыкладам. Быў выпадак, калі двое грузчыкаў укралі дзве скрыні вітамінізаванага прэпарата на спіртавой аснове. Яны падумалі: спірт ды яшчэ і з вітамінамі! Праз два дні ў іх выпалі валасы на галаве. Ім давялося сур'ёзна лячыцца і выслухаць прыгавор народнага суда.

**КАР.: — Наколькі скрупулёзна трэба прытрымлівацца тэрмінаў прыёму лякарстваў?**

**С. ШАМРУК:** — Вось у народзе кажуць: «Дакладна, як у аптэцы». І такая дакладнасць неабходна не толькі нашым супрацоўнікам, урачам, але і — хворым. Таму што нават пеніцылін, а практычна ўсе антыбіётыкі, дый увогуле — лекі, пры няправільным іх ужыванні могуць замест папраўкі здароўя прывесці да яго разбурэння.

**КАР.: — Многія людзі скардзяцца на алергію, пабочныя эфекты ад цэлага рада прэпаратаў. Як вы, Сяргей Рыгоравіч, можаце пракаменціраваць гэты факт?**

**С. ШАМРУК:** — Не ведаю чалавека, які ўзяўся б прадказаць дзеянне асобных лякарстваў (з тых, што мы ўжываем сёння) на здароўе нашчадкаў. Вось чаму асабліва цяжарным жанчынам і маладым маці не трэба захапляцца таблеткамі і парашкамі.

**КАР.: — Але вы пакуль нічога не сказалі пра лекавыя травы. А менавіта ж ім сёння аддаюць перавагу ў вылечванні хвароб і пажылыя, і маладыя.**

**С. ШАМРУК:** — Бясспрэчна, некаторыя рэцэпты народнай медыцыны вельмі цікавыя і складаюць фундамент фітатэрапіі. Мы ведаем, што яшчэ ў XVII стагоддзі рускія воіны збіралі ў лазнях цвіль і лічылі яе лякарствам. Толькі некалькі дзесяткаў гадоў назад людзі навучыліся вырабляць і выкарыстоўваць пеніцылін, і ў апошнюю вайну ён выратаваў жыццё тысячам салдат...

Здаўна збіралі лекавыя расліны, але толькі сучасныя лякарствы дазволілі чалавецтву перамагчы шэраг цяжкіх хвароб, у тым ліку і воспу, туберкулёз.

**Я. ШВЕЦ:** — Хачу тут звярнуць вашу ўвагу: людзі выкарыстоўвалі лекавыя расліны таму, што не было ні таблетак, ні ампул, ні іншых лекавых прэпаратаў. Цяпер яны ёсць. І я,



Гэтыя здымкі фотакарэспандэнт Дзмітрый Лупач зрабіў у часе гутаркі спецыяльнага карэспандэнта часопіса з Яраславам Мікалаевічам Швяцом (здымак унізе) і Сяргеем Рыгоравічам Шамруком (здымак уверсе).

як спецыяліст, абавязаны сказаць: лепш мець прэпарат з раслін, чым самі травы, лісце, ягады. Дарэчы, нядаўняе рашэнне Мінскага гарвыканкома забараняе гандаль лекавымі травамі на рынках і ў іншых месцах горада. Мы віталі такое рашэнне і даўно яго чакалі.

**КАР.: — У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС быў забаронены збор лекавых траў на вялікай тэрыторыі Беларусі. Ці будзе пуста зімой — вясной гэтага года на прылаўках аптэк?**

**С. ШАМРУК:** — Не. Нам дапаможа РСФСР, іншыя рэспублікі. У Беларусі штогод збіраецца 180 тон лекавых траў у сухім выглядзе. Чыгуначныя эшалоны! А яшчэ ж мы атрымліваем гаючыя ўраджаі ў спецыялізаваных саўгасах. У 1986 годзе, вядома, збор траў «здароўя і бадзёрасці» быў зусім не рэкордны. Чаму — зразумела. Асартымент менавіта сухіх гаючых дароў палёў і лясоў у аптэках рэспублікі скараціўся. Затое стала больш гатовых прэпаратаў раслін. Карацей кажучы, вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС ніяк не адбіваюцца на магчымасцях лячэння насельніцтва БССР.

**Я. ШВЕЦ:** — Аднак мы добра ўсведамляем небяспеку з'яўлення «народных фітатэрапеўтаў» з паўднёвых рэспублік у нашых гарадах і вёсках. З'яўлення з адной мэтай: камерцыйная аперацыя. Калі нават гэтыя тавары на самай справе дабраякасныя (што бывае не дужа часта), усё роўна падобныя «лекары» не здольны даць кампетэнтную кансультацыю і могуць паставіць пад пагрозу здароўе чалавека.

**КАР.: — Ёсць у рэспубліцы аптэкі, якія спецыялізуюцца на продажы раслінных лякарстваў?**

**Я. ШВЕЦ:** — У Троіцкім прадмесці ў Мінску будуецца незвычайная аптэка — аптэка лекавых траў. Дарэчы, там людзі будуць атрымліваць інфармацыю: як больш беражліва і рацыянальна выкарыстоўваць лекавыя дары лясоў і лугоў.

**КАР.: — Калі будаўніцтва завершыцца?**

**Я. ШВЕЦ:** — Сёлета.

**КАР.: — Сёння прадаюцца тысячы лякарстваў. А колькі іх рыхтуецца па рэцэптах? Заўсёды хочацца верыць, што мікстуру вырабляе табе добры спецыяліст...**

**С. ШАМРУК:** — Аптэка ёсць аптэка. Дакладнасць, гарантыя, дзелавітасць, добрасумленнасць ва ўсім... Такія традыцыі. Добрыя традыцыі. Мы іх не забываем. Асабліва — пры прызначэнні спецыялістаў на іх пасады. Вось свежыя даныя па кадраваму саставу. Палавіна работнікаў сістэмы — з вышэйшай адукацыяй.

**КАР.: — А другая палавіна?**

**С. ШАМРУК:** — З сярэдняй, сярэдняй спецыяльнай.

**КАР.: — Дзесяткі чытачоў звяртаюцца ў рэдакцыю часопіса з пытаннем: ці будзе скарочаны імпарт лякарстваў?**

**С. ШАМРУК:** — Сёння больш як 25 працэнтаў лякарстваў — імпартныя. І даных аб скарачэнні паставак прэпаратаў з



сацыялістычных або капіталістычных краін у мяне няма.

**КАР.: — Даводзіцца чуць: чым, маўляў, дэфіцытней і даражэй каштуе лякарства, тым яно эфектыўней. Гэта — праўда?**

**С. ШАМРУК:** — Цана прэпарата складаецца на аснове затрачаных сродкаў на яго вытворчасць. Ёсць таблеткі вельмі танныя, аднак — яны нічым не горш за дарагія аналагі. Цяпер аб лекавым буме. Як ён з'яўляецца? Неасцярожная публікацыя ў прэсе — і ашаламляльны попыт на тое або іншае лякарства. Вось прыклад, толькі адзін: з мiсклеронам. Прэпарат — імпартны. Выпускаецца ў Венгрыі. Пакуль яго не хапала для ўсіх жадаючых набыць — столькі пра яго гаварылі! А цяпер мiсклерону дастаткова і на прылаўках аптэк, і на складах. Як толькі яго стала многа — цікавасць да прэпарата страцілася...

**КАР.: — Любых грошай не пашкадуе чалавек, каб вярнуць сабе здароўе. І з ахвотай верыць у цудадзейныя магчымасці дэфіцытных лякарстваў. Якая добрая аснова для спекуляцыі, непрацоўных даходаў! Кантроль і ўлік строгі?**

**С. ШАМРУК:** — Кантроль надзвычай строгі, ды і людзі працуюць сумленныя.

**КАР.: — І ўсё ж «надзвычайныя здарэнні» ёсць...**

**С. ШАМРУК:** — Здараюцца. Асабліва — у лячэбных установах. Прычына — у вялікай спакусе беспакарана ўкрасці. Трымаць справаздачу за «зрасходаваныя» ампулы і таблеткі там сёння няцяжка. А некаторыя каштуюць 10—12 рублёў... Некалькі штук іх у кішэні — «капітал» большы за зарплату.

**КАР.: — Бывае так: урач выпісвае рэцэпт, а хворы не можа набыць такі прэпарат у аптэцы...**

**С. ШАМРУК:** — Цяпер 50 працэнтаў лякарстваў з тых, што могуць аказацца ў дэфіцыце, атрымліваюць аптэкі, якія прымацаваны да палiклiнiк. І ўрачы ведаюць — іх рэцэпт атавараны будзе. Дарэчы, самыя дэфіцытныя лякарствы мы адпраўляем у стацыянары.

**КАР.: — Любое лякарства — аднекуль пастаўляецца. Што вы, Яраслаў Мікалаевіч, можаце сказаць пра дысцыпліну такіх паставак на сённяшні дзень?**

**Я. ШВЕЦ:** — Шмат праблем з планаваннем тавараабароту, стабільнасцю паставак.

**КАР.: — Чаму?**

**Я. ШВЕЦ:** — Вось вам «карцінка»: у снежні атрымліваем вялізную колькасць прэпарата «N». І ў студзені — таксама. Чацвёрты квартал і першы квартал... За некалькі дзён назапашваецца на складах двухгадовы запас такога прэпарата. А ён жа мае тэрмін прыгоднасці!

**С. ШАМРУК:** — Але гэта яшчэ — не вялікая бяда. Калі параўноўваць з ёй наогул усю сістэму планавання нашага тавараабароту. Я ўжо сказаў, якую колькасць лякарстваў мы прадаём сёння. Занадта вялікую. Нярэдкі вынік гэтага — лекавыя хваробы... Дык навошта нам імкнуцца да росту тавараабароту? Атрымліваецца парадокс: лютуе эпідэмія — нам трэба радавацца.

**Я. ШВЕЦ:** — І яшчэ пра адзін парадокс. Ідзе працэс аздараўлення нацыі. Спорт, добрае харчаванне, барацьба з п'янствам... Лагічна спадзявацца, што хворых будзе менш. Навошта тады планаваць павелічэнне продажу таблетак? Пераканан: настаў час змяніць становішча з планаваннем тавараабароту ў аптэках.

**С. ШАМРУК:** — У 1940 годзе ў Беларусі было 638 аптэк. Цяпер іх 1.186. І 15 тысяч работнікаў сістэмы. Амаль удвая больш. А насельніцтва, як вядома, не падвоілася. Карацей кажучы, аптэк шмат і актыўна будаваць новыя няма патрэбы. А трэба будаваць склады. Таму што аптэкі сёння— красавацца хочацца, а склады — плакаць. Мы вымушаны размяркоўваць запасы лякарстваў. Але размеркаванымі запасамі цяжка хутка карыстацца... Становішча са складамі непакоіць нас.

**Я. ШВЕЦ:** — І ўсё-такі адкрыццё ў гэтым годзе адной аптэкі стане значнай падзеяй. У Троіцкім прадмесці — я ўжо гаварыў — адкрыецца аптэка лекавых траў. Мяркуем, пры ёй будзе створаны музей аптэкарскай справы.

# ЛЕКАВЫЯ ХВАРОБЫ

# „ВЕРАСЫ" ЎЧО

## ГУТАРКА З ВАСІЛЁМ РАІНЧЫ

У канцы мінулай восені яму прыйшоў пакет з Токіо. Знакамітая фірма «Сіндзідайся», чыя электронная апаратура сёння з'яўляецца абавязковым атрыбутам любога вядомага ансамбля, прыслала ў Мінск дыплом № 1, які сведчыў, што ўладальнік яго дастойна вытрымаў цяжкі экзамен выканаўцы на сінтэзатарах «Ямаха», якія выпускае фірма. Факт, увогуле, сам па сабе, магчыма, і не такі ўжо красамоўны. Але калі дадаць, што ў гэтым своеасаблівым творчым спаборніцтве, арганізаваным «Сіндзідайся», удзельнічалі найбольш вядомыя нашы выканаўцы, то стане ясна, што пакет з Японіі прынёс Васілю Раінчыку нямала прыемных хвілін і ўспамінаў. Дый не толькі яму. Бо дыплома № 2 удастоіўся Раінчык-малодшы, Сяргей, які нягледзячы на школьны ўзрост зрабіў на патрабавальнае журы вялікае ўражанне віртуозным выкананнем урыўка з «Маленькага прынца» Яўгена Глебава.

Памятаю, як некалькі гадоў назад сольнае выступленне Раінчыка на адным з канцэртаў «Верасоў» у невялікай утульнай зале нашай філармоніі стала сенсацыяй. Ён паказаў тады ўражанай аўдыторыі вялікія магчымасці музыканта, які валодае сінтэзатарам. У адных выступленне выклікала захапленне, другія палічылі гэтае сола нечым выпадковым, наўрад ці дастойным выканаўцы, успрыняўшы калейдаскоп гукаў і тэмбраў як «цыркавы атракцыён».

Што ж, новае заўсёды ўспрымаецца неадназначна.

Мінулі гады, і буйнейшыя канцэртныя пляцоўкі краіны самааддана апладзіравалі віртуозам электроннай музыкі з «Верасоў». Але менавіта тады, на канцэрце ў філармоніі, мне вельмі хацелася спытаць у Васіля Раінчыка: ці не бачыць ён супярэчнасці ў тым, што ансамбль спявае вернасць лірычнай песні з яе выразна выяўленымі фальклорнымі каранямі і адначасова «ўзбройваецца» сінтэзатарамі? Праўда, пытанне гэтае так і не было зададзена, і хутчэй за ўсё таму, што на сцэне яны былі вельмі арганічныя: пяшчотныя меладычныя песні і сучасныя рытмы.

Але вось пакет з Токіо нагадаў мне пра той выпадак, і ўзнікла жаданне, як кажуць, расставіць кропкі над «і». З гэтага некалі не зададзенага пытання і пачалася наша гутарка з Васілём Раінчыкам.

— Вядома, не сінтэзатары садзейнічалі нашай папулярнасці,— выслухаўшы мяне, сказаў кіраўнік ансамбля.— Мне здаецца, што «Верасы» выбралі правільны накірунак у сваёй творчасці, калі ўключылі ў свой рэпертуар песні беларускіх кампазітараў, музычна асэнсаваныя ў нашым калектыве, сугучныя таму, што нам хацелася б сказаць сваім слухачам. Было гэта надзвычай складана хоць бы таму, што ў апошнія дзесяцігоддзе своеасаблівай візітнай карткай эстрады Беларусі з'яўляліся «Песняры», і нам для таго, каб не аказацца эпігонамі, давялося пачынаць практычна з нуля. Так і хочацца сказаць: наша развіццё ішло цыклічна. Найбольшую вядомасць у саюзнага слухача ансамбль набыў пасля таго, як з тэлеэкранаў прагучалі песні Эдуарда Ханка «Малінаўка» і «Я ў бабулі жыву». Разам з поспехам, аднак, гэтыя «баевікі» прынеслі і пэўную творчую праблему. Многім слухачам і нават артыстам ансамбля падалося, што «Малінаўка» стала планкай, якая характарызуе максімальную вышыню нашага ўзлёту. Я знарок спыняюся на гэтым эпізодзе з нашага жыцця, таму што падобная дылема паўстае перад многімі эстраднымі калектывамі, якія дасягаюць папулярнасці. Можна ж спакойна і шчасліва на працягу многіх гадоў «катаць» нашумелыя песні (а гастрольныя маршруты ў нашай краіне неаглядныя!), але гэта немінуча вядзе да дэградацыі. Ёсць іншы шлях: адкласці ўбок партытуру ўдалых, але «амартызаваных» песень і паспрабаваць зрабіць крок наперад, знайсці іншыя, больш сучасныя мелодыі, рытмы і вершы. Аднак сказаць лёгка, паспрабуй зрабіць. Публіка часам не жадае адмовіцца ад задавальнення паслухаць любімы «шлягер» і даволі скептычна ставіцца да новых песень. Нам для таго, каб цёпла і з некаторай журботай развітацца з «Малінаўкай» і перайсці да цыкла, напісанага на вершы Уладзіміра Някляева, спатрэбіліся нялёгкія выпрашэнні. Цяпер, вядома, калі ўсё засталося ў мінулым і мы можам не турбавацца наконт пустых месц у глядзельнай зале, хочацца падзякаваць усім «Верасам» за цвёрдасць духу і аптымізм. А тады...

Хоць аб праблемах, па-мойму, нам ніколі не давядзецца гаварыць у мінулым часе. Іх нямала і сёння. Вось ты пытаешся наконт магчымасці мірнага суіснавання лірычных песень і электроннага камп'ютэра, які прысутнічае на нашых канцэртах. Па-мойму, ніякага «рознагалосся» тут няма, хоць пытанне, вядома, не простае. Уся справа ў тым, якую музыку іграць. Думаю, што можна і на балалайцы дрынкаць пошлую мелодыю, а можна і сінтэзатарам закрануць самыя пяшчотныя струны душы. Шчыра кажучы, мяне часам здзіўляюць дыскусіі, якія ўзнікаюць вакол музычных накірункаў і захапленняў у маладзёжнай модзе. Дзіўна, але ў некаторай часткі музычных крытыкаў першая рэакцыя на незразумелую ім музычную інфармацыю бывае адназначнай: «не разумею!», «шкодна!», «не прапускаць!». Затым «пазіцыя» змякчаецца, а потым і зусім... знікае. Была, уявi сабе, «пазіцыя», і няма яе. Гэтак здараецца, і нярэдка. На змену моцным пачуццям прыходзіць поўная абыякавасць да праблемы, якая бурна абмяркоўвалася, і настае перыяд напружанага чакання чарговай прычыны для напісання «зубаскрышальнага» артыкула. І гэта адбываецца ў стане музычных крытыкаў, тых, хто, здавалася б, павінен цярпліва, разумна і кампетэнтна падысці да асэнсавання любой хоць крыху значнай з'явы ў музычным жыцці. Асаблівa ў такой яе далікатнай сферы, як маладзёжная музыка. Але прыходзіць у дзеянне стэрэатып, прачынаецца так званы «сіндром Белікава» — каб чаго не атрымалася.

А што ж сама моладзь?

Яна паводзіць сябе адпаведна ўзросту. Не звяртае ўвагі на малазразумелыя вокрыкі, патаемна цікавіцца навінкамі і нават усяляк бравіруе сваёй незалежнасцю. Успамінаю эпапею дыскатэк, да якіх спачатку ставіліся як да параджэння пекла. Слоўная анафема, аднак, павісла ў паветры, моладзь арганізоўвала стыхійныя дыскатэкі, і тады, нарэшце, яны атрымалі правы грамадзянства. Былыя танцверанды, бы па ўзмаху чароўнай палачкі, ператварыліся ў дыскатэкі, якія не надта шмат радасці прынеслі арганізатарам. Цяпер з'явіліся новыя захапленні, напрыклад, фільмы і канцэртныя праграмы на відэакасетах, і, як вынік,— дыскатэкі сталі пуставаць. А як цяпер развіваюцца падзеі, звязаныя з так званым «металічным рокам»?! Слоў няма, гэта даволі складанае для асэнсавання адгалінаванне рок-музыкі, агрэсіўнае, з хвалюючымі рытмамі. На Захадзе «цяжкі метал» гранічна правых груп, здараецца, натхняе маладзёжныя банды на вандалізм. Але зноў паўтару: важна, як іграць і што іграць. Зрэшты, сама музыка тут ні пры чым. Я асабіста ведаю многіх прыхільнікаў «цяжкога рока» — гэта, уявіце, мілыя сур'ёзныя людзі, якія валодаюць шырокай музычнай эрудыцыяй. Ведаю і некаторых прыхільнікаў класічнай музыкі, якім ніколі не падам рукі. Так што не трэба перабольшваць ролю музычных захапленняў. Праваднікі нацызму, кажуць, заміламвана плакалі, слухаючы Вагнера і Баха, а потым ішлі на службу, дзе падпісвалі дэкрэты генацыду. Кажу гэта таму, што са здзіўленнем прачытаў артыкул аднаго журналіста, дзе з лёгкасцю незвычайнай мінскім школьнікам і «пэтэвушнікам», бязвусым юнакам прыпісваюцца наступныя грахі: паколькі яны любяць цяжкі рок, які заахвочваецца ваенна-прамысловым комплексам ЗША, то яны, значыць, самі не далёка пайшлі і г. д. і да т. п. Вось ужо — з гармат па вераб'ях. Замест таго, каб сур'ёзна, кампетэнтна паразважаць пра вартасці і недахопы «цяжкога рока», хлопцам і дзяўчатам наклейваюць дзікунскія ярлыкі. А многім жа з гэтых юнакоў праз пару гадоў ісці ў армію, абараняць нас.

Пытанне гэта не прыватнае.

Чаму пэўная частка моладзі захаплялася «металам»? Часцей за ўсё таму, што для іх гэта — магчымасць хоць чым-небудзь вылучыцца сярод равеснікаў, у рэшце рэшт, жаданне стварыць кампанію з гэткіх жа аматараў, своеасаблівы клуб па інтарэсах. Паглядзіце на сцены грамадскіх будынкаў — яны спісаны сімваламі папулярных рок-груп. Што гэта, як не жаданне падлеткаў яршыста сказаць пра сябе, заявіць пра сваё існаванне. Але вось нядаўна, у часе гастроляў у Рызе, мне раптам прыйшло ў галаву, што ні на адной сцяне я не ўбачыў славутых эмблем «металістаў». Рыжскія музыканты растлумачылі, што ў горадзе адчынена некалькі рок-клубаў, дзе юныя меламаны ў спакойнай абстаноўцы знаёмяцца з запісамі савецкіх і замежных груп, з захапленнем слухаюць кампетэнтных музычных крытыкаў. І справа, здаецца, вядома. Але не гэтак, як у Мінску, калі сцяна на сцяну сышліся «металісты» і «хвалісты», г. зн. аматары «новай хвалі» ў рок-музыцы. Гэта ўжо гульні небяспечныя. Але чамусьці не спяшаюцца ў Мінску і іншых гарадах рэспублікі адчыняць рок-клубы. Камсамол чакае, якія захады зробяць органы культуры, а тыя, відаць, спадзяюцца на камсамол. У выніку — квітнее стыхійнасць, дурная мода на рамяні з заклёпкамі і экстравагантныя прычоскі. Канечне, як і кожная мода, пройдзе і гэта. Але забаронай яе не спыніць — можна толькі падбухторыць. Што ж даты-

# РА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

## КАМ ПРА МУЗЫКУ І НЕ ТОЛЬКІ ПРА ЯЕ

чыць рок-клубаў, то іх напэўна адчыняць, калі неабходнасць у іх адпадзе. Безумоўна, немалая доля віны тут і наша. Мы ў Саюзе кампазітараў часта абмяркоўваем «сацыяльныя заказы», але многія мае калегі хутчэй напішуць штосьці буйнамаштабнае, кантату ці яшчэ што-небудзь «вечнае», чым «апусціцца» да маладзёжнай музыкі.

Я падаю Васілю Раінчыку стос рознакаляровых канвертаў, якія прыйшлі ў рэдакцыю. У іх пісьмы з пытаннямі і просьбамі расказаць пра сённяшні дзень «Верасоў», пра іх планы. У некаторых пісьмах ёсць трывожныя пытанні: «Кажуць, што «Верасы» распаліся. Іх даўно не відаць на тэлеэкране...»

— Як бачыце, не распаліся,— гаворыць Раінчык.— Што датычыць





сённяшняга дня, то мне хочацца сказаць нашым прыхільнікам: ён — не звычайны ў творчым лёсе «Верасоў». У самым бліжэйшым будучым сярод знаёмых імён у ансамблі з'явяцца і новыя. Гэта маладыя, але, на мой погляд, па-сапраўднаму таленавітыя музыканты. У чым я бачу прынцыповую неабходнасць іх з'яўлення ў «Верасах»? Справа ў тым, што іх новае музычнае мысленне дазволіць нам гаварыць з маладымі слухачамі на больш зразумелай і блізкай ім мове, зробіць зварот «Верасоў» да маладых не дэкларатыўным, а натуральным і арганічным. Маладыя спяваюць для маладых — па-мойму, гэта цудоўна. Кажучы пра новых выканаўцаў, я маю на ўвазе перш за ўсё Юлію Скараход, семнаццацігадовую салістку, якая валодае ўсімі якасцямі для поспеху на эстрадзе. Ёсць і другі бок пытання. Хто, як не «Песняры» і «Верасы», павінен думаць пра заўтрашні дзень беларускай эстрады і рыхтаваць будучыя яе зоркі? Хочацца спадзявацца, што ў працэсе сумеснай работы з намі сённяшнія навічкі «Верасоў» хутка гучна заявяць аб сабе. Кажучы пра характэрнае для нашага сённяшняга дня, я адзначыў бы і засяроджаную работу над будучай канцэртнай праграмай. Дзякуй песням «Карнавал», «Караван», «Ля возера». Але нас чакаюць іншыя. Бо песня — гэта само жыццё, а жыццё не стаіць на месцы. Мы шмат працуем з Ігарам Лучанком, Валерыем Івановым, Уладзімірам Буднікам. Добры плён абяцае творчая садружнасць з нашымі беларускімі паэтамі. Вось вершы маладога Дранько-Майсюка, паэта цікавага, шматмернага, які ўмее сцісла і экспрэсіўна сказаць пра многае. Сёння ў «Верасоў» з'явілася натуральная патрэба ў песнях, якія будуць гучаць на беларускай мове. У гэтым нас яшчэ раз пераканалі канцэрты ў Славеніі, дзе мы былі ў складзе дэлегацыі рэспублікі на Днях беларускай культуры. Слухачы вельмі цёпла прымалі нашу меладычную і зразумелую мову, здольную маляўніча расказваць пра самыя тонкія чалавечыя пачуцці. Але не буду сцвярджаць, што супрацоўніцтва з паэтамі ў «Верасоў» бязвоблачнае. Надта шмат тэкстаў, што нам прапаноўваюць,— малацікавыя, чытаеш і не разумееш, калі яны напісаны: ці то ў наш бурны і трагічны дваццаты век, ці то ў ідэалізаваным сярэднявеччы. Затое познаёміўся з Рыгорам Барадуліным, і яго вершы адразу ж загучалі ў песні.

Як заўсёды, плённа працуем з Генадзем Бураўкіным, пра гэта можа расказаць і рэгулярная штодзённая «Калыханка» па тэлебачанні. Шмат піша для нас Уладзімір Някляеў. Без яго цяжка ўявіць «Верасы» апошніх гадоў. Мой расказ пра сённяшні дзень будзе няпоўны, калі не нагадаю пра замежныя гастролі. Нядаўна вярнуліся з Венгрыі. Водгукі ў друку добрыя. На фірме «Мелодыя» ідзе запіс новага дыска-гіганта. Запісаліся мы і на Цэнтральным тэлебачанні.

Што датычыць размоў пра тое, што «Верасы», маўляў, распаліся, то яны, відаць, былі выкліканы тым, што з ансамбля пайшоў Аляксандр Ціхановіч. Каб не быць шматслоўным, скажу: славы дастойныя толькі тыя, хто можа з ёй справіцца. І дадам: выпрабаванні меднымі трубамі часам самыя цяжкія.

Што ж датычыць нашых планаў, то яны выцякаюць з сутнасці нашай работы. Мы рыхтуем новую канцэртную праграму. Гэтым сказана ўсё. Пра тое, што ў нас атрымаецца, меркаваць вам, слухачам.

Павел ЯКУБОВІЧ.
Фота Георгія ЧЫГІРА і Уладзіміра ШУБЫ.



Аўтограф пасля песні. Да прыгожага голасу у Ядвігі Паплаўскай яшчэ і шчодрая рука.

Урывак з «Маленькага прынца» Раінчык-малодшы развучваў разам з бацькам.

Першы клопат «Верасоў» — наблізіць да гледача сваю «новую хвалю». На пярэднім плане — папаўненне ансамбля: салісткі Юлія Скараход і Ірына Цвяткова.

# „КРОТ" АПЕРАЦЫЯ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Юрый ІВАНОЎ,
Іван МАЙДАНАЎ

### *Смаленск, сярэдзіна снежня 1920 года.*

Мінула каля двух месяцаў з таго дня, калі Аперпут сустракаўся з Мацвеевым. Выконваючы атрыманае заданне, ён паспеў ужо нямала зрабіць. Работа па стварэнню ў Смаленску контррэвалюцыйнай арганізацыі была практычна завершана. Асноўнае, кіруючае звяно яе Аперпут стварыў. Засталося папоўніць арганізацыю новымі членамі. Але і гэтая справа была няпростай. Калі раней яшчэ ўдавалася прыцягнуць да работы і прытрымліваць ля сябе сродкамі шантажу і пагроз асоб, якія заблыталіся ў падзеях першых гадоў рэвалюцыі і амаль выпадкова трапілі ў арганізацыю, то цяпер, калі людзі разабраліся, што да чаго, галоўным асяроддзем, з якога можна было чэрпаць чалавечы матэрыял, сталі закаранелыя антысавецчыкі і звычайныя крымінальнікі, абсалютна абыякавыя да таго, хто будзе трымаць уладу ў краіне.

Некалькі дзён назад Аперпут вярнуўся з службовай камандзіроўкі. У складзе інспекцыйнай камісіі штаба Заходняга фронту ён аб'ехаў раёны Гомеля і Магілёва, наведаў многія воінскія часці і падраздзяленні. Карыстаючыся сваім службовым становішчам — пасадай памочніка начальніка штаба войск УАХР Заходняга фронту, Аперпут ажыццявіў некалькі паспяховых аперацый па прыцягненню ў арганізацыю новых людзей. І таму сваю паездку расцэньваў як надзвычай удалую.

Вярнуўшыся ў Смаленск, Аперпут вырашыў сабраць некаторых членаў сваёй арганізацыі на нараду, каб намеціць план, а дакладней, асноўны накірунак далейшай работы. Сустрэчу ён прызначыў на кватэры Ірыны Шчарбатавай. Самыя надзейныя і правераныя людзі былі запрошаны сюды — Шчарбатава, Маісееў і Бржазоўскі.

Маісееў, гэтак жа, як Бржазоўскі і Аперпут, быў ваеннаслужачым камсаставу войск УАХР Заходняга фронту, з'яўляўся інструктарам вартаўнічай роты па ахове складаў. У мінулым — афіцэр царскай арміі. Калі для Бржазоўскага і Аперпута смаленская арганізацыя была першай школай контррэвалюцыйнай барацьбы, то для Маісеева яна з'явілася новым этапам яго антысавецкай дзейнасці. Першымі звычкамі падпольнай работы ён авалодаў, калі быў членам афіцэрскай манархічнай арганізацыі, што існавала раней на тэрыторыі цэнтральнай Расіі. Да таго дня, як чэкісты разграмілі яе, Маісееву нават удалося сёе-тое зрабіць. Так, летам 1920 года ён — адзін з арганізатараў узрыву Вяземскіх вогнескладаў, а крыху пазней — крушэння і пажару харчовага транспарту для фронту на станцыі Смаленск. Аперпут гэта добра ведаў і менавіта таму вылучыў Маісеева ў вярхі сваёй арганізацыі.

Што датычыць Бржазоўскага, дык ён гэткага адметнага паслужнога спіса не меў, але па сваім унутраным складзе быў з тых зласлівых, закамплексаваных на ўласных няўдачах людзей, якія гатовы вінаваціць у сваёй неўладкаванасці ўвесь белы свет, у тым ліку, вядома, і ўлады,— толькі не саміх сябе. Намацаўшы гэтую слабінку ў характары Бржазоўскага, Аперпут без асаблівых цяжкасцей, хоць і не без пэўнай спрытнасці, выклікаў і замацаваў у яго цяпер ужо фанатычную нянавісць да новага ладу. Аперпут быў упэўнены ў навабранцы, як у самім сабе, што пацвярджалася і актыўнай, апантанай дзейнасцю Бржазоўскага па выкананні самых разнастайных даручэнняў падпольнага кіраўніцтва.

Аперпут, як заўсёды, быў дакладны, з'явіўся ў Шчарбатавай у вызначаны час. З кожным парукаўся асабіста, пацікавіўся здароўем, справамі. Потым звярнуўся да ўсіх разам:

— Рады бачыць вас жывымі і здаровымі, панове! — у інтанацыі Аперпута выразна чуліся ноткі высокапастаўленай асобы.— Цяпер дакладвайце, ці ўсё добра?

Першым пачаў Маісееў, які ў час адсутнасці Аперпута выконваў яго абавязкі.

— Справы рухаюцца нармальна, Эдуард Отавіч. Падстаў для трывогі няма. Мы з нецярпеннем чакалі вышага вяртання...

— Засумавалі, бач...— пажартаваў Аперпут і ўсміхнуўся.— Але, хопіць! Пра нашы душэўныя справы наступным разам пагамонім. А цяпер — пра галоўнае. Значыцца, так... Камандзіроўка, з якой я толькі што вярнуўся, была плённай. Па-першае, я яшчэ раз змог паназіраць за станам чырвоных часцей непасрэдна на месцах, і сёе-тое новае адкрыў. Неадкладна далажу вышэй, а пры выпадку — і вам. Па-другое, мне ўдалося прыцягнуць да нашай работы новых, вельмі перспектыўных асоб. Так што, геаграфія арганізацыі пашыраецца. Мяркую, гэта не так ужо і дрэнна? Га?..

— К-к-канечне...— цяжка вымавіў Бржазоўскі, які звычайна ўступаў у афіцыйную гаворку толькі пад прымусам, саромеючыся свайго заікання.— Гэта нам н-н-надзвычай неабходна.

— Абсалютна згодзен,— упэўнена далучыўся да сказанага Маісееў.

Аперпут запытальна зірнуў на Шчарбатаву, чакаючы, відаць, і яе слова, але Ірына толькі моўчкі кіўнула ў знак згоды галавой.

— Я рады, сябры, што вы ўхвалілі мае сціплыя намаганні,— схіліў галаву Аперпут.— Дзякуй вам. Цяпер хацеў бы спыніцца на больш канкрэтных выніках паездкі.— Ён устаў з-за стала, прайшоўся па пакоі.— Што датычыць прыцягнутых да нашай справы навічкоў... Гэта...— Аперпут сурова звёў бровы, як бы падкрэсліваючы кампаньёнам, што ён давярае ім вялікую тайну.— Гэта павятовы ваенрук з Клінцоў Клімовіч, супрацоўнік міліцыі Шчэрба, камандзір 145-га батальёна УАХР Харкоў, начальнік забеспячэння ваенкамата Масанін — усе з Гомеля, а таксама Агееў і Мазурык з Магілёва. Як бачыце, людзі патрэбныя... Усе яны — былыя афіцэры, вельмі блізкія, да таго ж, нам па духу.

— Так, с-с-сіла! — не ўтрымаўся Бржазоўскі.

— Як жа табе пашчасціла іх завербаваць? — са шчырай цікавасцю спыталася Шчарбатава.

Аперпут прыжмурыў вочы, усміхнуўся.

— Як? Вельмі проста. У гутарках, зусім бяскрыўдным абмене думкамі мне ўдалося выявіць іх незадаволенасць бальшавізмам, сум па былым. Гэткую, ведаеце, шчымлівую настальгію. Ну... Вось і ўвесь сакрэт... Цяпер давайце пра надзённыя задачы. Мне здаецца, настаў час пераходзіць ад слоў да справы. Наша арганізацыя даволі моцная і шматлікая, і мы проста не маем права сядзець склаўшы рукі. Якія будуць прапановы па нашай далейшай дзейнасці? Прашу выказвацца.

Некаторы час у пакоі панавала цішыня. Першым яе парушыў Бржазоўскі, які быў сёння як ніколі актыўны:

— Ёсць прап-ппанова п-п-паспрабаваць рас-п-п-паўсюджваць лістоўкі.

— Бяром ідэю на заўвагу,— канстатаваў Аперпут.— А што скажуць астатнія?

— Бржазоўскі прапануе надзвычай лаяльны метад барацьбы! — азваўся Маісееў, ды так рашуча, што было відаць: ён прыдумаў нешта больш істотнае і жорсткае.— Бальшавікоў трэба біць бязлітасна. Напрыклад, наладзіць шэраг падпалаў у грамадскіх месцах, ці нават узрываў у іх канторах і ўстановах. Словам, патрэбны дыверсіі.

Аперпут матнуў галавой, усміхнуўся:

— А вы, аднак, максіміліст. Усё ці нічога!..

— Барацьба вымагае бескампраміснасці.

— Згодзен. Але ў такіх выпадках варта, як кажуць, сем разоў адмераць. Трэба параіцца...

— З кім?

— З тымі, каму мы падпарадкаваны.

Маісееў адкінуўся на спінку крэсла і развёў рукамі. Выгляд у яго быў надзвычай узрушаны. Твар пачырванеў, жаўлакі нервова напружыліся.

— Няўжо мы самі не ў стане вырашыць гэтае пытанне? Хто мы ўрэшце такія? Сляпыя каця-



Працяг. Пачатак у №№ 11, 12 за 1986 г.

няты? Дзеці? Мы ж сур'ёзная арганізацыя і рашэнні павінны прымаць самастойна. А інакш уся наша дзейнасць — гэта мышыная мітусня. У праграме арганізацыі мы самі запісалі: «Змагацца супраць бальшавізму ўсімі даступнымі сродкамі».— Маісееў напружана-запытальна пазіраў на Аперпута.

— Супакойцеся,— лагодна прамовіў той.— Я абдумаю вашу прапанову ў бліжэйшыя дні, і мы прымем рашэнне... Якія яшчэ ёсць думкі?.. Пакуль, бачу, няма. Тады будзем лічыць, што гаворка скончана...

Хаця больш-менш глыбокага абмену думкамі не адбылося, Аперпут усё роўна быў задаволены сустрэчай. Як-ніяк, а работа арганізацыі пачала набываць канкрэтныя формы і пэўную мэтанакіраванасць. З'явілася адчуванне ўласнай сілы і значнасці, а гэта, у сваю чаргу, абяцала новыя поспехі, у якія ён верыў усё больш і больш...

## *Смаленск, канец снежня 1920 года.*

Мацвееў даў аб сабе знаць толькі на зыходзе года, калі Аперпут ужо і не спадзяваўся пабачыцца з ім: вельмі многа часу прайшло з дня іх першай сустрэчы, і мала што, думаў Эдуард Отавіч, магло за столькі месяцаў здарыцца...

І вось аднойчы ў сярэдзіне дня, калі Аперпут збіраўся на абед, цішыню яго кабінета парушыў тэлефонны званок, які ў гэтыя часіны, як правіла, маўчаў.

— Аперпут слухае...

— Добры дзень,— глуха прагучала ў трубцы.

— Добры дзень,— насцярожана адказаў Аперпут, яшчэ не ўцяміўшы як след, каму належаць знаёмыя ноткі пачутага ім голасу.

— Мацвееў гаворыць. Пазналі?

— Ну як жа! Канечне...

Аперпут не ведаў, радавацца яму цяпер ці не. Апошнім часам ён рэдка ўспамінаў Мацвеева, і гэта зусім не пазбаўляла яго спакою і ўпэўненасці ў сабе. Выявілася, што не так ужо і дрэнна быць самому сабе начальнікам. Але, з другога боку, Мацвееў трымаў сувязь з цэнтрам і распараджаўся грашамі, без якіх цяжка было пашыраць і паглыбляць падпольную дзейнасць.

— Чаго вы маўчыце? — занепакоіўся Мацвееў.— Ало! Ало!

— Я вельмі ўважліва слухаю вас,— паспяшаўся адгукнуцца Аперпут.

— Запрашаю вас сёння да сябе ў госці. Прыйдзеце?

— А куды?

— Да мяне.— Мацвееў вымавіў гэта патрабавальна.— Туды, дзе мы аднойчы сустракаліся. У сем вечара.

Барак Аперпут знайшоў адразу. Мацвееў быў ужо тут. Выглядаў ён не так бадзёра, як некалькі месяцаў назад. Прыкметна пастарэў.

Павіталіся моцным поціскам рук.

— Расказвайце, як жыццё, як справы...— гэтыя неабавязковыя словы, абыякава сказаныя Мацвеевым, не на жарт засмуцілі Аперпута.

— Шчыра кажучы, я думаў, што больш мы не ўбачымся,— асцярожна пачаў ён.— А жыву нармальна. Справы таксама ідуць сваім ходам. Часу, якога, дарэчы, прайшло нямала, не марную.



— Ваша праўда,— задумліва прамовіў Мацвееў.— Часу працякло нямала... Хочаце выпіць? У мяне з сабой каньяк. Ну? За сустрэчу!

— Хіба што па кроплі. За кампанію,— сумна адгукнуўся Аперпут.

Мацвееў падаў яму напалову пустую пляскатую пляшку.

— Піце, не саромейцеся,— сказаў ён.

Аперпут адпіў невялікі глыток, матнуў галавой:

— Моцны, чорт!..

— Ядраны,— пагадзіўся Мацвееў і залпам выпіў усё, што заставалася ў пляшцы. Перавёў дух, зноў загаварыў: — Вось і адзначылі сустрэчу. Цяпер самы раз пагаманіць. Пра жыццё-быццё... Пра нашы справы. Пра зробленае і нязробленае... Давайце, Эдуард Отавіч, ваша слова.

Мацвееў стараўся гаварыць лёгка і свабодна, але ў яго́ных інтанацыях усё роўна чуліся стрыманасць і трывога.

Аперпут пачаў свой няспешны, падрабязны расказ. Мацвееў слухаў яго ўважліва, часам тое-сёе ўдакладняў, не пакідаючы нявысветленымі нават дробныя на першы погляд дэталі.

Прыемна ўражаны цікавасцю, з якой слухаў яго шэф, Аперпут выкладваў усё новыя і новыя факты: і як залучыў у арганізацыю Маісеева і Бржазоўскага, і як князь Друцкі-Сакалінскі, ваеннаслужачы штаба войск УАХР Заходняга фронту, узначаліў па яго, Аперпута, даручэнню контррэвалюцыйную ячэйку ў штабе, і як сярод удзельнікаў арганізацыі апынуўся смаленскі архірэй Філіп — пра ўсё тое, што магло так ці іначай зацікавіць Мацвеева.

— Я ж казаў, што гэта работа вартая вас, а вы — не! — выслухаўшы Аперпута да канца, канстатаваў Мацвееў, які, здаецца, ужо выйшаў са стану эйфарыі, выкліканай півтвом.— Дзякуй за зробленае на карысць спакутаванай Расіі.

Аперпут скупа ўсміхнуўся:

— Дай божа, каб гэта хоць трохі дапамагло ёй. Большага шчасця для сябе не бачу.

— Вы сапраўды рускі чалавек, васпан. Я вас выдатна разумею,— узнёсла вымавіў Мацвееў.

Аперпут мімаволі выпрастаў плечы, выпраміўся, а Мацвееў тым часам працягваў:

— Расія мае патрэбу ў такіх адданых сынах, як вы... Але, на вялікі жаль, мушу прызнацца, што сапраўдных змагароў, збавіцеляў Айчыны, застаецца ўсё менш і менш. Скрозь адны балбатуны і дэмагогі, якія нічога іншага не робяць, як толькі стукаюць сябе ў грудзі і лямантуюць пра любоў да Расіі... Замест таго, каб прымацца за справу, браць у рукі зброю... На сёння адзін Савінкаў Барыс Віктаравіч разам з некаторымі сваімі набліжанымі робіць так.— Мацвееў цяжка ўздыхнуў, правёў далонню па патыліцы.— У сувязі з тым, што яго добраахвотніцкая армія пацярпела часовае паражэнне, работу прапаную весці не ад яе імя, а ад імя «Саюза адраджэння». Гэта назва арганізацыі, членамі якой мы з вамі з'яўляемся. Гэта, дарэчы, і адказ на пытанне, якое вы мне задавалі раней.

Аперпут моўчкі прыняў інфармацыю да ведама.

— Калі не памыляюся, вы ў сваім расказе назвалі прозвішча Барановіча? — пацікавіўся Мацвееў.

— Але. Гэта начальнік мабілізацыйнага аддзела штаба фронту, член нашай смаленскай арганізацыі. А што?

— Ці мае ён магчымасць здабываць сакрэтныя матэрыялы аб мабілізацыйнай гатоўнасці чырвоных часцей?

— Натуральна. Усе падобныя дакументы праходзяць праз яго рукі, і тое-сёе ён ужо нам перадаў.

— Цудоўна! — са шчырым задавальненнем канстатаваў Мацвееў.— Гэтую работу неабходна актывізаваць. Пакуль мы будзем рыхтавацца да новага ваеннага паходу, было б вельмі карысна ўвесь час знаходзіцца ў курсе падзей, якія адбываюцца ў бальшавіцкай арміі. З цягам часу гэта можа адыграць рашаючую ролю. Таму прашу вас наладзіць работу па атрыманню сакрэтнай інфармацыі ваеннага характару, а Барановіча можна прызначыць адказным за гэтую лінію дзейнасці. Ён будзе тут як рыба ў вадзе.

— Вас зразумеў,— з гатоўнасцю адказаў Аперпут і раптам, зусім нечакана для Мацвеева, рашуча дадаў: — Нам трэба грошы. Тыя, што вы далі, мы ўжо зрасходавалі.

— Грошы!..— з прыхаваным адчаем прамовіў Мацвееў.— Праклятыя грошы... Яны ўсім патрэбны. Толькі дзе іх браць? Але вам, пан Аперпут, я сёе-тое дам. Праўда, многа не магу, так што не крыўдуйце...

Ён дастаў з унутранай кішэні загадзя падрыхтаваны пачак, падаў яго хаўрусніку, глыбока ўздыхнуў:

— Барацьбы не бывае без цяжкасцей і нягод... Хочаце вы гэтага ці не, але без гэтага не абысціся.

— І ўсё ж, і ўсё ж... Эфектыўнасць нашай работы прама прапарцыянальная сродкам, якія мы ў яе ўкладваем, пан Мацвееў.

— Кіньце арыфметыку, шаноўны Эдуард Отавіч. Яна не зусім дарэчы, калі гаворка тычыцца свяшчэнных паняццяў. І ўвогуле, не раскісайце, не падайце духам. Вам гэта не да твару. Усё наладзіцца, вось пабачыце! І ўдзячныя нашчадкі яшчэ ўслаўляць наш подзвіг, нашу сціплую працу...

Пасля паўзы Мацвееў спытаўся:

— Ёсць да мяне пытанні?

— Не. Усё ясна.

— Тады да наступнай сустрэчы.— Мацвееў на развітанне паціснуў субяседніку руку.— Беражыце арганізацыю.

Аперпут вяртаўся дадому па апусцелых заснежаных вуліцах, па якіх вольна гуляў толькі асцюдзёны снежаньскі вецер. Сустрэча з Мацвеевым засмуціла яго. «Відаць, нешта не ладзіцца ў шэфа»,— падумаў Аперпут. Для гэтай высновы ў яго былі свае падставы. У прыватнасці, ён прыгадаў гаворку з Магаршакам, якая адбылася ў часе апошняй камандзіроўкі ў Гомель. Той так выказаў тады сваю думку наконт Мацвеева і Заржэўскага: «Я не стаў бы цалкам давяраць гэтым людзям, Эдуард. Я расчараваўся ў іх. Лепей вядзіце работу з калегамі самастойна. На мой погляд, Мацвееў ужо не ўяўляе рэальнай сілы». Тады ж Магаршак выказаў яшчэ адну прапанову, якая добра запомнілася Аперпуту: «Калі будзе патрэба, магу пасадзейнічаць у наладжванні сувязей вашай арганізацыі з рускімі палітычнымі групоўкамі ў Варшаве. У мяне ёсць сувязі з імі». Успомніўшы





гэтыя словы, Аперпут, асветлены праменьчыкам нейкай няяснай надзеі, падумаў: «А можа скарыстаць параду Магаршака? Я ж нічога пры гэтым не трачу». І ён міжволі паскорыў крок, нібыта раптам убачыў наперадзе нейкую пэўную мэту, да якой варта было спяшацца.

## КАРОТКАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

**«Магаршак, ён жа Лейзар, Гельнер, Міллер. Рэзідэнт Савінкава ў Заходнім краі. Былы сіяніст. Сваяк барона Гінзбурга.**

**Неаднаразова прымаў актыўны ўдзел у яўрэйскіх пагромах, якія наладжваліся людзьмі Савінкава і Булак-Балаховіча. Савінкаў гаварыў пра яго: «Гэта не яўрэй. Я не веру, што яўрэй можа быць членам маёй арганізацыі, мы ж грамім яўрэяў».**

## *Варшава. Студзень 1921 года.*

Шашэня, ад'ютант Савінкава, зайшоў да начальніка, калі той заканчваў нараду з кіраўнікамі «Рускага эвакуацыйнага камітэта», створанага на базе «Рускага палітычнага камітэта», які існаваў раней.

— Барыс Віктаравіч,— ціха прагаварыў Шашэня на вуха шэфу,— званіў ад'ютант Пілсудскага палкоўнік Венява-Длугашоўскі. Зараз ён прыедзе да нас па нейкай важнай справе.

— Добра,— адказаў Савінкаў, працягваючы слухаць Філасофава, які выступаў з паведамленнем па фінансавых пытаннях.

...Праз некалькі хвілін Венява-Длугашоўскі з'явіўся ў «Брулі». Па выразу яго твару няцяжка было здагадацца, што ён прыехаў з надзвычай важным даручэннем. У такія хвіліны ад'ютант кіраўніка польскай дзяржавы набываў напышлівы выгляд, на прывітанні людзей адказваў лёгкім, амаль незаўважным кіўком галавы, ды і ўвогуле мог абразіць кожнага, хто не патураў ягоным жаданням. Гэтую асаблівасць наравістага ад'ютанта Савінкаў ведаў добра, таму тут жа згарнуў нараду і без прамаруджання прыняў Веняву-Длугашоўскага.

— Прашу сядаць, пан палкоўнік,— дагодліва паказваючы на крэсла, прапанаваў Савінкаў.— Жадаеце што-небудзь выпіць?

— Не, дзякуй,— сухім афіцыйным тонам адгукнуўся той.

Савінкаў уладкаваўся ў крэсле насупраць госця.

— Мне далажылі, што ў вас да мяне важная справа...

— Не зусім у мяне...

— Разумею і прашу прабачэння.

— Так. Пан Пілсудскі, на жаль, не змог сустрэцца з вамі асабіста і даручыў мне інфармаваць вас, што наш урад ухваліў зробленую вамі прапанову адносна аднаўлення работы пад сцягам «Народнага саюза абароны радзімы і свабоды», пан Савінкаў. Мне таксама даручана ўручыць вам гэты банкаўскі чэк — на патрэбы Саюза,— ён падаў дакумент Савінкаву,— на суму паўтара мільёна польскіх марак.

У душы Савінкаў трыумфаваў. «Што ж, першы крок зроблены,— адзначыў ён пра сябе.— Цяпер рашуча наперад! Да поўнай перамогі!» Яму карцела ўсхапіцца, абняць, радасна смеючыся, госця, нават цмокнуць яго ў выпешчаную, пругкую шчаку, але Барыс Віктаравіч стрымліваў эмоцыі, надаючы сваёй асобе важнасць і значнасць.

— Дзякуй,— спакойна прамовіў ён.— Перадайце пану Пілсудскаму маю шчырую ўдзячнасць і скажыце, што ў бліжэйшыя дні, калі ў яго, канечне, будзе такая магчымасць, я хацеў бы сустрэцца з ім асабіста.

— Добра. Я перадам вашу падзяку і ваша пажаданне, пан Савінкаў. Адказ пана Пілсудскага паведамлю па тэлефоне.

— Ну, а цяпер,— Савінкаў падняўся з крэсла,— хачу прапанаваць вам чарачку выдатнага французскага каньяку. Вы прынеслі мне добрыя весткі, пан палкоўнік, і за іх грэх не выпіць.— Ён накіраваўся да буфета, напоўніў каньяком два кілішкі, падышоў да госця, падаў яму пітво: — Прашу! Польшча заўсёды была і цяпер застаецца верным, адданым саюзнікам Расіі. Таму прапаную тост за нашу дружбу...

## ТЭЛЕГРАМА

**«Тэрмінова. Сакрэтна.**
**Масква. ВЧК.**
**Ад паўнамоцнага прадстаўніка ВЧК па Заходнім краі.**

**Паводле атрыманых звестак, Савінкаў атрымаў магчымасць для аднаўлення ў Варшаве работы контррэвалюцыйнай арганізацыі, якая называецца «Народны саюз абароны радзімы і свабоды». Інфармацыя правяраецца.**

**МЯДЗВЕДЗЬ.»**

## *Гомель. Студзень 1921 года.*

Далёка ззаду засталіся апошнія пералескі, і за акном вагона то з'яўляліся, то знікалі прыгарадныя будынiны. Нарэшце цягнік з грукатам і непрыемным скрыгатаннем счаплення вагонаў мінуў стыкі прыстанцыйных стрэлак. Паравоз даў апошні, доўгі гудок, папярэджваючы аб прыбыцці на станцыю, а яшчэ праз колькі хвілін, раз-другі рэзка тармазнуўшы, спыніўся, выпусціўшы з-пад свайго чорнага чэрава клубы белай, як малако, пары.

Аперпут выглянуў у акно вагона. «Вось і Гомель. Час выцягваць з-пад паліц рэчы».

Багаж яго быў невялікі. Фанерны чамадан, у якім былі складзены некалькі гімнасцёрак з галіфэ, ды пара зменнай бялізны, рэчмяшок са сціплай спажывай.

Закінуўшы за плячо рэчмяшок і ўзяўшы ў рукі чамадан, Аперпут выйшаў з вагона. Перон быў амаль пусты. З дзесятак постацей тых, хто прыйшоў сустракаць цягнік, дзяжурны па станцыі ў чыгуначнай форме, калека-салдат на маленькай самаробнай калясцы і два падцягнутыя, з перакінутымі праз плячо вінтоўкамі, чырвонаармейцы. Аперпут заўважыў вартавых ля ўвахода ў нейкае памяшканне за высачэзнымі, масіўнымі дзвярамі і, крыху павагаўшыся, вырашыў усё ж падысці да іх. Чырвонаармейцы, калі да іх наблізіўся незнаёмец, яшчэ больш падцягнуліся, паправілі рамяні.

— У мяне прызначэнне ў адну з гомельскіх часцей. Ці не падкажаце дарогу?

— Што там здарылася, Леўчанка? — пачуўся з-за дзвярэй нечы хрыпаты голас.

— Ды тут, таварыш Церпігораў, пытанне ўзнікла,— пракрычаў у адказ чырвонаармеец, старэйшы па ўзросту.

— Што? — не пачуўшы, відаць, аб чым гаворка, больш гучна прахрыпеў Церпігораў і, не чакаючы адказу, дадаў: — Зараз выйду...

Аперпут азірнуўся, насцярожыўшыся: калі бегчы — дык куды? Сам сябе супакоіў: няма, маўляў, чаго нервавацца, усё ідзе нармальна. Тым часам да яго падышоў невысокі, каржакаваты хлопец гадоў дваццаці пяці, у хвацка насаджанай на галаве фуражцы і туга падперазаным рэменем салдацкім шынялі. На левым баку, у кабуры, вісеў рэвальвер.

— Дзень добры,— павітаўся ён і адрэкамендаваўся:— Супрацоўнік губчэка Церпігораў. А вы, прабачце?..

— Аперпут, з штаба УАХР фронту.

— Вельмі прыемна. Чым магу быць карысны, таварыш?..

— Мне трэба ў часць, а як туды дабрацца, не ведаю,— Аперпут падаў чэкісту сваё прадпісанне.

Уважліва вывучыўшы дакумент, Церпігораў пачаў старанна тлумачыць яго падаўцу, як знайсці патрэбную часць, ва ўсіх падрабязнасцях апісваць найкарацейшы маршрут да яе. А Аперпут, робячы зацікаўлены выгляд, толькі і думаў, як хутчэй пазбавіцца ад уедлівага субяседніка.

Церпігораў урэшце выгаварыўся і весела заключыў:

— Вось і ўся арыфметыка!

— Дзякуй вам, таварыш... Да пабачэння.

Наняўшы на прывакзальнай плошчы рамізніка, Аперпут накіраваўся ў часць. Заснежаныя вуліцы Гомеля навявалі смутак. Нешта няўтульнае, нежывое, пагрозлівае праглядвалася ва ўсім абліччы горада. «Ці то халодныя колеры зімы вінаваты, ці проста чуецца змярцвелае дыханне вайны?..» — падумаў Аперпут, слухаючы рытмічны пошчак конскіх капытоў у гулкай цішыні вуліцы.

У Гомель ён прыехаў на новае месца службы, на пасаду супрацоўніка для даручэнняў пры камандзіры 147-га батальёна 49-й брыгады войск УАХР Заходняга фронту.

Пакідаючы Смаленск, Аперпут усклаў кіраўніцтва арганізацыяй на Маісеева, а ў наменнікі яму рэкамендаваў Бржазоўскага. Дамовіліся аб сродках сувязі. Яна павінна была ажыццяўляцца праз спецыяльных пасыльных, якія лічыліся пакуль у рэзерве арганізацыі, альбо пры дапамозе распрацаванага самім Аперпутам шыфру — калі будзе патрэба скарыстаць паслугі пошты. Эдуард Отавіч не сумняваўся, што пасеў, зроблены ім на смаленскай зямлі, дасць надзейныя, а галоўнае — трывалыя ўсходы.

Адзінае, што сур'ёзна непакоіла Аперпута,— гэта боязь страціць Ірыну. Развітваючыся, яны пакляліся ў вернасці адзін аднаму, кожны паабяцаў зрабіць усё, што ад яго залежыць, каб наблізіць час новай сустрэчы і ўвогуле той дзень, калі яны назаўсёды застануцца разам.

Новая пасада Аперпута была ніштаватай, толькі зусім не гэта вабіла яго ў горадзе над Сажом. Па-першае, Эдуард Отавіч меркаваў наладзіць тут больш цесны кантакт з Магаршакам, на якога ўскладваў значныя надзеі, звязаныя з далейшай дзейнасцю ў падпольнай арганізацыі, а па-другое, у Гомелі жылі гатовыя да падпольнай работы Масанін, Шчэрба і Харкоў, пра якіх Аперпут нядаўна дакладваў кампаньёнам у Смаленску.

Знаёмства Аперпута з Магаршакам завязалася яшчэ ў дзевятнаццатым, калі Эдуард Отавіч служыў у Гомелі і часта заходзіў у магазін канцылярскіх прылад, які трымаў Магаршак. Ужо тады вопытнае вока Магаршака разгледзела ў гэтым акуратным, заўсёды падцягнутым ваенным патэнцыяльнага праціўніка Савецкай улады. Амаль кожнае наведванне Аперпута ў лаўку яе гаспадар выкарыстоўваў для таго, каб пайграць на кар'ерысцкіх памкненнях госця, абвастрыць у яго незадаволенасць новай уладай. Што ж, час паказаў, што намаганні Магаршака не былі марнымі...

Далажыўшы начальству аб сваім прыбыцці і атрымаўшы суткі вольнага часу для ўладкавання асабістых спраў, Аперпут вырашыў наведаць Магаршака і накіраваўся да яго ў краму.

— Божухна, Эдуард! Ды якім жа ветрам?! — здзіўлена, амаль разгублена сустрэў Магаршак Аперпута.— Зноў камандзіроўка?

— Пераведзены ў Гомель для далейшага праходжання службы! — Аперпут усміхнуўся.

— Так-так...— уражаны нечаканым паведамленнем і яшчэ не ведаючы, радавацца гэтай навіне ці засмучацца ёю, Магаршак неяк бяссэнсава пацiраў рукі, стоячы пасярод крамы. Нарэшце ён ачомаўся, энергічна падышоў да госця, абняў яго за плечы, сказаў:

— Што гэта мы пасярод пакоя сталі? Пойдзем да мяне ў дырэктарскую...

— Як загадаеце.

— Не загадваю, а запрашаю. Там больш зручна гаварыць... Не навідавоку.

Яны хутка прайшлі ў службовы пакой Магаршака. Аперпут загаварыў першы:

— Я маю намер скарыстаць вашу параду. Памятаеце?.. Вы абяцалі дапамагчы ў наладжванні сувязей. Вось я і вырашыў...

— А хіба без службовага пераводу гэтага нельга было зрабіць?

— Я хачу стварыць тут арганізацыю, падобную на тую, што ўжо дзейнічае ў Смаленску... Маю гонар сказаць, што сёй-той з людзей на прыкмеце ўжо ёсць.

Магаршак спадылба зірнуў на Аперпута:

— Арганізацыя? Гэта не так проста, Эдуард. Гомельская чэка не спіць, і барані божа з ёю пазнаёміцца бліжэй.

— Нічога, яшчэ паглядзім, хто каго.

— Ведаеце, Эдуард, па-мойму, вашаму залатому характару ўласціва і адна не зусім станоўчая рыса. Дарэчы, як і большасці рускага афіцэрства. Гэта — схільнасць да авантурызму. Я памыляюся?

— Гм... Не думаў пра гэта. Ды і хто пакажа мяжу паміж авантурызмам і смеласцю, рашучасцю, доблесцю?

— Адчуваецца ўплыў Мацвеева. Ох, адчуваецца! Гэты гаварун і баламут нечаму вас усё ж навучыў. Вы гаворыце прыгожа, але не зусім абгрунтавана. Зусім, як ён.— Магаршак гаварыў спакойна і ўпэўнена.— Так нельга. Жыццё патрабуе рэальнага стаўлення да сябе. Яго нельга абысці на павароце, падмануць. Яно не даруе хлусні. І паспешнасці таксама. Паспешнасць — наш вораг. Запомніце гэта. Праціўнік, ён жа не дурань. Сёй-той з нашых лідэраў недаацаніў яго і зламаў сабе на гэтым шыю. Я не хачу, Эдуард, каб вас напаткаў той жа лёс. Вы мне сімпатычны...

— Дзякуй.

— Запомніце, ісціна ў наш час каштуе вельмі дорага. Так што, шаноўны Эдуард, прыміце цяпер і другую маю параду. Якую я толькі што вам сказаў.

— Безумоўна.

— У такім выпадку і я абяцаю не застацца ўбаку ад вашай справы. Дамовіліся, Эдуард?

І, не чакаючы адказу Аперпута, ён выйшаў з пакоя, а літаральна праз хвіліну вярнуўся назад, трымаючы ў руках нейкі пакунак.— Вазьміце гэта.

— Што гэта і навошта? — здзівіўся Аперпут, уважліва разглядаючы скрутак.

— Я вам сабраў сёе-тое з канцылярскіх прылад.

— Навошта? — зноў спытаўся Аперпут і тут жа сам здагадаўся: — Для адводу вачэй?

— Але. Бярыце.

Магаршак выглянуў з пакоя, хутка прагаварыў:

— Добра, Эдуард. Да пабачэння!.. Ідзіце, пакуль у лаўцы нікога няма.

Быў позні вечар. Ісці дадому Аперпуту не хацелася, і ён вырашыў крыху пахадзіць па горадзе. Выйшаў на стромы бераг Сажа ў парку Паскевіча. Шырокі краявід ледзь праглядваўся ў заснежанай цемры. Гэткімі ж шырокімі, толькі куды больш светлымі, бачыліся Аперпуту і гарызонты яго ўласнага жыцця.

Ён яшчэ не ведаў, што ў Гомелі ім ужо зацікавіліся людзі, сустрэчы з якімі пакуль не ўваходзілі ў ягоныя планы...

**(Працяг будзе.)**

Малюнкі Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**



# ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

**АДДЗЕЛ ВЯДЗЕ**
**АДВАКАТ**
**Аляксандр КРАЎЧАНКА.**

**«Паважаныя таварышы, я ўпершыню звяртаюся ў ваш часопіс. Дапамажыце. Справа ў тым, што я спрабаваў вынесці з завода дэталі, але быў затрыманы на прахадной. За гэта мяне пакаралі ў адміністрацыйным парадку. Але гэтага адміністрацыі падалося мала: мяне звольнілі з работы. Ці справядліва гэта? Ці адпавядае закону? Раней за гэта не звальнялі...**

**К. Н. Сцяпанаў.»**

У мэтах барацьбы з раскраданнямі ў артыкул 33 Кодэкса законаў аб працы ўнесена новая падстава скасавання працоўнага дагавора па ініцыятыве адміністрацыі: за крадзеж па месцу работы (у тым ліку дробнай дзяржаўнай або грамадскай маёмасці), устаноўлены прыгаворам суда, які ўступіў у законную сілу, або пастановай органа, у кампетэнцыю якога ўваходзіць прымяненне адміністрацыйнага спагнання або мер грамадскага ўздзеяння.

Адміністрацыя прадпрыемства, на якім вы, таварыш Сцяпанаў, працавалі, магла вас звольніць, папярэдне атрымаўшы на гэта згоду прафкома. У процілеглым выпадку скасаванне працоўнага дагавора было б незаконным. Рашэнне адміністрацыі аб вашым звальненні з работы вы можаце аспрэчваць у народным судзе.

Варта зазначыць, што звальненне работніка з'яўляецца крайняй мерай. Як правіла, адміністрацыя выкарыстоўвае меры дысцыплінарнага і грамадскага ўздзеяння. У прыватнасці, законам прадугледжана, што грамадзяне, якія ўкралі дзяржаўную або грамадскую маёмасць, побач з прыцягненнем да адміністрацыйнай ці крымінальнай адказнасці або прымяненнем да іх мер грамадскага ўздзеяння, пазбаўляюцца ўсялякіх прэмій на перыяд, які вызначае адміністрацыя па ўзгадненню з працоўным калектывам або прафсаюзным камітэтам прадпрыемства, установы, арганізацыі або саветам брыгады. Яны пазбаўляюцца таксама ўзнагароды па выніках гадавой работы, ільготных пуцёвак у дамы адпачынку або санаторыі; па прапанове працоўнага калектыву, адміністрацыя прадпрыемства, установы, арганізацыі па ўзгадненню з прафсаюзным камітэтам можа перанесці чаргу такога работніка на атрыманне жылой плошчы.

Вось і атрымліваецца, таварыш Сцяпанаў, што красці — занятак не толькі амаральны, але і нявыгадны. Самае ж галоўнае, што крадзеж з прадпрыемства капеечнай гайкі не застаецца па-за ўвагай нашых дзяцей. Цяжка прадказаць, які ўплыў гэта зробіць на іх маральнае фарміраванне. Адно ведаю дакладна: павагу дзяцей нашых, а разам з ёй і любоў, мы губляем. Дык ці варта плаціць такой дарагой цаной?

У мінулым годзе ў адным з народных судоў Мінска разглядалася крымінальная справа па абвінавачванні маладога рабочага, які рэгулярна краў з завода радыёдэталі. У судзе бацька падсуднага спрабаваў вытлумачыць тое, што здарылася, уплывам рабочых, якія таксама займаліся крадзяжом.

— Мы з маці,— тлумачыў ён,— імкнуліся выхаваць у сына толькі добрае — працавітасць, ашчаднасць, акуратнасць. Ён у нас не п'е і нават не курыць. Любіць майстраваць. Хацеў сабраць радыёпрыёмнік. Вядома, мы ведалі, што дэталі ён выносіць з завода. Але ж мы не вучылі яго красці. Маці неаднойчы стрымлівала яго: «Ой, глядзі, сынок, пападзешся — у бяду трапіш»... А цяпер вось за яго перад судом чырванець даводзіцца...

Паказанні ж падсуднага абвергглі тлумачэнні бацькі і раскрылі сапраўдную прычыну бяды, што здарылася з юнаком:

— Вядома, я ведаў, што красці дрэнна. Але душу, свядомасць гэта не кранала. Галоўнае, здавалася, не папасціся... На заводзе ж дэталей шмат, не збяднее... Не, мой бацька не вучыў мяне красці, нават не раз выгаворваў за гэта. Але ж сам... Калі сыну гавораць адно, а робяць зусім наадварот...

Мы, здаецца, выйшлі за рамкі пастаўленага пытання. А магчыма, і не выйшлі, а толькі падышлі да важнай і сур'ёзнай размовы аб выхаванні ашчадных адносін да народнага дабра. Немалаважна ведаць і закон, які ахоўвае гэта дабро. Бо веды гэтыя могуць перасцерагчы некага з нас ад неабдуманага ўчынку і ад яго маральна-праваых вынікаў: сораму, раскаяння, суда.

**«Паважаная рэдакцыя, прашу вас паведаміць, якія правы на жыллё мае малады спецыяліст, які прыехаў працаваць на прадпрыемства па накіраванню?**

**В. Захарава,** г. Брэст.»

Маладым спецыялістам, якія скончылі аспірантуру, клінічную ардынатуру, вышэйшую, сярэднюю спецыяльную, прафесіянальна-тэхнічную і іншую навучальную ўстанову і прыехалі на работу пасля размеркавання ў пэўную мясцовасць, прадастаўляецца ізаляванае жылое памяшканне па-за чаргой. Месца ў інтэрнаце для іх з'яўляецца часовай мерай забеспячэння жыллём.

ЗНАХОДКІ

# Старажытныя амулеты Падзвіння

Немалую ролю ў жыцці нашых продкаў адыгрывалі розныя забабоны і прымхі, вера ў духаў. Таму і ўпрыгожанні, якія насілі як жанчыны, так і мужчыны, часам задавальнялі не толькі эстэтычныя запатрабаванні, але і адыгрывалі ролю фетышаў. Так, у каменным веку такімі фетышамі былі падвескі з зубоў жывёл ці кавалачкаў бурштыну. Лічылася, што падвескі прыносяць уладальніку здароўе, шчасце, багацце і абараняюць ад злых духаў. Часта сярод падвесак сустракаюцца сімвалы нябесных свяціл: выявы паўмесяца, сонца (у выглядзе круга ці ромба). Вядомы таксама падвескі ў выглядзе жывёл і птушак, а таксама бытавых рэчаў (лыжак, ключоў, грабеньчыкаў). Пазней на падвесках пачалі з'яўляцца выявы людзей.

Тыповым славянскім упрыгожаннем былі лунніцы — падвескі ў выглядзе месяца. Яны выраблялiся з розных металаў, а некаторыя ўпрыгожваліся падробленым зернем, або, як полацкая лунніца,— выемчатай эмаллю. Каменная формачка для адліўкі ўпрыгожанняў, знойдзеная ў Віцебску, сведчыць, што ў XI—XIII стст. тут былі распаўсюджаны трохвугольныя лунніцы. Даволі распаўсюджанымі былі і манетападобныя ці круглыя падвескі — цiснёныя, з рэльефнымі выявамі або ажурныя. У іх арнаментацыі дамінавала салярная сімволіка.

Сімваламі жыцця і ўрадлівасці лічыліся падвескі ў выглядзе каня. Плоскія падвескі-конікі часта знаходзяць у час археалагічных раскопак. Яны бытавалі амаль ва ўсёй Еўропе. Але ёсць і цікавыя, вельмі рэдкія для Беларусі знаходкі аднагаловых полых падвесак-конікаў, па тулаве якіх праходзяць хвалепадобныя лініі, якія ўвасабляюць ваду. У незвычайным вобліку гэтых падвесак прасочваецца зліццё двух асноўных персанажаў фіна-угорскай міфалогіі — каня і качкі. У такім выглядзе падвеска павінна была ўзмацняць значэнне амулета як сімвала ўрадлівасці. Гэтыя знаходкі характэрны для тэрыторыі рассялення фіна-угорскіх плямён. Шмат іх было і ў наўгародскай зямлі. У Беларусі вядомы толькі тры такія падвескі. Знойдзены яны ў Старым Барысаве, Віцебску і на гарадзішчы Маскавічы Браслаўскага раёна. Падвескі, знойдзеныя ў Старым Барысаве і Віцебску, вельмі падобныя адна на адну. Гэтыя ўпрыгожанні ўяўляюць каня з плоскай храпай, кольцападобнымі вушамі і грывай у выглядзе жгута. Да ніжняй часткі ўпрыгожанняў з кожнага боку прыварана па дзве пятлі, да якіх звычайна прымацоўваліся бразготкі.

Ад вышэйапісаных некалькі адрозніваецца маскавіцкая знаходка. У раскрытай пашчы маскавіцкага коніка — драцяны завіток. Вушкі тырчаць, грыва кучаравіцца кольцамі, хвост у выглядзе спіралі. Петлі на нізе абламаліся, але можна меркаваць, што іх было па дзве з кожнага боку і адна — каля хваста.

На Беларусь полыя падвескі-конікі трапілі хутчэй за ўсё разам з выхадцамі з Наўгародчыны. І паколькі ўпрыгожанні ў X—XIII стст. мелі дадатковую функцыю індыкатараў племянных аб'яднанняў, жанчыны розных плямён насілі розныя ўпрыгожанні.

**Людміла ДУЧЫЦ,**
**Таццяна БУБЕНЬКА.**



БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

# Мой знаёмы — вегетарыянец...

**«Мае новыя знаёмыя — вегетарыянцы. Ва ўсякім выпадку яны сябе так называюць, бо не ўжываюць мяса, тлушчаў, вострых страў. Лічаць, што ў выніку такой дыеты стан іх здароўя значна палепшыўся. Агітуюць і мяне далучыцца да іх. Згаджацца ці не!**

Ігар Маліноўскі,
г. Брэст.»

Падобнае пытанне задавалі медыкам усіх часоў, бо вытокі вегетарыянства — у глыбокай старажытнасці. На працягу многіх стагоддзяў да яго звярталіся даволі значныя групы людзей, у асноўным грунтуючыся на рэлігійных догматах.

Вегетарыянства ўяўляе сабой сістэму харчавання чалавека без ужывання прадуктаў жывёльнага паходжання. Найбольш артадаксальныя вегетарыянцы харчаваліся толькі прадуктамі расліннага паходжання. Сярод іх былі прыхільнікі ўжывання сырых прадуктаў (уключаючы зерне злакаў, бульбу і г. д.), якія лічылі такое харчаванне асабліва карысным. Менш артадаксальныя вегетарыянцы, выключаючы з меню мяса, ужывалі малако, яйкі і сметанковае масла.

Вегетарыянцы лічылі, што ўжыванне мяса прыводзіць да назапашвання ў арганізме чалавека шлакаў, якія атручваюць і засмечваюць клеткі, скарачаюць працягласць жыцця, робяць чалавека падобным у паводзінах на жывёл і г. д. Аднак сучасной навукай аб харчаванні (дыеталогіяй) устаноўлена мэтазгоднасць і неабходнасць спажывання чалавекам прадуктаў як расліннага, так і жывёльнага паходжання, у прыватнасці, розных відаў мяса. Разнастайныя прадукты харчавання ўтрымліваюць шэраг незаменных фактараў у пэўных, неабходных чалавеку, суадносінах.

Добра вядома, што бялкі з неапрацаваных раслінных прадуктаў з цяжкасцю пераатраўліваюцца страўнікам і кішэчнікам. Многія з іх не збалансаваны па амінакіслотнаму саставу, не поўнасцю засвойваюцца арганізмам чалавека (напрыклад, бялкі пшаніцы, рысу). Такім чынам, вегетарыянцы пераацэньвалі ролю сырых прадуктаў як паўнацэннай крыніцы бялку. Праўда, збалансаваны рацыён можна скласці і з раслінных прадуктаў, але з абавязковай дабаўкай малака і яек. У сучаснай медыцыне такія рацыёны выкарыстоўваюцца пры лячэнні некаторых захворванняў.

У шэрагу выпадкаў для правядзення курса лячэння (але не пастаяннага харчавання!) сардэчна-сасудзістых захворванняў і атлусцення можна выкарыстоўваць і раслінныя рацыёны, як правіла, багатыя на вітаміны, мінеральныя рэчывы, арганічныя кіслоты. Такія рацыёны садзейнічаюць паляпшэнню тлушчавага саставу крыві, нармалізуюць масу цела. Вядома, смакавыя якасці такіх вегетарыянскіх рацыёнаў значна ніжэйшыя.

Што датычыць меркавання аб падоўжванні жыцця тых, хто прытрымліваецца вегетарыянскай кухні, то тут варта нагадаць, што гіпадынамія, атлусценне, курэнне і алкаголь скарачаюць жыццё больш, чым вегетарыянства яго падоўжвае.

Даследчыкамі ўстаноўлена, напрыклад, што кожны лішні кілаграм вагі забірае 2 месяцы жыцця чалавека. Таму адна з асноўных сацыяльна-медыцынскіх праблем на сучасным этапе — прафілактыка залішняй вагі цела шляхам рацыянальнага, збалансаванага, разнастайнага харчавання, актыўнага ладу жыцця, заняткаў фізічнай культурай і спортам, барацьбы з курэннем і ўжываннем спіртных напіткаў.

**Леанід БАРАНАЎ,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**

САКРЭТ «ФІРМЫ»

## КАТЛЕТА ПІКАНТНАЯ

Прыгатаваць тушку курыцы, аддзяліць мякаць (косці можна скарыстаць для булёну), прапусціць 2 разы цераз мясарубку, пасаліць, дабавіць сырое яйка, размолаты мускатны арэх. Усё хораша перамяшаць і ўзбіць, масу падзяліць на порцыі. На сярэдзіну сфармаванай аладкі пакласці фарш — нацёрты на та[illegible] сыр, перамяшаны са сметанковым маслам. [illegible]цы завярнуць і надаць форму катлеты, абкачаць у паніровачных сухарах і смажыць, як заўсёды, спачатку на моцным агні, потым — на слабым.

Падаецца з рознымі складанымі гарнірамі — бульбай, агароднінай і садавінай (марынаванай і свежай — па сезону), з рысам, макаронай, каляровай капустай, агароднінай свежамарожанай сумессю.

**На сям'ю з чатырох чалавек патрэбна:**
**тушка курыцы, 2 яйкі, мускатны арэх (1 чайная лыжка), соль па густу, сыр — 150 г, масла сметанковае — 50 г, паніровачныя сухары, тлушч.**

**Любоў ЯКІМОВІЧ,**
**загадчыца вытворчасці рэстарана «Журавінка».**



# Выдавалася ў XVI стагоддзі

Аўтарамі перакладу былі: таленавіты пісьменнік, паэт і кампазітар Цыпрыян Базылік, а таксама рэфармацыйны дзеяч, выдатны эрудыт Андрэй Валян з Біюцішак (непадалёку Ашмян). Базылік, перакананы працаўнік феадальнага насілля, прыхільнік асветы ў Беларусі, выдаў у Брэсце і ў Лоску (на Міншчыне) шэраг каштоўных свецкіх кніг. Яго паплечнік Валян быў зацятым ворагам каталіцкай рэакцыі і самаўпраўства духоўных і свецкіх магнатаў.

Кніга азагалоўлена: «Гісторыя пра жыццё і доблесныя справы Георга Кастрыёці, якога звычайна называюць Скандэрбегам, эпірскага князя...» На апошнім лісце кнігі ўказваецца: «Надрукавана ў Брэсце Літоўскім у друкарні Цыпрыяна Базыліка, 1569 года, 27 дня кастрычніка».

У 1985 годзе споўнілася 580 гадоў з дня нараджэння героя албанскага народа Георга Кастрыёці, празванага Скандэрбегам, гэта значыць Аляксандрам-беем (1405—1468). Гэта імя стала ў Турцыі сімвалам доблесці і высакароднасці з часоў Аляксандра Македонскага. Скандэрбег, выкрадзены ў дзяцінстве, выхаваны турэцкімі заваёўнікамі, уцёк ад султана і, узначаліўшы атрады албанскіх патрыётаў, разграміў войскі Мурада II. Скандэрбег стаў гразой ворагаў сваёй радзімы. Яго прыклад натхніў венграў, харватаў, сербаў даць адпор іншаземным захопнікам.

Знамянальна, што да сотай гадавіны смерці перамаганоснага албанскага военачальніка ў Беларусі, у 1569 годзе, Брэсцкі друкарскі двор прымеркаваў цудоўна афармленую вялікую кнігу (больш як 700 старонак), на тытульным лісце якой красаваўся партрэт легендарнага абаронцы эпірскай краіны Скандэрбега верхам на кані. Гэта быў пераклад з лацінскай мовы на польскую твора албанскага гісторыка XVI стагоддзя Барлецыуса, які апісаў жыццё і подзвігі свайго вялікага земляка.

У прадмове перакладчыкі і выдаўцы пісалі: «...Стогнуць сёння ў турэцкай няволі сыны і браты агульнага з намі славянскага народа — сербы, харваты, далмацінцы... і гэтыя няшчасныя... імкнуцца да збавення ад жорсткага рабства...— гэтаксама, як нядаўна доблесны эпірскі народ, пад кіраўніцтвам свайго роднага Скандэрбега, скінуў чужаземнае ярмо... Тады па ўсёй эпірскай зямлі гучаў заклік: свабода! Свабода! Гэта слова гучала ва ўсіх у вушах, было ва ўсіх на вуснах... Гэта гісторыя можа служыць павучаннем для народаў, якія пакутуюць ад рабства, як трэба змагацца за вызваленне, тым жа, хто карыстаецца дабротамі свабоды, гісторыя пра Скандэрбега ўкажа, як належыць яе абараняць і адстойваць...»

Заклік да адзінства для сумеснага адпору жорсткаму і бязлітаснаму ворагу, кінуты больш як паўтысячы гадоў таму назад праслаўленым албанскім палкаводцам, у наступныя стагоддзі адгукаўся ў сэрцах далёкіх брацкіх народаў.

**Якуб ПАРЭЦКІ.**
**Фота аўтара.**

На здымку: вокладка старажытнай кнігі.



**ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ**

**Квартэт.**
**Фота Якава МЯЦЕЛІЦЫ.**

# Ажурныя панчохі

**Ажурныя панчохі прыйдуцца дарэчы да любых строяў.**

**Для работы спатрэбіцца 150 грамаў тонкай пражы і шыдэлак дыяметрам 2 міліметры. Шарсцяную нітку лепш скамбінаваць з бавоўнянай ці сінтэтычнай — тады панчохі атрымаюцца больш моцнымі.**

Пачынаем вязаць панчоху па крузе, ад наска, шчыльнай вязкай простымі слупкамі. У кожным кругавым радку раўнамерна набаўляем па 3-4 слупкі. Так правязваем 15 радкоў, каб у апошнім атрымалася 64 пятлі. Далей вяжам ажурнай вязкай: 3 паветраныя пятлі, 1 слупок, 3 паветраныя пятлі, 1 слупок і г. д. па крузе. У першым ажурным радку слупкі правязваюцца на кожнай 3-й пятлі папярэдняга рада. У наступным радку слупок правязваецца на цэнтральнай пятлі ланцужка папярэдняга рада. Праз 20 ажурных радкоў пачынаем вязаць пятку: робім ланцужок з 6 паветраных петляў і вакол яго вывязваем 15 зваротных радкоў паўкругам, каб у апошнім правым радку атрымалася 51 пятля (для гэтага ў кожным радку набаўляем па 3 пятлі). Далей працягваем вязаць па крузе ажурнай вязкай 65 радкоў. Каб пашырыць панчоху ў верхняй частцы, правязваем два радкі шчыльна, простымі слупкамі — па адным слупку на кожную пятлю папярэдняга рада. 68-мы радок зноў вяжам ажурнай вязкай, прычым слупкі правязваюцца на кожнай 3-й пятлі папярэдняга рада. Такім чынам вяжам панчоху патрэбнай даўжыні.

**Алена ЛОСЬ-ЗАЛУЖНАЯ.**

**ЗРАБІЦЕ САМІ**









# ДЗЕ БУДЗЕМ СТАРТАВАЦЬ?

Дазвольце такое пытанне: чаму ў нашых гарадах пракладваюць кіламетры бетонных дарожак, па якіх ніхто не хоча хадзіць? Правільна, яны не там, дзе трэба, пракладзены. Без уліку прапаноў гараджан. Па такой жа прычыне сотні «аб'ектаў здароўя» не прыцягваюць да сябе ні маладога, ні сталага фізкультурніка. Сумна глядзець на ржавыя «турнікі», асфальтаваныя рэшткі валейбольных і баскетбольных пляцовак, звараныя з адбракаваных водаправодных труб футбольныя вароты без сеткі...

Сюды прыходзяць выбіваць дываны. Але «ўсёй сям'ёй на старт!» тут не выходзяць.

Будаўнікі вінаватыя? Праектныя інстытуты? Спартыўныя работнікі? Хто? І першыя, і другія, і трэція.

Між іншым: калі і з чаго пачалася фізкультурная слава Раўбічаў або Стаек? Дзесьці «высока» прадвызначалася іх спартыўная біяграфія? Не. Вядомыя цяпер «кузні рэкордаў» выраслі якраз там, дзе аблюбавалі сабе месца трэніровак «неарганізаваныя» фізкультурнікі.

Цяпер гэта буйныя цэнтры здароўя (хаця і яны калісьці не ўражвалі сваімі памерамі). А ці ёсць сёння прыклады па-сапраўднаму папулярных «маленькіх стадыёнаў»? Ёсць. Вось — адзін з іх.

Многім мінчанам знаёмы спартыўны гарадок, што размясціўся недалёка ад Юбілейнай плошчы. Тут і футбольнае поле, і валейбольная з баскетбольнай пляцоўкі, і турнікі, і палосы перашкод... Арыгінальнай канструкцыяй вызначаюцца і традыцыйныя дзіцячыя горкі, пясочніцы. За масавымі стартамі шматлікія гледачы могуць назіраць з трыбун. Праектаваў гарадок здароўя інстытут «Белжылпраект». А райком камсамола, райспорткамітэт усё зрабілі для таго, каб гэты крыху незвычайны спартыўны комплекс з'явіўся як мага хутчэй. Былі суботнікі, працавалі свабоднымі вечарамі фізкультурнікі. Потым адбылося ўрачыстае адкрыццё. З таго дня прайшло некалькі гадоў. За гэты час прыкметна прыбыло ў раёне значкістаў комплексу ГПА, больш стала спартсменаў-разраднікаў.

Прыклад гэты, бадай, не патрабуе асаблівых каментарыяў. Аднак трэба падкрэсліць: канчатковай мэтай для стваральнікаў «стадыёна ў двары» было не «будаўніцтва яшчэ аднаго тыпавога спартыўнага аб'екта», а — аб'екта сучаснага, арыгінальнага. Паўз які нават пачынаючы фізкультурнік не пройдзе абыякава.

Шмат, вельмі шмат розных спартыўных збудаванняў у рэспубліцы. Каля 40 тысяч толькі хакейных, валейбольных і іншых пляцовак. Але не пустуюць з іх толькі:

а) узведзеныя з улікам пажаданняў фізкультурнікаў — гэта значыць, удала было абрана месца, добра спраектаваны і добрасумленна пабудаваны аб'ект;

б) «аддадзеныя ў эксплуатацыю» калектывам фізкультуры не «фармальна створаным», а сапраўдным, захопленым ідэяй прапаганды спорту, здаровага ладу жыцця.

Падобныя КФК і аб спартыўным інвентары клапоцяцца, і вядомых атлетаў на сустрэчы запрашаюць, і свае турніры, спаборніцтвы арганізоўваюць.

Усяго дзве ўмовы. Але калі не выканана хаця б адна з іх... Вось аб чым нельга забываць спартыўным работнікам, будаўнікам.

І апошняе. Пачаўся новы — зімні — спартыўны сезон. У сакавіцкім нумары часопіса мы прапанавалі фізкультурнікам рэспублікі даць ацэнку спартыўна-масавай работы па месцу жыхарства, на сваім заводзе, у калгасе... Гэта значыць — ацэнку мінулай спартыўнай зімы.

Ацэнка аказалася даволі высокай. А як прайшла падрыхтоўка да маючых адбыцца «снежных стартаў»? Раскажыце аб гэтым у сваіх пісьмах у рэдакцыю.

Самыя цікавыя з іх будуць апублікаваны. А з пісьмамі, якія ўтрымліваюць крытычныя заўвагі, яшчэ да публікацыі будуць азнаёмлены работнікі Спорткамітэта БССР.

**Валерый МАКСІМАЎ.**

**На крутым павароце.
Фота Віктара ЖЫЛІНА.**

